

**Аркадзь Бенедыктавіч Мігдал,** *(11.3.1911, Ліда – 9.2.1991),*
*фізік-ядзершчык, акадэмік Акадэміі АН СССР, першы старшыня Федэрацыі падводнага спорту СССР.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 1 ( 53 )** **СТУДЗЕНЬ - САКАВІК** **2011 г.**

## *У НУМАРЫ:*



***Стар. 2. Кроніка Ліды.***



***Стар 6. Лідчына ў 2010 годзе.***

***Стар. 12. Лідскія юбіляры 2010.***
***Сцяпан Пруткоў***
***Юрый Заяц***
***Мікола Лазоўскі***



***Стар. 14. Акадэмік Аркадзь Бенедыктавіч Мігдал***



***Стар. 23. Астрынскія, Беліцкія, Васілішскія, Жалудоцкія, Конеўскія, Лідскія, Радунскія і Эйшышскія баяры ў 1528 г.***

***Стар. 33. Цвермская капліца.***




***Стар. 33.«Жыццё чалавека — гэта вялікая таямніца…» (Хрысціне Лялько - 55)***

***Стар. 44. Паўвеку. Маладосць.***

*На першай старонцы выкладкі: уязны знак у Ліду з боку Гародні. Праект Рычарда Грушы. Здымак Станіслава Судніка.*

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік і навуковы консультант
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 300 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 20**
**Часопіс падпісаны да друку 31.03.2011 г.**
**Часопіс надрукаваны 2.12.2011 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 2680 руб.**
**індывід. 6 мес.- 5360 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792











**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# КРОНІКА ЛІДЫ




У канцы 2010 года ў серыі "Залатое пяро" выйшла кніга Віктара Праўдзіна **"Нелюбімыя гінуць"**. Выдавецтва "Мастацкая літаратура", Менск. Наклад 2000 ас.




У пачатку студзеня 2011 г. Лідская цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы выдала "Краязнаўчы каляндар" на 2011 год.



4 студзеня 2011 г. прыродны газ прыйшоў у першы дом вёскі Голдава.




У студзені 2011 г. ва Ўстанове інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ", г. Ліда выйшаў зборнік песень Лідскага кампазітара Ўладзіміра Гарачова **"Калі ласка"**.







У студзені 2011 г. ў Лідзе выйшла кніга Януша Адзямкоўскага “Ліда, 1920”. Кніга выйшла на беларускай і польскай мовах.



З 22 студзенят 2011 г. лідскія тэлефоны сталі 6-ці значнымі



З 22 па 30 студзеня 2011 г. ў Лідскім лядовым палацы прайшоў першы хакейны турнір. Перамогу атрымала каманда Ліды.




3 лютага 2-11 г. лідзянін у латарэю “КЕНО” выйграў 902 мільёны рублёў (прыблізна 300 тысяч долараў).



**АСТРОЎСКІ Аляксандр Мікалаевіч**, старшыня Лідскага раённага выканаўчага камітэта.

Нарадзіўся 11 верасня 1974 года ў г. Лідзе. Скончыў Гарадзенскі сельгасінстытут па спецыяльнасці “Заатэхнія” і Беларускі гандлёва-эканамічны ўніверсітэт спажывецкай кааперацыі па спецыяльнасці “Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве”. Працаваў галоўным заатэхнікам калгаса імя Чапаева Лідскага раёна, начальнікам гандлёвага сектара ў Лідскім філіяле АРЗ-НАД-2, узначальваў свінагадоўчы комплекс “Прагрэс” ААТ “Лідахлебапрадукт”, а пазней быў прызначаны на пасаду дырэктара Смаргонскага камбіната хлебапрадуктаў. 12 чэрвеня 2009 года Прэзідэнт краіны даў згоду на прызначэнне Аляксандра Мікалаевіча Астроўскага старшынём Воранаўскага райвыканкаму. А 7 лютага 2011 года дэпутаты Лідскага раённага Савета дэпутатаў зацвердзілі яго на пасадзе старшыні Лідскага райвыканкаму.

4 лютага 2011 г. Прэзідэнт Беларусі даў згоду на прызначэнне старшыні Лідскага райвыканкаму **Андрэя Паўлавіча Худыка** намеснікам старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму, а **Аляксандра Мікалаевіча Астроўскага** старшынём Лідскага райвыканкаму.
7 лютага сесія Лідскага райсавету зацвердзіла **А.М. Астроўскага** старшынём Лідскага райвыканкаму.



12 лютага 2011 г. пачаў працу рэнтген-кабінет па адрасу Труханава, 14.




23 лютага 2011 г. на фасадзе Ліцэя № 1 г. Ліды адкрыта мемарыяльная дошка **Белавусу Генадзю Яўгенавічу**, выпускніку школы №3, лётчыку-выпрабавальніку, які загінуў пры трэніровачным палёце 12.08.1991 г.

У сакавіку 2011 г. 26- гадовая лідзянка, майстар спорту Міжнароднага класа **Наталля Карэйва** стала 20-кратным чэмпіёнам Беларусі па лёгкай атлетыцы.






У сакавіку 2011 г. у лакаматыўным дэпо ў Лідзе пачалі выпускаць сучасныя манеўравыя цеплавозы. Яны заменяць устарэлыя машыны яшчэ чэхаславацкай зборкі.

# Лідчына ў 2010 годзе

**Даклад старшыні Лідскага райвыканкаму А.М. Астроўскага 18.02.2011 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным падвядзенню вынікаў працы галін гаспадаркі раёна за 2010 год**



Паважаныя ўдзельнікі ўрачыстага сходу!

Падводзіць вынікі праведзенай працы — добрая традыцыя, якая дазваляе ацаніць эфектыўнасць дзейнасці за вызначаны прамежак часу, падкарэктаваць недапрацоўкі, сказаць дзякуй тым, хто адказна падыходзіў да выканання сваіх абавязкаў і дасягнуў высокіх паказчыкаў у працы.

Лічу, што кіраўніцтва павінна ў першую чаргу бачыць і заахвочваць людзей творчых, ініцыятыўных, чые высілкі на працоўным месцы накіраваныя на павелічэнне прадукцыйнасці працы, ствараюць калектыву імідж надзейнага партнёра.

Ацэньваючы вынікі 2010 года, хачу сказаць, што лідзяне ў чарговы раз даказалі, што нам па плячы выкананне самых амбіцыйных планаў і задач.

Адзін з крытэраў - Рэспубліканскі фэст-кірмаш працаўнікоў сяла “Дажынкі”, які, па адзнацы ўраду і кіраўніка дзяржавы Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, стаў лепшым у гісторыі гэтага свята.

Летась, як і ў цэлым за мінулую пяцігодку, у раёне захаваная тэндэнцыя росту практычна па ўсіх паказчыках.

Тэмп росту вытворчасці таварнай прадукцыі - 113,4% пры прагнозе 112,8%, спажывецкіх тавараў - больш за 113%.

Тэмп росту інвестыцый у асноўны капітал склаў больш за 140%.

Тэмп росту экспарту тавараў -133%.

Атрымана дадатнае сальда знешняга гандлю ў памеры 34,5 млн. даляраў ЗША.

Тэмп росту экспарту паслуг - 128,9% пры прагнозе 118%.

Выконваецца паказчык па энергазахаванні: пры заданні на год (-13,5%), факт за (-16,6%).

За 2010 год уведзена 102,6 тыс. квадратных метраў жылля.

Тэмп росту вытворчасці валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі — 100,1%.

Тэмп росту рознічнага тавараздвароту — 114,9%.

Разгледзім вынікі працы па галінах гаспадаркі. Таму што пры больш прадметным аналізе бачныя не толькі поспехі, але і недапрацоўкі і недагляды.

**Прамысловая галіна.**

Тэмп росту прамысловай вытворчасці ў раёне за 2010 г. склаў больш за 113%, што вышэй за сярэднеабласны і рэспубліканскі вынікі па гэтым паказчыку (па вобласці — 112,5%, па краіне - 111,3%).

За мінулы год выраблена прадукцыі ў фактычных коштах на суму амаль 2 трыльёны рублёў.

Нашы лепшыя прадпрыемствы на працягу пяцігодкі: “Лідсельмаш”, “Лідаграпраммаш”, “Мінойтаўскі рамонтны завод”, “Лакафарба”.

Стабільна працуюць: “Лідбудматэрыялы”, торфабрыкетныя прадпрыемствы, Малочна-кансервавы камбінат, “Тэхмаш”, “Белтэкс - Оптык”, “Лідабытсэрвіс”.

Што тычыцца 2010 г., трэба адзначыць паспяховую працу такіх прадпрыемстваў, як “Абутковая фабрыка”, “Лідскае піва”, “Конус”, “Каскад”, “Завод “Оптык”, “Харчовыя канцэнтраты”, “Лідабудканструкцыя”.

Праца не на склад - задача кожнага працоўнага калектыва.

Лідскія прадпрыемствы паспяхова працуюць на ўнутраным і знешнім рынках.

Летась экспартавана тавараў на суму больш за 220 млн. дол. ЗША. Для параўнання скажу: у 2006 г. сума экспарту складала 100 млн. дол. за год.

Летась у 1,3 раза экспарт павялічылі: “Лакафарба”, “Лідаграпраммаш” “Мясакамбінат”. Больш чым у 4 разы - “Абутковая фабрыка”. “Лідсельмаш”, “Малочна-кансервавы камбінат”, “Лідскае піва” - у 1,7 раза, “Лідскія аўтобусы “Нёман”, завод “Оптык” — у 1,5 раза, “Лідахлебапрадукт” — у 2,2 раза, “Харчовыя канцэнтраты” — у 2 разы, “Тэхмаш” - у 1,6 раза.

Асвоена больш за 30 новых рынкаў збыту, у тым ліку:

“Лакафарбай” — Бразілія, Егіпет;

“Шклозаводам” — Грузія, Фінляндыя, Канада;

“Лідскія аўтобусы “Нёман” - Італія;

“Лідабудканструкцыяй” - Эстонія.

“Лідахлебапрадукт” — з кастрычніка пачаў адгружаць пшанічную муку першага гатунку ў Афганістан; “Малочна-кансервавы камбінат” - сухія вяршкі ў Казахстан.

Раёнам атрымана дадатнае сальда знешняга

гандлю - плюс 34,5 млн. дол. ЗША.

Усё гэта стала магчымым дасягнуць, захаваўшы высокую якасць традыцыйнай і стварыўшы новыя запатрабаваныя віды прадукцыі.

Лепш за ўсіх у гэтым кірунку спрацавалі: "Конус" (95,2%), "Мінойтаўскі рамонтны завод" (93,3%), "Белеўратара" (85,3%), "Каскад" (81,6%), "Лідаграпраммаш" (71,1%), "Ліпласт-Спб" (61,2%), "Лідскі завод электравырабаў" (52,9%).

40 арганізацый маюць міжнародныя сертыфікаваныя сістэмы якасці. З іх 24 прадпрыемствы прамысловасці.

Прадукцыя прамысловых прадпрыемстваў адзначаная высокімі ўзнагародамі ў розных намінацыях.

"Лідсельмаш" прызнаны лаўрэатам конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь у 2010 годзе" і конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь на рынках Расійскай Федэрацыі".

"Лідаграпраммаш" узнагароджаны залатым медалём "За стварэнне і ўкараненне ў вытворчасць збожжаўборачнага камбайна "Ліда-1600" і срэбным медалём "За распрацоўку пасяўнога агрэгата тыпу АПП-6Д".

"Малочна-кансервавы завод" атрымаў дыплом і права маркіраваць сваю прадукцыю знакам "ГУСТ". Гэтае прадпрыемства атрымала пяць залатых медалёў за малако сухое абястлушчанае, малако сухое цэльнае 25% тлустасці, вяршкі сухія 42% тлустасці, масла двух відаў тлустасці.

"Мінойтаўскі рэмзавод" узнагароджаны залатым медалём і Дыпломам за ўкараненне ў сельскагаспадарчую вытворчасць плугоў навясных. На міжнароднай выставе "БЕЛАГРА-2010" адзначаны Дыпломам 1-й ступені за асваенне вытворчасці машын для адвальнай апрацоўкі глебы.

"Тэхмаш" узнагароджаны бронзавым медалём за распрацоўку і вытворчасць машыны для сяўбы.

"Лідабудматэрыялы" ў аглядзе-конкурсе "Лепшы будаўнічы прадукт года" ўзнагароджаны дыпломам пераможца за навінку сезону - драўляныя аконныя энергазахавальныя блокі.

У 2010 г. Лідскія электрычныя сеткі сталі пераможцамі рэспубліканскага спаборніцтва "Белэнэрга".

Лідскае ГУП ЖКГ стала пераможцам па выманні другасных бытавых адыходаў і абласнога конкурсу прафесійнага майстэрства "Колерныя фарбы Дажынак-2010".

У раёне прадпрыемствы тэхпераўзбройваюцца і пераабсталёўваюцца.

Штогод капітальныя ўкладанні складаюць больш за 450 млрд. руб. А ў 2010 г. у тэхпераўзбраенне ўкладзена больш за 706 млрд. руб.

Працягваецца мадэрнізацыя вытворчасці фталевага ангідрыду на "Лакафарбе".

Пры ўдзеле фінскага канцэрна "Olvi" ажыццяўляецца мадэрнізацыя вытворчасці Лідскага піва.

У 2008 годзе ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта ў склад свабоднай эканамічнай зоны "Гроднаінвест" уключаны два зямельныя ўчасткі Лідскага раёна. На сёння зарэгістравана 5 рэзідэнтаў Лідскай пляцоўкі СЭЗ. У 2010 годзе ўжо пачата будаўніцтва трох новых прадпрыемстваў.

Пры ўдзеле нямецкага капіталу таварыствам "ХАВЕР" будуецца завод па вытворчасці металатканых сетак. У 2011 годзе рэалізацыя праекту дазволіць прыцягнуць звыш 700 тысяч дал. замежных інвестыцый.

Прадпрыемствам "Конус" ажыццяўляецца будаўніцтва імпартазамяшчальнай вытворчасці - завода гарачай ацынкоўкі.

У 2010 годзе ў в. Мінойты пры ўдзеле эстонскай кампаніі пачата будаўніцтва завода па выпуску аднаразавых вырабаў медыцынскага прызначэння. Плануецца стварэнне 100 працоўных месцаў.

Вырашаецца пытанне будаўніцтва на тэрыторыі Лідскага раёна комплексу па глыбокай перапрацоўцы маслаўтрымвальных культур. Агульны кошт праекту плануецца на ўзроўні 150 млн. дал. ЗША.

Фінансавыя вынікі прадпрыемстваў за 2010 года сведчаць аб паляпшэнні стану рэальнага сектара эканомікі.

Прыбытак ад рэалізацыі вырас па раёне ў 1,5 раза.

Чысты прыбытак за 2010 год павялічылася ў 1,7 раза.

У цэлым па раёне рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі 7,9%, 2009 год - 6,8%.

Рэнтабельна працуюць 88,8% арганізацый раёна. Прыярытэтнай задачай быў і застаецца выхад на бясстратную працу ўсіх прадпрыемстваў.

Жыццё ўносіць свае карэктывы, рынак патрабуе новую, сучасную, якасную і даступную прадукцыю, а кожны з нас хоча жыць яшчэ лепш.

Хачу сказаць, што ў нас ёсць усе перадумовы для новых добрых вынікаў як за лік назапашанага доследу і моцнага кадравага патэнцыялу, так і дзякуючы пісьменнай і ўзважанай палітыцы нашай дзяржавы.

Лідскі раён, як і Рэспубліка Беларусь у цэлым, плануе ў 2011 годзе паступовы пераход ад аб'ёмных паказчыкаў да якасных, арыентаваных на атрыманне прадпрыемствамі максімальна дадатнага фінансавага выніку.

Зрушэнне акцэнту з колькасных на якасныя паказчыкі прасочваецца ва Ўказе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які зацвердзіў найважнейшыя параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2011 г.

Адна з прыярытэтных задач — прыцягненне замежных інвестыцый у асноўны капітал. У гэтым кірунку павінна працаваць кожнае прадпрыемства раёна.

Дзякуючы праводзімаму тэхнічнаму пераўзбраенню ў раёне неабходна стварыць каля 2-х тысяч мадэрнізаваных працоўных месцаў.

**Сельская гаспадарка.**

Трэба прызнаць, што гэтая галіна адна з самых уразлівых. Яе спецыфіка складаецца ў тым, што эфектыўнасць працы часта абумоўлена пагоднымі фактарамі. Тым не менш, нельга свае няўдачы і памылкі

спісваць толькі на надвор’е.

2010 г. для сельскай гаспадаркі Лідчыны стаў няўдалым практычна па ўсіх паказчыках. Таму прынята рашэнне Лідскага раённага выканаўчага камітэта ў сувязі з невыкананнем прагнознага паказчыка росту валавой прадукцыі не вызначаць месцы пераможцаў для сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

Тым не менш, быў прадпрыняты шэраг мер з тым, каб выправіць сітуацыю. У 2010 г. быў праведзены бягучы рамонт на 18 малочна-таварных фермах, 7 фермах па гадоўлі і адкорму буйной рагатай жывёлы, адной свінагадоўчай ферме.

Аднак вытворчасць прадукцыі жывёлагадоўлі павялічылася толькі на 1,7%, раслінаводства - зменшылася на 2,3%.

Разам з тым, асобныя вытворчыя калектывы здолелі дабіцца адпаведных поспехаў. Словы падзякі заслугоўваюць працаўнікі малочна-таварных фермаў:

- “Навасёлкі” СВК “Світанак-Мыто”, загадчык фермы Скляповіч Часлаў Станіслававіч, прадуктыўнасць дойнага статка за 2010 год узрасла на 104 кілаграмы і склала 6667 кілаграмаў малака;

- “Крыніцы” саўгаса “Лідскі”, загадчык фермы Мікутайціс Станіслаў Мар’янавіч, ад каровы надоена 6619 кілаграмаў малака, 738 кілаграмаў атрымана дадаткова да ўзроўню 2009 года.

Таксама працаўнікі малочна-таварных фермаў: “Палубнікі” “Лідскай птушкафабрыкі” (загадчык фермы Гінцэвіч Уладзімір Уладзіслававіч).

Сярод лепшых па прафесіі хочацца адзначыць аператараў машыннага даення Жукаву Таццяну Аляксандраўну з СВК “Світанак-Мыто”, Мушынскую Валянціну Францаўну і Паўлюкевіч Наталлю Ўладзіміраўну з саўгаса “Лідскі”, Жамойду Марыю Станіславаўну з СВК “Бердаўка-Агра”.

Словы падзякі заслугоўваюць аператары па адкорму і гадоўлі буйной рагатай жывёлы: Багдан Наталля Леанідаўна з саўгаса “Лідскі”, Ермантовіч Валянціна Ўладзіславаўна з СВК “¨дкаўскі”, Капачэль Таццяна Ўладзіміраўна з СВК “Бердаўка-Агра”.

Сярод вытворчых раслінаводчых участкаў:

- “Мажэйкава” (кіраўнік участка Сарока Генрых Генрыхавіч) сельгаспрадпрыемства “Мажэйкава”;

- “Паперня” (кіраўнік участка Ваўчкевіч Леанід Эдвардавіч).

Добрых вынікаў дасягнулі механізатары: Каналош Аляксей Альбертавіч, Чарнюк Анатоль Феліксавіч (саўгас “Лідскі”), Гомза Аляксандр Аляксандравіч (ЛРСУП “Мажэйкава”) і многія іншыя.

Мерапрыемствы, якія ўжо праводзяцца ў сельскай гаспадарцы, дазволяць павялічыць аб’ёмы вытворчасці прадукцыі і палепшыць фінансавы стан сельскагаспадарчых арганізацый.

Кіраўнікам і адмыслоўцам, а таксама шараговым працаўнікам гаспадарак неабходна ўлічыць урокі леташняга года.

Спадзяюся, што цяперашні год для аграпрамысловага комплексу раёна акажацца больш плённым.

**Будаўнічая галіна.**

Беларускае слова “будаваць” мае адзін корань са словам “будучыня”. І гэта заканамерна. Краіна, дзе інтэнсіўна будуюцца заводы, жыллё, вучэбныя ўстановы, бальніцы і крамы, добраўпарадкоўваюцца вуліцы і двlanguagesавыя тэрыторыі, рамантуюцца дамы, дарогі і масты, мае будучыню.

Мінулы год для будаўнікоў Лідчыны стаў найболей прадуктыўным. Абумоўлена гэта рэспубліканскім святам “Дажынкі”, у рамках падрыхтоўкі да якога ўсе будаўнічыя прадпрыемствы былі забяспечаны працай. Аднак атрымаць аб’ём работ - гэта адно, а якасна і ў тэрмін выканаць яго - іншае.

Даць аб’ектыўную адзнаку эфектыўнасці працы дадзенай галіны нам дазваляюць наступныя паказчыкі.

За 2010 год будаўнічым комплексам раёна выканана падрадных работ на суму амаль на 330 млрд. рублёў.

Уведзена ў эксплуатацыю 1296 кватэр агульнай плошчай 102,6 тыс. м$^2$.

Уладкаваныя аграгарадкі “Голдава”, “Пескаўцы”, “Далёкія”.

У рамках падрыхтоўкі Рэспубліканскага фэсту-кірмашу працаўнікоў сяла “Дажынкі-2010 г.” у г. Лідзе пабудавана і абноўлена 220 аб’ектаў, на суму 320 млрд. рублёў.

Зноўку адбудаваныя чыгуначны і аўтавакзалы, пешаходны мост, гасцініца “Ліда”, кінатэатр “Юбілейны”.

Пабудаваныя Лядовы палац, спартовы комплекс гульнявых відаў спорту, лыжаролерная траса. Завершана рэканструкцыя водна-паркавай зоны і будаўніцтва пляцоўкі, разлічанай на 10 тысяч чалавек для правядзення культурна- масавых мерапрыемстваў, добраўпарадкаваныя гарадскі парк і парк ля Кургана Неўміручасці.

Па новых тэхналогіях капітальна адрамантаваныя: цэнтр традыцыйных народных рамёстваў, школа мастацтваў, ліцэй №1, мастацкая школа, станцыя хуткай і неадкладнай медыцынскай дапамогі.

Уведзены ў эксплуатацыю 110-ці кватэрны жылы дом для перасялення ўладальнікаў знесенага і трухлявага жылля.

Палепшана транспартная інфраструктура.

У адпаведнасці з сучаснымі тэхнічнымі характарыстыкамі рэканструявана 29 вуліц.

Выкананы работы па мадэрнізацыі і рамонту 127 жылых дамоў.

Пачата будаўніцтва фірмовай крамы ТДА “Віталюр”, сеткавай крамы Лідскага райпо.

Устаноўлены шэраг малых архітэктурных форм, якія ўжо сталі візітнай карткай г. Ліды. Гэта стэла 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова на перакрыжаванні вуліц Машэрава і Камуністычная, гербавая кампазіцыя льва з ключамі ў цэнтры горада, помнік беларускаму хлебу.

Прыярытэтнай задачай 2011 года вызначана будаўніцтва жылля. Неабходна пабудаваць амаль 130 тысяч м$^2$. Завершыцца будаўніцтва праезду пад чыгуначнымі каляямі па вул. 8-е Сакавіка.

**Паважаныя ўдзельнікі сходу!**

Адным з паказчыкаў эканамічнага дабрабыту насельніцтва з'яўляецца яго пакупальніцкая здольнасць.

За 2010 год насельніцтву раёна рэалізавана тавараў амаль на 950 млрд. рублёў. Кожнаму жыхару раёна прададзена тавараў на суму больш за 7 млн. рублёў, або на 1 млн. 200 тыс. рублёў больш, чым у 2009 годзе.

Летась скарыстоўваліся такія метады продажаў як кірмашы, распродажы тавараў па паніжаных коштах, акцыі з уручэннем падарункаў, дэманстрацыі адзення, дэгустацыі.

Аганізаваны продаж тавараў па метадзе самаабслугоўвання, у крэдыт, па ўзорах. Больш стала крам, дзе можна разлічыцца банкаўскай пластыкавай карткай. У крэдыт прададзена насельніцтву тавараў на суму 18 млрд. рублёў.

У 2010 годзе ў раёне адчынена 21 новая крама. Адчынена 9 аб'ектаў грамадскага сілкавання на 367 месцаў.

Калі гандлёвая і бытавая сетка ў гарадах і сёлах у нас наладжана, то над развіццём прыдарожнага сэрвісу нам давядзецца папрацаваць. Лідскае раённае спажывецкае таварыства зрабіла крок у гэтым кірунку, адчыніўшы ў в. Цыбары гасцінічны комплекс "Гасцінны двор".

У раёне таксама развіваецца сетка аб'ектаў бытавога абслугоўвання насельніцтва - цырульняў, майстэрняў па рамонце складанай бытавой тэхнікі, абутку, вопраткі.

Усё гэта спрыяе не толькі выгодам насельніцтва ў абслугоўванні, але і стварэнню новых працоўных месцаў.

Усяго ў Лідскім раёне колькасць занятых у эканоміцы склала больш за 65,5 тысяч чалавек. Створана больш за 3 тысячы новых працоўных месцаў. Узровень беспрацоўя на канец года склаў 0,8% да колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва. Упершыню за апошнія гады колькасць вакансій перавысіла колькасць зарэгістраваных у службе занятасці беспрацоўных.

Па выніках студзеня-снежня 2010 г. намінальная сярэднемесячная заработная плата ў раёне склала 1099,9 тыс. руб., у тым ліку ў снежні 1396, 2 тыс. руб. Хачу сказаць, што нам ніхто не забараняе атрымліваць значна больш. Аднак зарплату трэба ЗАРАБЛЯЦЬ. У першую чаргу, павышаючы прадукцыйнасць працы, выяўляючы творчую ініцыятыву. Гэта будзе актуальна не толькі для кашалька кожнага з нас, але і ў рамках цяперашняга Года Прадпрымальнасці.

Калі працаздольныя людзі самі могуць у большасці выпадкаў паўплываць на свой матэрыяльны дабрабыт, то аб ветэранах вайны і працы варта падбаць нам.

Умовы іх пражывання знаходзяцца пад пільнай увагай сацыяльных служб. 1285 самотных пенсіянераў і ветэранаў абслугоўваюцца на даму. 45 чалавек знаходзяцца ў аддзяленні кругласутачнага знаходжання, дзе створаныя ўмовы пражывання набліжаныя да хатніх.

Не застаюцца без увагі людзі, якія ў сілу розных аб'ектыўных прычын апынуліся ў складаным фінансавым становішчы. 2043 чалавекі з малазабяспечаных сем'яў у 2010 г. сталі атрымальнікамі дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі. 797 дзяцей першых двух гадоў жыцця забяспечаны бясплатнымі прадуктамі харчавання.

Для сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі маладых людзей з абмежаванымі магчымасцямі працуе аддзяленне дзённага знаходжання для інвалідаў. Філіял тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва будзе адчынены ў Бярозаўцы.

У вобласці аховы здароўя істотна ўмацавана матэрыяльна-тэхнічная база ЦРБ. У плане падрыхтоўкі да рэспубліканскага фэсту-кірмашу "Дажынкі-2010" выкананы рамонт шэрагу медыцынскіх устаноў, на што было выдаткавана 8 млрд. рублёў.

Набывалася медыцынскае абсталяванне.

Такія значныя выдаткі на медыцыну даюць свае вынікі. У 2010 г. у раёне знізіўся паказчык смяротнасці (з 14,6 у 2009 годзе да 13,9 на 1000 насельніцтва ў 2010 г.).

Установа аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" ўзнагароджана дыпломам першай ступені і заняла першае месца ў штогадовым абласным аглядзе паміж арганізацыямі аховы здароўя па выніках дзейнасці ў 2010 г .

Даўно вядома, што хваробу лягчэй папярэдзіць, чым яе лячыць. І добрым прафілактычным сродкам з'яўляецца здаровы лад жыцця, сістэматычны занятак фізкультурай і спортам.

Сёння ў раёне створаны ўсе ўмовы для гэтага. У Лідзе пабудаваны Лядовы палац, асветлена лыжаролерная траса. Завершана першая чарга будаўніцтва стадыёна па вул. Качана і спартовага комплексу для гульнявых відаў спорту. Закупляўся інвентар.

Важна, што ўсе гэтыя аб'екты вельмі запатрабаваныя насельніцтвам. Напрыклад, з моманту адкрыцця Лядовага палаца, менш за паўгода, яго наведала больш за 50 тысяч чалавек.

За мінулы год на тэрыторыі раёна было праведзена 100 спартова-масавых мерапрыемстваў, у якіх прынялі ўдзел больш за 29 тысяч чалавек.

Спартоўцы раёна не раз станавіліся пераможцамі і прызёрамі спаборніцтваў рознага ўзроўню. У 2010 годзе 11 лідзян сталі прызёрамі міжнародных спаборніцтваў, 143 - рэспубліканскіх, 465 чалавек - абласных.

Хочацца адзначыць поспехі лідзян у вялікім спорце:

Наталля Карэйва — 3 месца на Кубку Еўропы па л/атлетыцы;

Аляксандр Венскель — 2 месца на першынстве Еўропы па ц/атлетыцы сярод юнакоў;

Віктар Паленскі — 3 месца на першынстве свету па грэка-рымскай барацьбе сярод вайскоўцаў;

Віталь Горшва — 1 месца на Вялікай Маскоўскай рэгаце па акадэмічным веславанні;

Валер Арэхва, —2 месца на чэмпіянаце Еўропы па паўэрліфтынгу, і інш.

Працягвае актыўна развівацца сфера турызму і агратурызму.

Радуе, што сродкі ў сферу фізкультуры і спорту ўкладваюцца не дарма. На змену зарэкамендаваўшым сябе спартоўцам прыходзяць цяперашнія школьнікі. У 2010 г. упершыню навучэнцы Лідчыны сталі прызёрамі абласной алімпіяды па фізічнай культуры. Упэўнены, што зусім хутка мы даведаемся новыя імёны спартоўцаў, раскрыўшых свае здольнасці на Лідскай зямлі.

Не бяда, што не ўсе хлопцы і дзяўчаты стануць майстрамі спорту. Сістэматычна займаючыся фізкультурай, яны атрымаюць звычку да здаровага ладу жыцця. А гэта дазволіць ім дабіцца добрых вынікаў у іншых сферах. Сёння для іх важна атрымаць добрую адукацыю, выбраць свой жыццёвы шлях.

Гэтаму спрыяе пастаўленая ў раёне сістэма адукацыі. Адным з сур'ёзных крытэраў яе эфектыўнасці з'яўляецца колькасць выпускнікоў, якія паступаюць у ВНУ. Летась шэрагі студэнтаў папоўніла больш за 58% выпускнікоў Лідскіх агульнаадукацыйных вучэбных устаноў. (Абласны паказчык склаў 56,4%.)

Узровень адукацыі сёння застаецца досыць высокім. Каманда навучэнцаў Лідскага раёна па выніках удзелу ў абласных алімпіядах шэсць гадоў займае перадавую пазіцыю, ужо ў 2011 годзе заваяванае 75 прызавых месцаў.

Рэйтынг вучэбных дасягненняў навучэнцаў школ раёна па выніках першага паўгоддзя 2010/2011 вучэбнага года склаў 7,2 бала.

У раёне назіраецца эфектыўнае ўключэнне педагагічных калектываў у эксперыментальную і інавацыйную дзейнасць. У 2010/2011 вучэбным годзе на базе 10 устаноў адукацыі адчыненыя рэспубліканскія эксперыментальныя і інавацыйныя пляцоўкі.

Школьнікі Лідчыны паказалі высокія дасягненні па выніках удзелу ў абласных і рэспубліканскіх мерапрыемствах: установамі адукацыі ў 2010 годзе заваявана 1164 прызавых месцаў (у 2009 годзе - 1002, 2008 - 638, у 2007 - 507, у 2006 - 346).

Па выніках удзелу ў абласных, рэспубліканскіх і міжнародных мерапрыемствах, прысвечаных 65-годдзю вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, заваявана 22 прызавыя месцы: 17 - абласнога ўзроўню, 3 - рэспубліканскага, 2 - міжнароднага.

Другое месца ў рэспубліканскім этапе агляду-конкурсу этнаграфічных музеяў устаноў адукацыі ў рамках акцыі "Жыву ў Беларусі і тым ганаруся" заняў этнаграфічны музей "Беларуская хатка" СШ № 16. Гімназія № 1 г. Ліда заняла 3-месца ў рэспубліканскім этапе конкурсу на лепшы летапіс установы адукацыі.

Радуе не толькі колькасць прызоў, але і тое, што дзеці не толькі маюць магчымасць атрымліваць веды, але і займацца цікавай, пазнавальнай працай, што адцягвае іх ад непажаданых праяў вуліцы. Лічу, што паніжэнне ў 2010 г. на 45% колькасці злачынстваў і правапарушэнняў, здзейсненых школьнікамі — гэта таксама вынік звыштэрміновай працы педагогаў.

Сучасная сістэма працы педагогаў дашкольных устаноў дазваляе развівацца інтэлектуальна, вызначаць здольнасці да творчасці ў дзетак літаральна ў першыя гады іх жыцця.

Важным кірункам працы з маладым пакаленнем з'яўляецца працаўладкаванне вучаніцкай моладзі ў летні перыяд, што дазваляе не толькі зарабіць некаторую суму грошай, але і спазнаць кошт кожнага заробленага рубля, што карысна ў выхаваўчых мэтах.

У 2010 годзе больш за пяць з паловай тысяч хлопцаў і дзяўчат у студэнцкіх атрадах, працоўных брыгадах і валанцёрскіх аб'яднаннях ажыццяўлялі сваю дзейнасць на будаўнічых аб'ектах, у сельскагаспадарчых арганізацыях, на прадпрыемствах раёна.

Па выніках абласнога конкурсу на лепшую арганізацыю занятасці "Трэці працоўны семестр "Лета-2010" пераможцам у намінацыі "Лепшы наймальнік Гарадзенскай вобласці" стала "Лідская ПМК-169" (дырэктар Лабецкі Уладзіслаў Юльянавіч), а лепшым студэнцкім атрадам прызнаны сельскагаспадарчы атрад, які ажыццяўляў сваю дзейнасць у саўгасе "Лідскі".

Сёння мы павінны таксама сказаць словы падзякі людзям, якія на прафесійнай аснове ствараюць нам свята - працаўнікам культуры.

У раёне створаны добрыя ўмовы як для развіцця талентаў і здольнасцяў лідзян, так і для захавання гістарычна-культурнай спадчыны роднага краю.

Мінулы год падарыў нам дзіцячую мастацкую школу, раённы Цэнтр рамёстваў і традыцыйнай культуры. У будынку, дзе жыў беларускі паэт Валянцін Таўлай, адчынены філіял музея "Лідчына літаратурная", зроблены капітальны рамонт Лідскай дзіцячай школы мастацтваў.

Упэўнены, што ўсё гэта будзе запатрабаванае вамі, дазволіць адкрыць новыя імёны таленавітых лідзян. Для гэтага ўжо ёсць добрыя напрацоўкі, таленавітыя педагогі.

Летась 4 навучэнцы мастацкага аддзялення дзіцячай школы мастацтваў і адзін выпускнік музычнай вучэльні ўзнагароджаны заахвочвальнымі прэміямі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Калектывы аддзела культуры, раённага Палаца культуры, дзіцячай музычнай школы, раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, гістарычна-мастацкага музея ўзнагароджаны дыпломамі і граматамі абласнога кіравання культуры.

Усе мерапрыемствы і падзеі, дасягненні і нашы памылкі, якія мы сёння абмяркоўваем, шырока асвятляюцца ў мясцовых сродках масавай інфармацыі - на старонках "Лідскай газеты", у эфіры Лідскага радыё і тэлебачання.

Аб якасці матэрыялаў, якія падаюцца, прафесіяналізме калектываў рэдакцый гаворыць не толькі колькасць міжнародных, рэспубліканскіх і абласных узнагарод, але і вялікая колькасць чытачоў, слухачоў і гледачоў.

Напрыклад, Лідскае тэлерадыёабяднанне ў 2010 г. было прызёрам 3-х рэспубліканскіх, 3-х міжнародных,

2-х абласных фэстаў і конкурсаў. Акрамя гэтага, уручана падзяка Беларускай праваслаўнай царквы “За старанную працу ў славу Святой Царквы і на карысць Айчыны”. “Лідская газета” 5 раз станавілася пераможцам рэспубліканскіх конкурсаў і аднаго абласнога.

Добрай традыцыяй у нашым раёне стала практыка нарад з грамадзянамі з актыўнай жыццёвай пазіцыяй. Я маю на ўвазе дзейнасць Кардынацыйнай рады палітычных партый і грамадскіх аб’яднанняў раёна, у складзе якога прадстаўнікі найболей сацыяльна актыўнага пласта грамадзян. І Рада старэйшын, у склад якой ўваходзяць людзі з багатым жыццёвым і прафесійным досведам. Людзі паважаныя, дасягнуўшыя высокіх вынікаў у сваёй працоўнай дзейнасці. Некаторыя з іх сёння прысутнічаюць у зале. Я назаву іх імёны: Папова Надзея Іванаўна, Гардзіёнак Пётр Рыгоравіч, Лабан Пётр Пятровіч, Гушча Іван Пятровіч, Зайцава Наталля Андрэеўна, Юфа Ўладзімір Якаўлевіч, Агурцова Марыя Сцяпанаўна, Станцель Вячаслаў Аляксандравіч.

Прашу павітаць нашых ветэранаў і ўручыць ім кветкі. Нам на іх раўняцца, пераймаць іх досвед і імкнуцца дасягаць новых вяршыняў.

Год, які пайшоў, дазволіў ацаніць эфектыўнасць ідэалагічнай працы праз правядзенне 2-х сур’ёзных палітычных мерапрыемстваў - выбараў дэпутатаў у мясцовыя Саветы дэпутатаў і выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Улічваючы, што абедзве гэтыя кампаніі прайшлі дзейсна, у спакойным, канструктыўным ключы, магчыма станоўча ацэньваць працу ў дадзеным кірунку.

Узмацняецца эфект і правядзеннем масавых мерапрыемстваў рознага ўзроўню - рэспубліканскія Дажынкі, святкаванне 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, фэст нацыянальных культур, які стаў ужо традыцыйным для нашага раёна - усё гэта спрыяе кансалідацыі грамадства, выхаванню насельніцтва ў духу патрыятызму і ўзаемапавагі адзін да аднаго.

Бягучы год не гэтак насычаны палітычнымі падзеямі, але дата 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны, якую мы ўспомнім у чэрвені, павінна дазволіць нам яшчэ раз ацаніць усё тое, што мы маем сёння, чаго дасягнулі нашы продкі і мы ў мірны час.

Кожны з нас павінен у поўнай меры ўсведамляць сваю адказнасць на сваім участку працы, навакольны парадак, дабрабыт, каб у канструктыўным тварэнні жыць у шчаслівай, квітнеючай краіне, у міры і спакоі.

Мірнае неба, надзейную мяжу, спакой на вуліцах, гатоўнасць прыйсці на дапамогу ў нестандартнай сітуацыі забяспечваюць нам службоўцы сілавых структур.

У 2010 г. шляхам рэарганізацыі двух авіяцыйных частак - 116-й гвардзейскай Радамскай Чырванасцяжнай бамбардзіровачна-выведвальнай авіябазы і 206-й штурмавой авіябазы ўтворана 116-ая гвардзейская Радамская Чырванасцяжная авіябаза і 206-ты цэнтр падрыхтоўкі лётнага складу з дыслакацыяй на найстарэйшым у Рэспубліцы Беларусь аэрадроме - у г.Лідзе.

Па выніках баявой падрыхтоўкі, умацаванні вайсковай дысцыпліны і правапарадку ў мінулым годзе калектыў авіябазы пяты год запар заняў 1-е месца сярод злучэнняў і вайсковых частак ВПС і войскаў СПА, а сама 116-я гвардзейская ШАБ прызнана лепшай авіяцыйнай часткай Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

У бягучым годзе нашым авіятарам давядзецца выканаць шэраг важных і адказных задач. Асабовы склад будзе прымаць удзел у шматлікіх трэніроўках, камандна-штабных вучэннях, а ў верасні іх будзе чакаць іспыт на ратную сталасць, які яны будуць здаваць на вайсковых палігонах Расійскай Федэрацыі падчас сумеснага з Узброенымі Сіламі Расіі аператыўнага вучэння.

Упэўнены, што вынікі вучэнняў стануць годным падарункам да 70-гадовага юбілею 116-й гвардзейскай ШАБ, які яны адзначаць таксама ў верасні гэтага года.

Асабовы склад Лідскага памежнага атрада таксама ўнёс важкі ўклад у забеспячэнне надзейнай аховы Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

За 2010 г. імі было затрымана 1070 парушальнікаў Дзяржаўнай мяжы і памежнага заканадаўства, прапушчана праз дзяржаўную мяжу звыш 663-х тысяч адзінак транспартных сродкаў і больш за мільён грамадзян. У 230-ці выпадках перарвана пазапраўнае перамяшчэнне праз мяжу матэрыяльных каштоўнасцяў на агульную суму звыш 2,7 млрд. руб. У 5-ці выпадках затрымліваліся наркатычныя сродкі, у 18-ці - зброя і боепрыпасы. Знішчана пасеваў наркаўтрымваючых раслін агульнай вагой больш за 800 кілаграм.

У сувязі з гэтым, па выніках аператыўна-службовай дзейнасці за 2010 г. Лідскі памежны атрад заняў 2-е месца ў сістэме органаў памежнай службы Рэспублікі Беларусь.

Супрацоўнікі органаў унутраных спраў нашага раёна таксама годна выконваюць свой абавязак. Летась на 11,5% адзначана паніжэнне агульнай злачыннасці. Амаль на 15% — па лініі крымінальнага вышуку.

Прафілактычная праца службы ДАІ таксама дала свае вынікі. ДТЗ здзейснена на 20 менш, чым у 2009 г.

Супрацоўнікамі БЭЗ выяўлена 103 эканамічныя, 45 цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў.

Паважаныя ўдзельнікі ўрачыстага сходу!

Падводзячы вынікі 2010 г. варта прызнаць, што мы плённа папрацавалі. Гэтых вынікаў нельга было б дасягнуць без вас, дарагія землякі.

Ваша працавітасць, працаздольнасць, адказны і творчы падыход да сваёй працы, жаданне зрабіць родны край багацейшым і прыгажэйшым забяспечылі годныя вынікі пайшоўшага года.

Я гавару ўсім вам велізарнае дзякуй за вашу працу. Упэўнены, што гэта не мяжа. І ў далейшым, разам, не зніжаючы тэмпы, мы зможам дабіцца большага.

Яшчэ раз хачу выказаць словы падзякі за працу, дарагія лідзяне.

Дзякуй за ўвагу.

# Лідскія юбіляры 2011 года

**ПРУТКОЎ Сцяпан Дзмітрыевіч** (1.01.1911 - 10.04. 1978). Ганаровы грамадзянін г. Ліды (12.05.1967).

Нарадзіўся ў Апочне Радамскай губерні (цяпер Келецкае ваяводства, Польшча). У 1914 г. сям'я пераехала ў Смаленск, затым у Рослаўль. У Рослаўлі скончыў 8 класаў, вячэрнюю школу працоўнай моладзі і курсы сартавальнікаў ільну. Працаваў сартавальнікам, уступіў у камсамол. Увосень 1931 г. пераведзены на прафсаюзную працу ў Смаленск. У жніўні 1933 г. накіраваны ў Арэнбургскую ваенную авіяцыйную вучэльню. Па заканчэнні вучэльні ў 1936 г. пакінуты лётчыкам-інструктарам. У 1937 г. уступіў у партыю. Са студзеня 1939 года па верасень 1940 г. працаваў камісарам Арэнбургскага абласнога аэраклуба.

Ваяваў з першых месяцаў Вялікай Айчыннай вайны. Камандаваў эскадрылляй штурмавікоў на Волхаўскім фронце (восень 1941), на Сталінградскім фронце ў складзе 125 шад (чэрвень -снежань 1942), 504 штурмавым авіяпалком і 74 гв Сталінградскім палком. З 1943 г. камандзір Першай гвардзейскай штурмавой авіяцыйнай дывізіяй. Удзельнічаў у абароне Ленінграда, Сталінградскай бітве, вызваленні Ўкраіны, Крыма, Беларусі, разгроме немцаў ва Ўсходняй Прусіі.

Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, трыма ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнамі Кутузава 1-й ступені, Суворава 2-й ступені, Аляксандра Неўскага, Айчыннай вайны 1-й ступені, Чырвонай Зоркі і шматлікімі медалямі. 1 траўня 1943 года за ўзорнае выкананне баявых заданняў камандавання на фронце барацьбы з нямецкімі захопнікамі і выяўленыя пры гэтым адвагу і гераічнасць уганараваны званнем Героя Савецкага Саюза. Камандуючы 8-й паветранай арміі генерал-маёр авіяцыі Т. Т. Хрукін на ўзнагародным лісце напісаў: *"Маёр Пруткоў з'яўляецца выбітным лётчыкам-штурмавіком і камандзірам..."*

Пасля вайны скончыў Акадэмію Генеральнага штаба (1946-49). Працаваў у цэнтральным апараце ВПС, камандаваў аб'яднаннямі ВПС, выкладаў у Акадэміі ВПС. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савету Ўкраіны, дэлегатам XXII з'езду КПСС. У 1971 г.у званні генерал-лейтэнанта выйшаў у адстаўку. Жыў у Маскве. Памёр 10 красавіка 1978 года.



Першая гвардзейская Сталінградская ордэна Леніна двойчы Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава і Кутузава штурмавая авіяцыйная дывізія ў 



1952-1993 гг. базавалася ў Лідзе ў Паўднёвым гарадку. У 1967 г. быў усталяваны на пастаменце самалёт Іл-2. На самалёце-помніку былі намаляваныя ордэн Леніна, два ордэны Чырвонага Сцяга, ордэна Суворава і Кутузава. Побач дзве Зоркі Героя Савецкага Саюза з лічбай 7 і адна з лічбамі 71. Сем двойчы Герояў Савецкага Саюза, 71 Герой Савецкага Саюза і 23 поўныя кавалеры ордэна Славы служылі ў дывізіі. У 1985 г . перад клубам афіцэраў была адкрыта Алея Славы лётчыкаў Першай гвардзейскай авіядывізіі. Сярод фатаграфій Герояў была і фатаграфія Ганаровага грамадзяніна Ліды Сцяпана Дзмітрыевіча Пруткова.

**ЗАЯЦ Юрый Апанасавіч** (12.01.1951, г. Ліда - 3.04.2011, г. Менск.) Беларускі гісторык і археолаг, кандыдат гістарычных навук (1989), даследчык археалагічных помнікаў на тэрыторыі Менска, Заслаўля, Асіповіцкага, Дзяржынскага, Барысаўскага і Менскага раёнаў, супрацоўнік сектара старажытнай беларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.

Фонд гістарычна-культурнага музея-запаведніка **"Заслаўе"** налічае 12282 адзінкі асноўнага і 4711 адзінак навукова-дапаможнага фонду. Самай вялікай у фондах запаведніка з'яўляецца калекцыя археалогіі. Яна налічае больш за 3700 адзінак асноўнага фонду. У гэтую калекцыю ўвайшлі галоўным чынам прадметы, якія перадаў музею **Юрый Апанасавіч Заяц** падчас правядзення археалагічных раскопак як у самім горадзе Заслаўі, так і ў яго наваколлях (раскопкі праводзіліся з 1967 г. па 1986 г.). Гэта розныя фрагменты посуду X-XVIII стст., кафлі XVI-XVIII стст., вырабы з жалеза (нажы, цвікі, прылады працы, зброя), шыферныя праслiцы, фрагменты амфар, вырабы з косці X-XII стст., упрыгожванні (бранзалеты, пярсцёнкі, каралі, скроневыя колцы) X-XI, XII-XIV стст.



*Петразаводск, 1975 г. Рэгіянальная студэнцкая археалагічная канферэнцыя (РАСК). Злева направа: Сяргей Бялецкі (ЛДУ), Юрый Заяц (Менскі дзяржаўны педагагічны інстытут), Алег Трусаў (БДУ). Упершыню апублікавана ў Інтэрнэце 3.04.2011 г. у дзень смерці Ю. Зайца.*

# Мікола Лазоўскі - мастак і паэт

## (85 гадоў з дня нараджэння)

**Лазоўскі Мікалай Фёдаравіч** нарадзіўся ў в. Лазяны Беліцкай гміны, Лідскага павету 20 лютага 1926 г. Беларус.

Закончыў 5 класаў вясковай польскай школы. З ліпеня 1944 г. і па жнівень 1950 г. служыў у Чырвонай Арміі:

У час Другой Сусветнай вайны ўдзельнічаў у вызваленні Польшчы, Прагі, Венгрыі, штурме Берліна. Узнагароджаны "Ордэнам Айчыннай вайны", медалямі "За адвагу", "За баявыя заслугі", "За ўзяцце Берліна" "За вызваленне Прагі", "За перамогу над Германіяй", "Медаль Жукава" і інш.

Пасля вайны яшчэ праслужыў звыштэрмінова шэсць гадоў. Вярнуўся на радзіму. Працаваў на Лідскай чыгунцы мастаком, шмат рабіў насценных роспісаў. Паралельна вучыўся ў Маскоўскім народным універсітэце імя Крупскай. Затым дваццаць пяць гадоў працаваў мастаком –афармляльнікам на Лакафарбавым заводзе. Маляваў Мікалай Фёдаравіч з дзяцінства. Яшчэ будучы хлапчуком, браў вугольчык і выводзіў ім клёпкі на бочках і іншых вырабах. У час вайны, на фронце, калі было зацішша, маляваў сябрам – таварышам ружы на салдацкіх лістах-трохкутніках. Дапамагаў камандзірам у афармленні агітматэрыялаў. Галоўнае месца ў творчасці Мікалая Фёдаравіча займалі любыя яго сэрцу пейзажы Лідчыны, іканапіс. Таксама пісаў карціны з жанравым зместам, пейзажы з тонкім гумарам.

Будучы за мяжой у гады вайсковай службы, Лазоўскі бачыў шмат цікава напісаных карцін у Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, і сам пачаў пісаць іх. Прымаў удзел Мікалай Фёдаравіч у рэстаўрацыі разбуранай Радзівонішскай царквы, і ім адрэстаўравана карціна "Узнясенне Хрыста". У праваслаўным храме каля старога рынку ўсе абразы выкананы Лазоўскім – іх там звыш 50. Ім жа створана "Святая Сям'я" – цэнтральны абраз касцёла, які знаходзіцца па вуліцы Тухачэўскага. Вельмі любіў Мікалай Фёдаравіч прыроду. Асабліва краявіды Ліды, Дзітвы. У свабодны час пісаў замалёўкі з жыцця вёскі. Многія даручалі Лазоўскаму намаляваць іх родны хутар, вёсачку.

Многія яго карціны аб Лідзе знаходзяцца за мяжой – ва Ўкраіне, Германіі, Францыі, Канадзе, ЗША.

Добрыя пачуцці і глыбокі раздум выклікаюць карціны "Сады над Нёманам", "Бацькоўскі хутар", "Панарама Нёмана", "Хатка пад Нёманам", "Ліда з вышыні птушынага палёту", "Нараджэнне Ліды".

З заказамі да мастака прыходзілі самыя розныя кліенты, звярталіся настаўнікі з просьбай аформіць школу.

Бывала, калі душу мастака ахоплівала асаблівае натхненне, ён пісаў вершы. Зноў жа аб родным краі: пра замак над Лідзейкай, вясковыя хаты, Цыбарскі бор, ранішнее сонейка, якое дапамагала мастаку афарбоўваць яго карціны. ¨сць вершы з частушкамі і гумарам. Кожны яго верш стварае непаўторны свет і настрой.



За свой век Мікалай Фёдаравіч напісаў вялізарную колькасць карцін. Яму былі аднолькава падуладныя графіка, акварэль, алей. Сваёй творчасцю ён нёс людзям дабрыню, веру, спагаду.

Дзяцінства. Юнацтва,  
Працоўныя годы,  
Радасць і гора -  
У жыцці ўсё было.  
Франтавыя дарогі,  
У магілах салдаты...  
Даўно ўсе травой зарасло.  
Але ж я душой не старэю,  
І пакуль мае вочы глядзяць  
Палітру і пэндзлік  
Ў руках моцна трымаю,  
Пабачу цікавае ў Лідзе –  
Спяшаюся намаляваць.  
2001 г. *М. Лазоўскі.*

Ад кожнай яго карціны вее народнасцю і лірызмам. Светлае пачуццё гармоніі, якое ўзнікае пры сустрэчы з яго творамі, нараджаецца не толькі чароўнай каларыстычнай гамай і вытончанасцю кампазіцыі, але і тым радасным узняццем аптымістычнага настрою мастака, перададзенага ў іх.

На жаль у 2009 г. мастака не стала. Яго справу прадаўжаюць дачка Лідзія, унучкі Аня і Ліда. У іх, як кажуць, усё наперадзе.

***Алена Лучко.***

# Акадэмік Аркадзь Бенедыктавіч Мігдал
## (11.3.1911, Ліда – 9.2.1991, Прынстан)



**Мігдал Аркадзь Бенедыктавіч** (11.3.1911, **Ліда** - 9.2.1991, Прынстан, памёр падчас камандзіроўкі, пахаваны ў Маскве). У 1943-45 гг. працаваў ў Інстытуце фізічных праблем АН СССР, у 1945 - 71 г.г. у Інстытуце атамнай энергіі, у 1947 годзе быў апанентам на абароне кандыдацкай дысертацыі А.Дз. Сахаравым. З 1971 г. у Інстытуце тэарэтычнай фізікі АН СССР. З 1944 г. прафесар Маскоўскага інжынерна-фізічнага інстытута. Член-карэспандэнт АН СССР (1953), **акадэмік АН СССР** (1966). Фізік-тэарэтык, заснавальніік новых кірункаў у ядзернай фізіцы і фізіцы металаў. Развіў тэорыю дыпольнага і квадрапольнага выпраменьвання ядраў і тэорыю іянізацыі атамаў пры ядзерных рэакцыях. Распрацаваў тэорыю шырокіх ліўняў. Разгледзеў уплыў шматкратнага рассейвання на тармазное выпраменьванне і развіў метад рашэння квантавай задачы многіх целаў. Прымяніў тэорыю звышправоднасці да пытанняў будовы ядраў і вылічыў моманты інерцыі цотных і няцотных ядраў. Развіў колькасную тэорыю ядра, заснаваную на прымяненні метадаў квантавай тэорыі поля. Даследаваў праблему палярызацыі вакууму ў моцных магнітных палях. У навуковай літаратуры шырока скарыстоўваюцца такія азначэнні, як **асаблівасць Мігдала-Кона**, **скачок Мігдала**, **канстанта Мігдала**. Узнагароджаны ордэнамі Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга. Удзельнічаў у трох навукова-даследчых падводных экспедыцыях і быў першым старшынём Федэрацыі падводнага спорту СССР. Выступаў у абарону акад. А. Сахарава ў перыяд яго высылкі ў Горкі.

У часопісе “Лідскі летапісец” № 13 да 90-гадовага юбілею А.Б. Мігдала змешчаны выдатны артыкул Валерыя Белянкевіча (Дзікевіча, лаўрэата грамадскай прэміі прафесійнага прызнання “Лепшыя пёры Расіі”) “Акадэмік Аркадзь Мігдал. Аповесць пра шчаслівага чалавека”. Пасля публікацыі гэтага артыкула акадэмікі РАН выпусцілі ўспаміны пра А.Б. Мігдала (“Воспоминания об академике А.Б. Мигдале”, Масква, Физматлит, 2003, 256 ст, 300 ас.). Аўтарамі ўспамінаў выступілі:

**Агасян Мікіта Аванесавіч** (н. 1957 г.) скончыў МІФІ у 1980 г., кандыдат фіз.-мат. навук, старэйшы навуковы супрацоўнік ДНЦ ІТЭФ.

**Акунь (Окунь) Леў Барысавіч** (н. 1929 г.) скончыў МІФІ у 1953 г., акадэмік РАН, загадчык лабараторыі ГНЦ ІТЭФ.

**Асадчыеў Вячаслаў Міхайлавіч** (н. 1941 г.) скончыў МІФІ у 1964 г., кандыдат фіз.-мат. навук, дацэнт МІФІ.

**Ахмадуліна Бэла Ахатаўна** - паэтка.

**Белавін Аляксандр Абрамавіч** (н. 1942 г.) скончыў МІФІ у 1967 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, вядучы навуковы супрацоўнік ІТФ імя Л.Д. Ландау.

**Бяляеў Спартак Цімафеевіч** (н. 1923 г.) скончыў МДУ у 1952 г., акадэмік РАН, дырэктар інстытута агульнай і ядзернай фізікі РНЦ КІ.

**Вакс Валянцін Генадзевіч** (н. 1932 г.) скончыў МІФІ у 1956 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, вядучы навуковы супрацоўнік РНЦ КІ.

**Васкрасенскі Зміцер Мікалаевіч** (н. 1951 г.) скончыў МІФІ у 1974 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар МІФІ.

**Гейлікман Міхаіл Барысавіч** (н. 1945 г.) скончыў МІФІ у 1968 г., кандыдат фіз.-мат. навук, на 2003 г. інжынер-даследчык Тэхналагічнага Цэнтра кампаніі Shell, Хьюстан, Тэхас, ЗША.

**Гольдман Іосіф Ільіч** (н. 1926 г.) скончыў МДУ у 1948 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар. На 2003 г. жыў у Ізраілі.

**Еразалімскі Барыс Рыгоравіч** (н. 1921 г.) скончыў МДУ у 1947 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар. На працягу многіх гадоў быў заг. лабараторыі ў ІАЭ імя Курчатава. На 2003 г. працаваў у Гарвардскім універсітэце, ЗША.

**Зарэцкі Давыд Фішаравіч** (н. 1928 г.) скончыў МДУ у 1950 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, вядучы навуковы супрацоўнік РНЦ КІ.

**Камерджыеў Сяргей Паўлавіч** (н. 1938 г.) скончыў фізфак Варонежскага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1960 г., доктар фіз.-мат. навук, вядучы навуковы супрацоўнік Фізіка-энергетычнага інстытута, г. Обнінск.

**Капіца Сяргей Пятровіч** (н. 1928 г.) скончыў МАІ у 1950 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута фізічных праблем імя П.Л. Капіцы РАН.

**Коган Уладзімір Ільіч** (н. 1923 г.) скончыў МІФІ у 1947 г., кандыдат фіз.-мат. навук, прафесар МІФІ, вядучы навуковы супрацоўнік РНЦ КІ.

**Крайнеў Уладзімір Паўлавіч** (н. 1938 г.) скончыў МІФІ у 1962 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар МФТІ.

**Кудраўцаў Аляксандр Яўгенавіч** (н. 1944 г.) скончыў МІФІ у 1969 г., доктар фіз.-мат. навук, вядучы навуковы супрацоўнік ДНЦ ІТЭФ.

**Кулікоў Ігар Барысавіч** (н. 1945 г.) скончыў ЛДУ у 1971 г., кандыдат фіз.-мат. навук. На 2003 г. працаваў у Федэральным кіраванні авіяцыі, ЗША.

**Ландсберг Леанід Рыгоравіч** (н. 1930 г.) скончыў МДУ у 1954 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, загадчык лабараторыі ІФВЭ.

**Ларкін Анатоль Іванавіч** (н. 1932 г.) скончыў МІФІ у 1956 г., акадэмік РАН. На 2003 г. працаваў у ІТФ

імя Л.Д. Ландау, прафесар універсітэта штата Мінесота, ЗША.

**Ламінадзэ Джумбер Георгіевіч** (н. 1930 г.) скончыў МДУ у 1955 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, акадэмік АН Грузіі, акадэмік-сакратар аддзялення матэматыкі і фізікі АН Грузіі.

**Лушнікаў Аляксей Аляксеевіч** (н. 1939 г.) скончыў МІФІ у 1962 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, загадчык аддзела Навукова-даследчага фізіка-хімічнага інстытута ім. Л.Я. Карпава, член-карэспандэнт РАЕН.

**Мігдал Аляксандр Аркадзевіч** (н. 1945 г.) скончыў МФТІ у 1967 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар. На 2003 год працаваў у ЗША.

**Мішусцін Ігар Мікалаевіч** (н. 1947 г.) скончыў МДУ у 1971г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, вядучы навуковы супрацоўнік РНЦ КІ.

**Манастырскі Міхаіл Ільіч** (н. 1947 г.) скончыў МДУ у 1971 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, вядучы навуковы супрацоўнік ГНЦ ІТЭФ.

**Нарожны Мікалай Барысавіч** (н. 1940 г.) скончыў МІФІ у 1964 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, загадчык кафедры тэарэтычнай фізікі МІФІ.

**Недаспасаў Артур Уладзіміравіч** (н. 1928 г.) скончыў МДУ у 1950 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік ІВТ РАН, сапраўдны член РАЕН.

**Няцесава Алена Віктараўна** скончыла аддзяленне тэорыі і гісторыі мастацтваў гістарычнага ф-та МДУ у 1981 г., мастацтвазнавец, перакладніца, навуковы супрацоўнік Інстытута сістэмнага аналізу РАН.

**Мікалаеў Мікалай Мікалаевіч** (н. 1947 г.) скончыў МФТІ у 1970 г., доктар фіз.-мат. навук, вядучы навуковы супрацоўнік ІТФ імя Л.Д. Ландау.

**Пік-Пічак Георгій Антонавіч** (н. 1930 г.) скончыў МІФІ у 1953 г., кандыдат фіз.-мат. навук, старшы навуковы супрацоўнік РНЦ КІ.

**Палякоў Аляксандр Маркавіч** (н. 1945 г.) скончыў МФТІ у 1967 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, член-карэспандэнт РАН, прафесар Прынстанскага ўніверсітэта, ЗША.

**Папоў Уладзімір Сцяпанавіч** (н. 1932 г.) скончыў МДУ у 1956 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, вядучы навуковы супрацоўнік ДНЦ ІТЭФ.

**Рубінштэйн Леў Міхайлавіч** (1930-2002 гг.) скончыў Ленінградскі палітэхнічны інстытут у 1938 г., кандыдат тэхнічных навук, прафесар, пісьменнік.

**Саперштэйн Эдуард Яўсеевіч** (н. 1939 г.) скончыў МІФІ у 1962 г., доктар фіз.-мат. навук, галоўны навуковы супрацоўнік РНЦ КІ.

**Смародзінская Наэлі Якаўлеўна** скончыла МДУ у 1966 г., кандыдат фіз.-мат. навук, старшы навуковы супрацоўнік ДНЦ ІТЭФ.

**Трубнікаў Барыс Андрэевіч** (н. 1929 г.) скончыў МІФІ у 1952 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік РНЦ КІ, дзейны член РАЕН.

**Урын Міхаіл Генрыхавіч** (н. 1931 г.) скончыў МІФІ у 1955 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар МІФІ.

**Халатнікаў Ісак Маркавіч** (н. 1919 г.) скончыў Днепрапятроўскі ўніверсітэт у 1941 г., акадэмік РАН. Заснавальнік і першы дырэктар ІТФ імя Л.Д. Ландау.

**Хейфец Сямён Абрамавіч** (н. 1928 г.) скончыў МДУ у 1952 г., кандыдат фіз.-мат. навук. На 2003 г. жыў у Швейцарыі.

**Ходзель Віктар Аляксандравіч** (н. 1939 г.) скончыў МІФІ у 1962 г., доктар фіз.-мат. навук, галоўны навуковы супрацоўнік РНЦ КІ.

**Шурак Эдуард Уладзіміравіч** (н. 1948 г.) скончыў Навасібірскі дзяржаўны ўніверсітэт у 1970 г., доктар фіз.-мат. навук, прафесар, на 2003 г.дырэктар інстытута тэарэтычнай ядзернай фізікі Ўніверсітэта Стоні Брук, ЗША.

Рэдакцыйная калегія кнігі: М.А. Агасян, С.Ц. Бяляеў, Л.Б. Акунь, Э.Я. Саперштэйн.

Адзін з асобнікаў кнігі захоўваецца ў Лідскім музеі.

# АРКАДЗЬ БЕНЕДЫКТАВІЧ МІГДАЛ

Выбітны фізік-тэарэтык акадэмік Аркадзь Бенедыктавіч Мігдал быў адным з заснавальнікаў тэарэтычнай ядзернай фізікі ў нашай краіне, стваральнікам вялікай навуковай школы, чалавекам разнастайных здольнасцяў і захапляльнага асабістага абаяння. А.Б. Мігдал нарадзіўся 11 сакавіка 1911 г. у горадзе Ліда (Беларусь). У 20-х гг. сям'я пераехала ў Ленінград. Першую сваю навуковую работу Мігдал выканаў ва ўзросце 17 гадоў, працуючы лабарантам у школе. Затым ён паступіў на фізічны факультэт Ленінградскага ўніверсітэта, але правучыўся нядоўга - быў арыштаваны і звыш двух месяцаў знаходзіўся пад следствам, пасля чаго адпушчаны на волю (у той час яшчэ часам адпускалі). З 1931 па 1936 г., працуючы інжынерам-разлікоўцам на заводзе "Электрапрыбор", ён выканаў некалькі навуковых работ. У гэты час яму ўдалося аднавіцца ў ЛГУ на вячэрнім аддзяленні. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1936 г. А.Б. Мігдал паступіў у аспірантуру ЛФТІ, дзе вызначыліся яго навуковыя зацікаўленні, і пачаў фармавацца ўласны навуковы стыль. Кіраўніком дыплома і аспірантуры стаў М.П. Бранштэйн. Нягледзячы на тое, што стасункі з ім былі недоўгачасовымі, - у 1937 г. Мацвей Пятровіч быў арыштаваны, а ў пачатку 1938 г. расстраляны, - гэты яркі, таленавіты і глыбокі чалавек адыграў вялікую ролю ў навуковым станаўленні А.Б. Мігдала.

У першых спелых працах Мігдала была разгледжаная праблема ўзаемадзеяння нейтронаў з рэчывам, у прыватнасці, іянізацыя атама пры ўдары нейтрона па ядры (1939 г.). Для рашэння гэтай задачы Аркадзь Бенедыктавіч стварыў арыгінальны метад "устрэсвання". Затым, ужо знаходзячыся ў Маскве ў якасці дактаранта тэарэтычнага аддзела Інстытута фізічных праблем, кіраванага Л.Д. Ландау, ён з поспехам ужыў гэты метад для разліку верагоднасцяў атамных працэсаў, якія суправаджаюць *альфа-* і *бэта*-распад ядраў. Гэтыя працы прынеслі іх аўтару шырокую вядомасць і падрабязна выкладаюцца ў падручніках па квантавай механіцы, сам жа метад устрэсвання трывала ўвайшоў у сучасную тэарэтычную фізіку. Па гэты дзень ён не



***А.Б. Мігдал, пачатак 40-х гадоў***

толькі поўнасцю захаваў сваю актуальнасць для з’яў з удзелам ядзерных часціц, але і шырока распаўсюдзіўся на фізіку чыста атамных працэсаў, пры якіх “хуткія” пераходы ва ўнутраных электронных абалонках выклікаюць раптоўныя змяненні экранавання поля ядра, а з ім і ўстрэсванне адносна марудных электронаў знешніх абалонак.

Некалькі пазней А.Б. Мігдал заняўся тэорыяй фотапаглынання атамных ядраў. ¨н прадказаў існаванне гіганцкага дыпольнага рэзанансу, звязанага з ваганнямі нейтронаў адносна пратонаў, і разлічыў становішча рэзанансу праз параметры масавай формулы Вейцзекера. Гэтая работа разам з работамі па апісанні з’яў, спадарожных *альфа-* і *бэта*-распаду ядраў, паслужыла асновай доктарскай дысертацыі, абароненай А.Б. Мігдалам у 1943 г. Апублікавана яна была ў 1944 г. і бліскуча пацверджана эксперыментальна ў 1947 г. У нашы дні фізіка гіганцкіх рэзанансаў ператварылася ў раздзел ядзернай фізікі, які інтэнсіўна развіваецца, і пачатак якому быў пакладзены работай Мігдала.

У 1945 г. А.Б. Мігдал пераходзіць у Лабараторыю № 2 АН СССР (затым Лабараторыю вымяральных прыбораў, а цяпер Інстытут атамнай энергіі імя І.В. Курчатава) і ўключаецца ў работы па атамнай праблеме. У гэты час, пасля вядомай работы І.І. Гурэвіча і І.І. Памеранчука, інтэнсіўна распрацоўвалася ідэя гетэрагеннага рэактара. А.Б. Мігдал унёс істотны ўклад у распрацоўку рэалістычнай тэорыі канчатковага гетэрагеннага рэактара. Зыходзячы з ідэі, выказанай ім і Л.Д. Ландау, што блок урану ў запавольніку можа разглядацца як крыніца хуткіх і сцёк цеплавых і рэзанансных нейтронаў, Аркадзь Бенедыктавіч сумесна з Г.І. Будкерам распрацаваў метад разліку такога рэактара. Гэты метад быў у далейшым выкарыстаны А.Д. Галаніным і С.М. Фейнбергам для пабудовы тэорыі канчатковага гетэрагеннага рэактара. Другі важны вынік, атрыманы Мігдалам у гэты час, - дакладнае рашэнне задачы аб паглынанні *гама*-квантаў бясконцым асяроддзем з улікам шматразовага рассейвання. Гэтая работа аказалася вельмі істотнай для біялагічнай абароны рэактара. Але больш Аркадзя Бенедыктавіча захаплялі агульныя праблемы фізікі. На шчасце, Курчатаў добра разумеў ролю фундаментальнай навукі і значэнне той навуковай атмасферы, якая заўсёды ўзнікае вакол такіх людзей, як “АБ”. ¨н паставіў Мігдала на чале тэарэтычнага сектара (знакаміты Сектар 10), дазволіўшы займацца ў асноўным фундаментальнымі праблемамі.

Шырока вядома работа А.Б. Мігдала па тэорыі ядзерных рэакцый з утварэннем марудных нуклонаў. Яна была дакладзена на семінары Ландау ў 1950 г., але ў сілу абмежаванняў, звязаных з недарэчнай “сакрэтнасцю”, апублікавана толькі ў 1955 г. Гэта была адна з першых работ у тэорыі моцных узаемадзеянняў, па сутнасці заснаваная на выкарыстанні аналітычных уласцівасцяў S-матрыцы і на вылучэнні найболей істотных яе асаблівасцяў. Пасля такі падыход атрымаў назву дысперсійнага, а сам эфект узаемадзеяння ў канчатковым стане (**эфект Мігдала-Ватсана**) выкладаецца ў большасці падручнікаў па квантавай механіцы і тэорыі ядзерных рэакцый і дагэтуль з’яўляецца адным з найболей важных дасягненняў гэтага падыходу. Па гэты дзень яўнае выдзяленне “Мігдал-Ватсанаўскага фактару” суправаджае любы разлік сячэння шматчасцічнай ядзернай рэакцыі, сярод канчатковых прадуктаў якой маюцца два нуклоны з малым адносным імпульсам. Выключэнне складаюць малануклонныя рэакцыі, дзе магчыма дакладнае рашэнне задачы, пры якім эфект узаемадзеяння ў канчатковым стане ўлічваецца аўтаматычна.

У 1951-1953 гг. група, узначаленая А.Б. Мігдалам, уключаецца ў даследаванні па праблеме кіраванага тэрмаядзернага сінтэзу, пачатыя тады ў ІАЭ. У рабоце, выкананай у 1951 г. сумесна з У.М. Галіцкім, было праведзена піянернае даследаванне вельмі важнага пытання аб распаўсюджванні цыклатроннага выпрамяньвання ў замагнічанай тэрмаядзернай плазме, а ў рабоце з С.І. Брагінскім (1953 г.) была развітая якасная тэорыя асноўных фізічных працэсаў, якія суправаджаюць інэрцыйны пінч-эфект (іянізацыя, скін-эфект, кумуляцыя, “зграбанне” газу і інш.). Гэтыя работы, як і іншыя айчынныя работы па фізіцы плазмы, былі рассакрэчаныя і апублікаваныя толькі ў 1958 г. у вядомым зборніку “Фізіка плазмы”, які з’явіўся на Захадзе поўнай нечаканасцю. Варта адзначыць, што ў тыя ж гады, адначасова і незалежна ад Д. Бома і Д. Пайнса, А.Б. Мігдал сумесна з У.М. Галіцкім развіў метад калектыўных пераменных для апісання плазмы. Пералічаныя работы Мігдала ў поўнай меры захавалі сваю асноватворную значнасць для наступнага развіцця адпаведных раздзелаў тэорыі тэрмаядзернай плазмы і, больш таго, шмат у чым спрыялі рашэнню шырэйшай праблемы - станаўленню сучаснай тэорыі плазмы як фізікі калектыўных працэсаў.

У пачатку 50-х гадоў паўстала цікавасць да ўплыву, аморфнага асяроддзя на тармазное выпрамяньванне рэлятывісцкіх электронаў. Якасны разгляд быў

праведзены Л.Д. Ландау і І.Я. Памеранчуком, якія даследавалі ўціск тармазнога выпраменьвання дзякуючы шматразоваму рассейванню, і М.Л. Тэр-Мікаэлянам, які разгледзеў уплыў на гэты працэс палярызацыі асяроддзя. Імі былі атрыманы набліжаныя выразы для спектру тармазнога выпраменьвання ў дзвюх адпаведных абласцях частот. Аднак пабудова колькаснай рэлятывісцкай тэорыі здавалася ім немагчымым з-за незвычайнай складанасці працэсу. Мігдал заключыў пары, што вырашыць гэтую задачу, і выйграў яго, стварыўшы ў 1954-1955 гг. новы метад - квантавае кінэтычнае раўнанне. Гэты метад пасля знайшоў шырокае ўжыванне не толькі ў тэорыі праходжання часціц праз рэчыва, але і ў іншых абласцях фізікі.

А.Б. Мігдал - адзін са стваральнікаў сучаснай тэорыі сістэм шматлікіх цел, заснаванай у тым ліку на ўжыванні метадаў квантавай тэорыі поля, або метаду функцый Грына. Найважную ролю ў разуменні фізікі фярмі-сістэм сыграла яго работа 1957 г. аб скачку ў размеркаванні па імпульсах пры нулявой тэмпературы для фярмі-сістэмы з адвольным узаемадзеяннем ("скачок Мігдала"). Гэта супярэчыла перакананню, якое існавала у той час, што скачок у ліках запаўнення $n_p$ ідэальнага фярмі-газу пры імпульсе, роўным імпульсу Фярмі $p_F$, размываецца пры любым слабым узаемадзеянні. Мігдал, зыходзячы з аналітычных уласцівасцяў адначасцічнай функцыі Грына фярмі-сістэмы, паказаў, што скачок захоўваецца пры любым моцным узаемадзеянні. Месца становішча скачка $n_p$ служыць строгім азначэннем $p_F$ для сістэм з узаемадзеяннем. Пасля аказалася, што ў выпадку прыцягнення паміж фярмі-ёнамі поблізу паверхні Фярмі ўзнікае базэ-кандэнсат купераўскіх пар, які прыводзіць да звышцякучасці і размыцця $n_p$ на шырыні, прапарцыйнай шчыліны Д, аднак для нармальных фярмі-сістэм тэарэма Мігдала аб скачку справядлівая і пацверджаная эксперыментальна.

Класічнай стала і сумесная з У.М. Галіцкім работа 1958 г., прысвечаная фармулёўцы метаду функцый Грына для фярмі-сістэм. Аналітычныя ўласцівасці функцый Грына, спектральнае раскладанне і дысперсійныя суадносіны для функцый Грына, дакладная формула для энергіі - вось далёка не поўны пералік вынікаў, атрыманых у ёй. Гэтыя работы амаль даслоўна выкладаюцца ў падручніках і манаграфіях па праблеме многіх цел. Шырока вядомая таксама работа 1958 г., у якой вырашаная задача аб узаемадзеянні электронаў з фанонамі ў нармальным метале. Гэта было адно з першых ужыванняў метаду функцый Грына да рэальных сістэм і адзін з першых разглядаў узаемадзеянняў электронаў у метале без выкарыстання тэорыі ўсхваляванняў. Атрыманыя пры гэтым канкрэтныя вынікі, у прыватнасці аб асаблівасцях у спектры фанонаў, абумоўленых іх узаемадзеяннем з электронамі (асаблівасці Мігдала-Кона), з'яўляюцца ў тэорыі металаў класічнымі. Паказальна, што ў нобелеўскай лекцыі Дж. Бардзіна гэтая работа згадвалася восем раз. Працы А.Б. Мігдала па тэорыі цвёрдага цела, нягледзячы на іх малалікасць, сыгралі вельмі вялікую ролю ў развіцці гэтай вобласці фізікі. У цэлым гэтыя работы Мігдала (разам з тэорыяй фярмі-вадкасці Ландау) дазволілі зразумець, што наяўнасць узаемадзеянняў электронаў у нармальным метале прыводзіць толькі да колькасных, але не якасных змяненняў іх паводзін параўнальна з выпадкам неўзаемадзеючых часціц. Гэтае фундаментальнае палажэнне легла ў аснову далейшага развіцця тэорыі нармальных металаў. Работа А.Б. Мігдала па тэорыі нармальных металаў была абагульненая Г.М. Эліашбергам на звышправаднікі. У выніку была створаная тэорыя звышправаднікоў з моцным электрон-фононным узаемадзеяннем.

Працы А.Б. Мігдала па тэорыі цвёрдага цела маюць вялікую метадычную каштоўнасць, хоць А.Б. Мігдал ніколі не ставіў сабе мэту атрымліваць метадычныя вынікі. Гісторыя стварэння гэтых работ такая. У пяцідзесятыя гады Мігдал зацікавіўся з'явай звышправоднасці. ¨н рана (да работы Г. Фрэліха) зразумеў важнасць электрон-фаноннага ўзаемадзеяння, лічачы, што ў спектры адначасцічных узбуджэнняў павінна быць шчыліна. Аднак вылічэнні па тэорыі ўсхваляванняў не давалі шчыліны. Таму ім быў распрацаваны агульны метад даследавання спектру ўсхваляванняў з дапамогай функцый Грына і пабудавана тэорыя моцнага электрон-фаноннага ўзаемадзеяння. Гэтыя работы Аркадзь Бенедыктавіч лічыў толькі падмуркам для тэорыі звышправоднасці. Таму яны былі напісаныя і апублікаваныя толькі праз 2 гады пасля таго, як былі зробленыя, але да таго часу з'явілася тэорыя Бардзіна-Купера-Шрыфера.

Наступны этап навуковай творчасці А.Б. Мігдала быў звязаны з ужываннем метадаў квантавай тэорыі поля ў ядзернай фізіцы. Праца "Звышцякучасць і моманты інэрцыі ядраў" (1959 г.) была адной з першых, у якіх распрацоўвалася тэорыя атамных ядраў з улікам звышцякучасці нуклонаў. У ёй (і, незалежна, у рабоце С.Т. Бяляева) было паказана, што адрозненне момантаў інэрцыі ядраў ад цвёрдацельных значэнняў ёсць наступства эфектаў звышцякучасці. Па сённяшні дзень гэта з'яўляецца адным з самых яркіх праяў феномену Купера ў ядрах. Фундаментальнае значэнне мела і праца 1961 г. "Адначасцічныя ўзбуджэнні і звышцякучасць у фярмі-сістэмах з адвольным узаемадзеяннем. Прымяненне да ядра". У ёй была развіта дыяграмная тэхніка для канчатковых фярмі-сістэм са звышцякучасцю і дадзена строгая фармулёўка ядзернай мадэлі абалонак.

Наступная вялікая серыя работ (некаторыя ў суаўтарстве з вучнямі) завяршылася напісаннем манаграфій "Тэорыя канчатковых фярмі-сістэм і ўласцівасці атамных ядраў" (1965 г.) і "Метад квазічасціц у тэорыі ядра" (1967 г.). Абедзве манаграфіі былі перакладзеныя ў ЗША і сталі настольнымі кнігамі тэарэтыкаў-ядзершчыкаў ва ўсім свеце. Развіты ў іх падыход, заснаваны на прымяненні метадаў тэорыі многіх цел і блізкі па ідэях да тэорыі фярмі-вадкасці Ландау, з'явіўся найважнейшым этапам у стварэнні колькаснай тэорыі ядра. На змену шматлікім мадэлям, у якіх для кожнай з'явы, а часта і для кожнага ядра, уводзіліся свае канстанты, прыйшоў метад, у якім шляхам уводзін некалькіх універсальных для ўсіх ядраў і ўсіх ядзерных з'яў фенаменалагічных параметраў удалося апісаць вялікае кола ядзерных з'яў: спектры нізкалежных станаў і верагоднасці пераходаў паміж імі, магнітныя і квадрапольные моманты ядраў, верагоднасці (*бэта*-распаду і *м*-захопу, ізатапічныя і ізамерныя зрухі атамных і *меза*-атамных ліній і многае іншае. У наступныя гады вучнямі А. Б. Мігдала была развітая самаўзгодненая тэорыя канчатковых фярмі-сістэм, у




***А.Б. Мігдал, 70-я гады***

сучаснай ядзернай фізікі. У гэтых работах была развітая паслядоўная тэорыя піённых і цесна звязаных з імі ступеняў свабоды ў ядзерным рэчыве. Яўны ўлік піённых ступеняў свабоды не толькі палепшыў тэарэтычнае апісанне вялікай колькасці эксперыментальных дадзеных (магнітных момантаў, верагоднасцяў магнітных пераходаў і інш.), але і прывёў да шэрагу якасных эфектаў. Так, аказалася, што "піённая мода" у ядрах моцна змякчэлая, г.зн. для нараджэння піёна з вялікім імпульсам у ядзерным асяроддзі патрабуецца значна меншая энергія, чым у пустаце. Улік гэтага эфекту дазваляе зразумець цэлы шэраг ядзерных з'яў, напрыклад, узмацненне выхаду мяккіх піёнаў у сутыкненнях цяжкіх іёнаў прамежкавых і высокіх энергій. Работы А.Б. Мігдала па гэтай тэматыцы маюць шмат паслядоўнікаў ва ўсім свеце. Яны адны з самых цытаваных у ядзернай фізіцы. Адсутнасць піённага кандэнсату ў звычайных ядрах не закрывае магчымасці існавання анамальных ядраў: звышшчыльных або з незвычайныай adносінай зарада да масы. Імкненне стварыць такія анамальныя ядры было адным з асноўных стымулаў стварэння паскаральнікаў рэлятывісцкіх цяжкіх іёнаў. Хоць гэтыя пошукі пакуль не далі выніку, паўстала вялікая вобласць ядзернай фізікі, якая інтэнсіўна развіваецца.

якой праз тыя ж параметры ўдаецца з вялікай дакладнасцю разлічваць і такія глабальныя характарыстыкі ядраў, як энергія сувязі, размеркаванне шчыльнасці нуклонаў, сярэдняе поле ядра, сячэнні пругкага і няпругкага рассейвання электронаў і іншых часціц. Такім чынам амаль усе ядзерныя характарыстыкі аказаліся даступнымі апісанню на аснове адзінага падыходу, які аперуе некалькімі ўніверсальнымі параметрамі. Гэтыя змяненні ў тэорыі канчатковых фярмі-сістэм знайшлі сваё адлюстраванне ў другім выданні кнігі (1983 г.). У канцы 1960-х гадоў у сувязі з абмеркаваннем магчымых эксперыментаў па сутыкненні цяжкіх іёнаў адрадзілася цікавасць да электрадынамікі моцных кулонаўскіх палёў, якія адпавядаюць крытычнаму зараду ядра $z_{кр} = 170$. Рознымі аўтарамі, у прыватнасці Я.Б. Зяльдовічам і В.С. Паповым, была падрабязна прааналізавана сітуацыя, калі электронны ўзровень набліжаецца да мяжы ніжняга кантынууму $E = -mc^2$ па меры набліжэння z да $z_{кр}$. Невялікае павелічэнне z звыш $z_{кр}$ пры гэтым прывяло б да нараджэння электрон-пазітроннай пары. Зацікавіўшыся гэтай праблемай, А.Б. Мігдал адразу звярнуўся да аналагічнай задачы для базонаў. ¨н зразумеў, што ў базонным выпадку карціна прынцыпова іншая: пры паглыбленні ямы звыш крытычнага значэння базоны, у адрозненне ад фярмііёнаў, могуць нараджацца неабмежавана, калі не ўступіць у гульню адштурхванне паміж імі, якое перашкаджае далейшаму развіццю няўстойлівасці. У рабоце 1971 г. А. Б. Мігдалам (у гэты час ён перайшоў на працу ў Інстытут тэарэтычнай фізікі ім. Л.Д. Ландау) былі паказаныя магчымыя наступствы падобнай перабудовы асноўнага стану атамнага ядра - фазавы пераход ядзернага рэчыва з утварэннем піённага кандэнсату. Гэтыя ідэі далі штуршок развіццю цэлага навуковага кірунку: у наступныя гады з'явілася вялікая колькасць работ, прысвечаных праблеме піённага кандэнсату; найболей важныя з іх былі выкананыя самім А.Б. Мігдалам і яго вучнямі. Хоць гэтыя даследаванні паказалі, што ў звычайных ядрах піённы кандэнсат адсутнічае, яны сыгралі важную ролю ў развіцці

Важную ролю змякчэнне піённых ступеняў свабоды павінна іграць у пульсарах - нейтронных зорках, цэнтральная шчыльнасць якіх, у залежнасці ад масы зоркі, можа вар'іравацца ў межах ад шчыльнасці парадку ядзернай $p_0$ да $-10p_0$. Так, гэты эфект натуральна тлумачыць хуткае астуджэнне больш масіўных нейтронных зорак пасля іх утварэння. Агульнапрызнана тлумачэнне "зоркатрасенняў" нейтронных зорак, якія выяўляюцца ў збоях іх перыядаў, звышцякучасцю. Аднак дадзеныя па некаторых пульсарах не ўдаецца ўкласці ў звычайны механізм звышцякучасці. Калі выказаць здагадку, што звышцякучасць звязана з піённым кандэнсатам, гэта палягчае інтэрпрэтацыю. Нарэшце, у працэсе эвалюцыі нейтроннай зоркі ў ёй можа адбыцца фазавы пераход з утварэннем піённага кандэнсату, які суправаджаецца вялікім вылучэннем энергіі, у прыватнасці, у форме нейтрыннага выпраменьвання.

Прагрэс у вывучэнні фізікі піённых ступеняў свабоды ў ядрах і зорках, дасягнуты ў 80-х гадах, знайшоў сваё адлюстраванне ў кнізе, напісанай А.Б. Мігдалам сумесна з вучнямі, якая ўжо пасля яго смерці выйшла ў выдавецтве "Навука".

У 80-я гады А.Б. Мігдал захапіўся праблемамі квантавай хромадынамікі. Як заўсёды, ён ставіў перад сабой вялікія задачы. Тут яго "звышзадачай" было стварэнне тэорыі канфайнмента. У працэсе працы над гэтай праблемай А.Б. Мігдалам быў выказаны шэраг арыгінальных ідэй. У прыватнасці, ён заўважыў, што "кулонаўскае" поле кварка з-за росту эфектыўнай

канстанты ўзаемадзеяння няўстойлівае ў адносінах да нараджэння “зараджаных” глюёнаў. ¨н пачаў развіваць фенаменалагічны падыход у КХД і, сумесна з вучнямі, стварыў заснаваную на ўяўленнях КХД мадэль адронаў, альтэрнатыўную мадэлі мяшкоў. У гэтай мадэлі асноўная энергія адрона засяроджаная ў выцягнутай глюённай кроплі, на канцах якой находзяцца лёгкія кварк і антыкварк (для мезонаў) або кварк і дыкварк (для барыёнаў). Гэтая мадэль натуральна тлумачыць, чаму траекторыі Рэджэ для адронаў застаюцца лінейнымі аж да нулявога моманту. Гэты падыход застаўся незавершаным, і А.Б. Мігдал працаваў над ім да апошніх дзён.

У сваёй навуковай творчасці Мігдал, фізік “па нараджэнні”, заўсёды ішоў ад з’явы да найболей адэкватнага метаду яе тэарэтычнага даследавання. Выдатна валодаючы ўсім арсеналам сродкаў тэарэтычнай фізікі - ад празрыстых якасных ацэнак да складанага матэматычнага апарату,- ён практычна заўсёды дасягаў уражлівай супамернасці паміж мэтай і сродкам. Уся навуковая творчасць Мігдала вельмі гарманічная. Менавіта з імкнення да гармоніі вынікаюць такія характэрныя рысы навуковага стылю Мігдала, як майстэрскае выкарыстанне фенаменалагічных падыходаў, адносна рэдкі зварот да стандартнай тэорыі ўсхваляванняў і, адпаведна, вынаходства ім якасна новых, істотна непертурбатыўных падыходаў (устрэска, узаемадзеянне ў канчатковым стане і інш.), нарэшце, вельмі нізкі для высокапрадуктыўнага навукоўца адсотак навуковага браку.

Мігдал-навуковец неаддзельны ад Мігдала-настаўніка. ¨н працаваў вельмі артыстычна, і як усякаму артысту яму патрэбныя былі гледачы. У ролі такіх звычайна аказваліся адзін або некалькіх маладых супрацоўнікаў (або студэнтаў), якія сачылі за развагамі А.Б., за яго выкладкамі і вучыліся працаваць у тэарэтычнай фізіцы. Такім чынам, А.Б. Мігдал выхаваў дзесяткі фізікаў-тэарэтыкаў, якія актыўна працуюць. Сярод яго вучняў акадэмікі і члены-карэспандэнты (у прыватнасці, цяпер нябожчыкі А.М. Будкер і Ў.М. Галіцкі), дактары і кандыдаты навук, якія працуюць у самых розных абласцях сучаснай фізікі, такіх як элементарныя часціцы, атамнае ядро, цвёрдае цела, плазма, рэактары, паскаральнікі... Гэта і ёсць “школа Мігдала”.

Выкладчыцкая дзейнасць А.Б. Мігдала звязана з Маскоўскім інжынерна-фізічным інстытутам, у якім ён працаваў з дня яго заснавання. Звыш 40 гадоў ён чытаў у МІФІ лекцыі па тэорыі ядра і набліжаных метадах квантавай тэорыі, кіраваныя ім семінары нязменна прыцягвалі да яго здольных студэнтаў. Педагагічная дзейнасць шмат у чым дапамагла Аркадзю Бенедыктавічу ў напісанні манаграфій “Набліжаныя метады квантавай механікі” (сумесна з У.П. Крайневым) і “Якасныя метады ў квантавай тэорыі”, гэтак жа як і згаданых раней кніг, перакладзеных на ангельскую мову. Маўклівая, але беспярэчная чытацкая адзнака навуковай значнасці і практычнай карыснасці кніг Мігдала ўкладзена ў тым простым факце, што расходзіліся яны практычна імгненна. З вялікім захапленнем і сур’ёзнасцю А.Б. Мігдал ставіўся ў апошнія 10-15 гадоў да шырокай дзейнасці, якую толькі ўмоўна можна аб’яднаць назвай навукова-папулярызатарскай. Сюды адносяцца шматлікія артыкулы і кнігі, як тыя, якія належаць да класічнага навукова-папулярнамга жанру (напрыклад, невялікая кніжка “Квантавая механіка для вялікіх і маленькіх”), так і тыя, што змяшчаюць важныя думкі і назіранні аб псіхалогіі навуковай творчасці, аб мэтах навукі і яе ролі ў грамадстве. Досыць назваць найзахаплялыльнейшую кнігу “Пошукі ісціны” (1978; 1983), глыбокія канцэптуальныя артыкулы “Нільс Бор” і “Фізіка і філасофія”. Нязменная цікавасць у самой шырокай аўдыторыі выклікалі выступы А.Б. Мігдала з такой нетрадыцыйнай для навукоўца трыбуны, як тэлеэкран. У гэтых выступах, як і ў артыкулах у “Літаратурнай газеце”, ён не раз выказваў сваю грамадзянскую пазіцыю. Характэрны выпадак адбыўся ў 1986 г., калі на аснове папулярных артыкулаў і выступаў А.Б. Мігдала быў зняты тэлевізійны фільм “Сумняваюся ў яўным, веру цуду...”, у якім ён выказаў радасць з нагоды вяртання з высылкі Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава (у той час гэтае імя заставалася яшчэ пад цвёрдай забаронай). Гэты эпізод быў выкінуты тэлевізійным начальствам, і А.Б. Мігдалу прыйшлося звярнуцца з лістом да А.Н. Якаўлева, які быў тады членам Палітбюро. Прыведзеныя ім аргументы падзейнічалі, і імя яшчэ паўапальнага акадэміка ўпершыню загучала з экранаў тэлевізараў без абразлівых эпітэтаў.

Адносіны А.Б. Мігдала і А.Д. Сахарава заслугоўваюць асобнай гутаркі. Андрэй Дзмітрыевіч заўсёды быў для Мігдала ўзорам грамадзяніна. Не выпадкова Мігдал быў у ліку тых, хто ў 1981 г., у адзін з самых цяжкіх для Сахарава перыядаў горкаўскай высылкі, дапамог выратаваць яго жыццё. Сам Мігдал, валодаючы выяўленым грамадскім тэмпераментам, тым не менш усё жыццё цураўся прамой палітычнай дзейнасці. Аднак калі ўставаў пытанне выбару, ён заўсёды паводзіў сябе вельмі годна і ў самыя цяжкія часы не запэцкаў сябе ніводным нявартым учынкам. Вядомая яго роля ў барацьбе за захаванне ў Акадэміі навук СССР духу вальнадумства. Андрэй Дзмітрыевіч плаціў Аркадзю Бенедыктавічу глыбокай пашанай і пасля вяртання з высылкі прыцягнуў яго да заснавання “Маскоўскай трыбуны”, справядліва лічачы, што высокая грамадская рэпутацыя А.Б. Мігдала, яго інтэлект дапамогуць у станаўленні гэтай грамадскай арганізацыі. Такой вялікай творчай асобе, як А.Б. Мігдал, было мала адной навукі. Аб ім можна сказаць пушкінскімі словамі “...і акадэмік, і герой, і мараплавец, і цясляр...”. Мастакі ведаюць яго як скульптара і разьбяра па дрэве, ювеліры - як ювеліра і калекцыянера камянёў, спартоўцы-падводнікі - як аднаго са стваральнікаў савецкага акваланга, арганізатара і першага старшыню Федэрацыі падводнага спорту СССР, па праве лічаць яго сваім гарналыжнікі і альпіністы, а фізікам застаецца толькі развесці рукамі... Сэнс жыцця, па АБ, “не ў тым, каб прыйсці да мэты найкароткім шляхам, а ў тым, каб як мага больш адчуць і ўбачыць па дарозе”.

У кожным з сваіх шматлікіх “хобі” А.Б. Мігдал дасягаў узроўню або прафесійнага або блізкага да прафесійнага. Быўшы прафесарам МІФІ, у 50-я гады ён быў чальцом зборнай інстытута па плаванні. А.Б. Мігдал стварыў групу аматараў па падводных фота- і кіназдымках і арганізаваў экспедыцыі аквалангістаў на Курыльскія астравы, у якіх былі адзнятыя тры падводныя фільмы пра жыццё мора. Два з іх, “Над намі Японскае мора” і “Ля скал Манярона”, у ліку лепшых аматарскіх фільмаў краіны былі прынятыя ў пракат.

АБ быў першакласным апавядальнікам гумарыстычных гісторый, выкладаных ім вельмі артыстычна. Шырока вядомыя шматлікія вясёлыя “розыгрышы” Мігдала. Сябры АБ запомняць на ўсё жыццё святкаванне яго 75-гадовага юбілею ў 1986 г., якое ён перанёс на 1 красавіка і наладзіў у кавярні ў цэнтры бурлівага і радаснага Арбата, які быў месцам правядзення Першага Маскоўскага Дня Смеху. Гасцей сустракаў ветлівы швейцар, ахвотна прымаючы чаявыя, у якім толькі вочы выдавалі зменена́га грымам Мігдала.

Амаль усе свае даклады, нават найважнейшыя, Мігдал пачынаў з жарту. Гэтыя жарты, як і бліскучыя мігдальскія розыгрышы, перадаваліся з вуснаў у вусны, нязменна падтрымліваючы жыццярадасную атмасферу ў атачэнні Мігдала. А.Б. Мігдал быў выдатным, дакладным сябрам. ¨н не толькі заўсёды быў гатовы прыйсці на дапамогу сваім сябрам у цяжкую хвіліну, але і нязменна стараўся дзяліцца з імі сваімі радасцямі. Так, усё сваё жыццё любячы горы, наведваючы іх і ўзімку, і ўлетку, ён заўсёды стараўся прылучыць да гэтага і сваіх сяброў. Усе гэтыя якасці рабілі Мігдала цэнтрам любой кампаніі, выклікаючы любоў і захапленне.

Жыццё і творчасць А.Б. Мігдала натуральна падводзяць да шырэйшых разважанняў аб ролі і самавартасці буйной, высокадаравітай асобы ў навуцы і грамадстве. Уяўляецца, што ключом да разумення самой сутнасці Мігдала як чалавека і навукоўца можа служыць перафразаваная назва яго ўласнай кнігі “Пошукі ісціны” - пошукі гармоніі. Бо менавіта гармонія сінтэзуе ісціну з так блізкімі светаадчуванню Мігдала прыгажосцю і шчасцем.

Навуковая і мастацкая творчасць, узаемаадносіны з людзьмі, імкненне да гармоніі, імкненне быць у ладзе з самім сабой прывялі Мігдала да выпрацоўкі ўласнага цэласнага ўспрымання жыцця і шляхоў развязвання праблем выбару жыццёвага шляху, разумення чалавечага шчасця. Пра сваю смяротную хваробу ён даведаўся, прыехаўшы ў кастрычніку 1990 г. у камандзіроўку ў Прынстанскі універсітэт. Мужна і з годасцю пераносячы пакуты, ён выступіў з некалькімі бліскучымі лекцыямі і працягваў навуковую працу да самых апошніх дзён. Наведваўшым яго сябрам ён гаварыў: *“Я не баюся смерці. Я пражыў не адно, а некалькі шчаслівых жыццяў, я шчаслівы і зараз. Я вельмі рады, што дазнаўся аб сваёй хваробе досыць позна, каб паспець у апошні раз пабываць у альплагеры”*. А.Б. Мігдал памёр у Прынстане. Урна з яго прахам пахаваная на Новадзевічых могілках у Маскве.



**А.Б. Мігдал.** *Скульптурны партрэт А. Эйнштэйна*

На працягу ўсяго свайго жыццёвага шляху А.Б. Мігдал набыў глыбокую пашану, шчырую сімпатыю, нярэдка нават пакланенне вельмі многіх людзей усіх узростаў, прафесій і званняў. Непаўторнае абаянне асобы Мігдала назаўжды захаваецца ва ўдзячнай памяці яго шматлікіх вучняў, сяброў, прыхільнікаў - усіх, каму выпала рэдкае шчасце зносін з гэтым Навукоўцам, Настаўнікам, Чалавекам.

**М. А. Агасян, Л. Б. Акунь,**
**С. Ц. Бяляеў, Э. Я. Саперштэйн.**

# ПУБЛІКАЦЫІ А. Б. МІГДАЛА

***Артыкулы А.Б. Мігдала***


1. А. Мигдал. Об одной ошибке в применении машины Атвуда. Математика, физика, химия в школе. Ленинград, 1929. 99.
2. А.Б. Мигдал. Рассеяние нейтронов в ферромагнетиках. ДАН, 20 (1938) 555.
3. А. Мигдал. Ионизация атомов при ядерных реакциях. ЖЭТФ, 9 (1939) 1163.
4. А. Мигдал. Рассеяние нейтронов в парамагнетиках. ЖЭТФ, 10 (1940) 5.
5. А. Мигдал и И. Померанчук. О конце трэка мезотрона в камере Вильсона. ДАН, 27 (1940) 652.
6. V. Berestetzky and A. Migdal. Mechanism of nuclear fission. Comptes Rendus (Doklady) de l’Academie des Sciences de l’USSR, 30 (1941) 706.
7. А. Мигдал. Ионизация атомов при a- и fS-распаде. ЖЭТФ, 11 (1941) 207.
8. Migdal. Quadrupole and dipole y-radiation of nuclei. Journal of Physics, 8 (1944) 331.
9. А.Б. Мигдал, Квадрупольное и дипольное у-излучение ядер. ЖЭТФ, 15 (1945) 81.
10. А. Мигдал. Анализ экспериментальных данных о ливнях Оже и толчках Гофмана. ЖЭТФ, 15 (1945) 313.
11. А. Мигдал. Спектр равновесной мягкой компоненты космических лучей при больших энергиях. ЖЭТФ, 15 (1945)393.
12. А. Мигдал. Образование пар при ядерных столкновениях. ЖЭТФ, 15 (1945) 401.
13. А.Б. Мигдал, Я.А. Смородинский. Искуственные л-мезоны. УФН, 41 (1950) 133.
14. А.Б. Мигдал, Влияние многократного рассеяния на тормозное излучение при больших энергиях. ДАН, 96 (1954) 49.
15. А.Б. Мигдал. Влияние многократного рассеяния на тормозное излучение при больших энергиях. Известия АН, 19 (1954) 665.

16. А.Б. Мигдал. Квантовое кинетическое уравнение для многократного рассеяния. ДАН, 105 (1955) 77.
17. А.Б. Мигдал и Н.М. Полиевктов-Николадзе. Квантовое кинетическое уравнение для парных соударений. ДАН, 105 (1955) 233.
18. А.Б. Мигдал, Теория ядерных реакций с образованием медленных частиц. ЖЭТФ, 28 (1955) 3.
19. А.Б. Мигдал. Образование мезонов при энергии, близкой к пороговой. ЖЭТФ, 28 (1955) 10.
20. И.И. Гольдман и А.Б. Мигдал. Теория рассеяния в квазиклассическом приближении. ЖЭТФ, 28 <1955) 394.
21. A.B. Migdal. Bremsstrahlung and Pair Production in Condenced Media at High Energies. Phys. Rev. 103 (1956) 1811.
22. А.Б. Мигдал. О распределении взаимодействующих ферми-частиц по импульсам. ЖЭТФ, 32 (1957) 399.
23. А.Б. Мигдал. Тормозное излучение и образование пар при больших энергиях в конденсированной среде. ЖЭТФ, 32 (1957) 633.
24. В.М. Галицкий, А.Б. Мигдал. Диэлектрическая постоянная высокотемпературной замагниченной плазмы и оценка лучистой теплопроводности. Сборник «Физика плазмы и проблема управляемой термоядерной реакции» (под ред. М.А. Леонтовича), (1958) т. 1. 161.
25. В.И. Коган, А.Б. Мигдал. Зависимость спектра тормозного излучения от электронной температуры плазмы. Сборник «Физика плазмы и проблема управляемой термоядерной реакции» (под ред. М.А. Леонтовича), (1958) т. 1. 172.
26. С.И. Брагинский, А.Б. Мигдал. Процессы в плазменном столбе при быстром нарастании тока. Сборник «Физика плазмы и проблема управляемой термоядерной реакции» (под ред. М.А. Леонтовича), (1958) т. 3. 20.
27. В.М. Галицкий, А.Б. Мигдал. Применение методов квантовой теории поля к задаче многих тел. ЖЭТФ, 34 (1958) 139.
28. А.Б. Мигдал. Взаимодействие электронов с колебаниями решетки в нормальном металле. ЖЭТФ, 34 (1958) 1438.
29. А.Б. Мигдал, Сверхтекучесть и моменты инерции ядер. ЖЭТФ, 37 (1959) 249.
30. А.Б. Мигдал. Одночастичные возбуждения и сверхтекучесть в системах, состоящих из ферми-частиц с произвольным взаимодействием. Применение к ядру. ЖЭТФ, 40 (1961) 684.
31. А.Б. Мигдал. Применение дисперсионных соотношений в нерелятивистской области. Лекция на Всесоюзной школе в Нор-Амберде, 1961 г. Ереван, АН Арм. ССР, 1962. 7.
32. А.Б. Мигдал. Применение дисперсионных соотношений к задаче многих тел. Лекция на Всесоюзной школе в Нор-Амберде, 1961 г. Ереван, АН Арм. ССР, 1962. 149.
33. А.Б. Мигдал. Теория ферми-жидкости, состоящей из двух типов частиц. Применение к ядру. ЖЭТФ, 43 (1962) 1940.
34. A.B. Migdal. Single-particle excitations and superfluidity in Fermi systems with arbitrary interaction. Applications to the nucleus. Nucl. Phys. 30 (1962) 1962.
35. А.Б. Мигдал. Феноменологический подход к теории ядра. В сб. «Вопросы физики элементарных частиц», Ереван, 1963, 363.
36. А.Б. Мигдал. Функции Грина, как количественный метод в теории ядра. В сб. «Вопросы физики элементарных частиц», Ереван, 1964, 475.
37. А.И. Ларкин, А.Б. Мигдал. Теория сверхтекучей ферми-жидкости. Применение к ядру. ЖЭТФ, 44 (1963) 1703.
38. А.Б. Мигдал, А.И. Ларкин. Феноменологический подход к теории ядра. ЖЭТФ, 45 (1963) 1036.
39. А.Б. Мигдал, Магнитные моменты ядер. ЖЭТФ, 46 (1964) 1680.
40. A.B. Migdal. A new approach to the theory of nuclear structure. Nucl. Phys. 57 (1964) 29.
41. A.B. Migdal, A.A. Lushnikov and D.F. Zaretsky. Theory of dipole photo-absorption of nuclei. Nucl. Phys. 66 (1965) 193.
42. А.Б. Мигдал, В.А. Ходель. Р-Распад в ядрах. ЯФ, 2 (1965) 28.
43. A.B. Migdal. Nuclear magnetic moments. Nucl. Phys. 75 (1966) 441.
44. А.Б. Мигдал. О методе квазичастиц в теории ядра. В сб. «Структура ядер», Москва: Атомиздат (1966) 87.
45. А.Б. Мигдал. Квазичастицы в теории ядра. УФН, 92 (1967) 27.
46. A. B. Migdal. The Method of Interacting Quasi-Particles in the Theory of the Nucleus. Scuola Internasionale di Fisica «E. Fermi»-XXXVI (1970) 171.
47. А.Б. Мигдал. Устойчивость вакуума и предельные поля. УФН, 105 (1971) 781.
48. А.Б. Мигдал. Устойчивость вакуума и предельные поля. ЖЭТФ, 61 (1971) 2209.
49. А.Б. Мигдал, А.М. Переломов, В.С. Попов. Аналитические свойства волновых функций при малой энергии. ЯФ, 14 (1971) 874.
50. А.Б. Мигдал. Поляризация вакуума в сильных неоднородных полях. ЖЭТФ, 62 (1972) 1621.
51. А.Б. Мигдал. Сравнение различных подходов к теории ядра. В сб. «Проблемы современной физики». Москва: Наука (1972) 157.
52. А.Б. Мигдал. Фазовый переход в ядерном веществе и непарные ядерные силы. ЖЭТФ, 63 (1972) 1993.
53. А.Б. Мигдал. Две взаимодействующие частицы в потенциальной яме. ЯФ, 13 (1972) 427.
54. А.Б. Мигдал. Л-мезонная конденсация в нейтронных звездах. Письма в ЖЭТФ, 18 (1973)443.
55. A.B. Migdal. Phase transitions (тс-condensation) in nuclei and neutron stars. Phys. Lett. 45B (1973) 448.
56. A.B. Migdal. Л-Condensation in Nuclear matter. Phys. Rev. Lett. 31 (1973) 257.
57. A.B. Migdal. The energy of the nuclear matter in the presence of the л-соп-densate. Phys. Lett. 47B (1973) 96.
58. A.B. Migdal. Phase transition in nuclear matter and multiparticle forces. Nucl. Phys. A210 (1973) 421.
59. A.B. Migdal. Vacuum polarization in strong non-homogenious fields. Nucl. Phys. B52 (1973)483.
60. A.B. Migdal, N.A. Kirichenko, G.A. Sorokin. Л-Condensation in a finite system and properties of nuclei. Phys. Lett. 50B (1974) 411.
61. A.B. Migdal. Periodic structure and stability of nuclear matter. Phys. Lett. 52B (1974) 264.
62. А.Б. Мигдал, Н.А. Кириченко, Г.А. Сорокин. Влияние л-конденсата на свойства ядер. Письма в ЖЭТФ, 19 (1974) 326.
63. А.Б. Мигдал, О.А. Маркин, И.Н. Мишустин, Спектр пионов в ядерном веществе и л-конденсация. ЖЭТФ, 66 (1974) 443.
64. А.Б. Мигдал. Л-Конденсат и данные по рассеянию электронов ядрами. Письма в ЖЭТФ, 19 (1974) 539.
65. А.Б. Мигдал, О.А. Маркин, И.Н. Мишустин. Спектр пионов в ядерном веществе и л-конденсация. Тр. Международного семинара «Взаимодействие частиц высокой энергии с ядрами и новые ядерноподобные системы», Москва: Атомиздат (1974) т. 3. 39.
66. A.B. Migdal. Pi-condensation and abnormal nuclei, Published in AIP Conf. Proc. 2 (1975) 677.
67. А.Б. Мигдал. Связанные состояния электронно-позитронных пар в сильном электрическом поле. ЖЭТФ, 70 (1976) 411.
68. А.Б. Мигдал, О.А. Маркин, И.Н. Мишустин. Спектр пионов в ядерном веществе и л-конденсация. ЖЭТФ, 70 (1976) 1592,
69. A.B. Migdal, G.A. Sorokin, O.A. Markin, I.N. Mishustin.

Pion condensation and stability of abnormal nuclei. Phys. Lett. 65B (1976) 423.
70. А.Б. Мигдал, Д.Н. Воскресенский, В.С. Попов. О распределении вакуумного заряда вблизи сверхзаряженных ядер. Письма в ЖЭТФ, 24 (1976) 186.
71. А.Б. Мигдал, В.С. Попов, Д.Н. Воскресенский. Распределение вакуумного заряда вблизи сверхзаряженных ядер. ЖЭТФ, 72 (1977) 834.
72. А.Б. Мигдал, О.А. Маркин, И.Н. Мишустин. Пионная конденсация в области устойчивости аномальных ядер. ЖЭТФ, 72 (1977) 1247.
73. А.Б. Мигдал. Поляризация вакуума в сильных полях и пионная конденсация. УФН, 123 (1977) 369.
74. A. B. Migdal. Pion condensation. Invited Talk at the Int. Conf. on Nucl. Structure. (Tokyo, 1977) J. Phys. Soc. Japan, 44 (1978) 755.
75. A.B. Migdal. Pion field in nuclear matter. Rev. Mod. Phys. 50 (1978) 107.
76. А.Б. Мигдал. Неустойчивость уравнений Янга-Миллса и конденсация глюонного поля. Письма в ЖЭТФ, 28 (1978) 37.
77. A.B. Migdal. Pion excitation and phase transitions in nuclear matter. In «Mesons in nuclei» (Eds. M. Rho and D. Wilkinson) North-Holland, 3 (1979) 941.
78. A.B. Migdal, A.I. Chernoutsan, I.N. Mishustin. Pion condensation and dynamics of neutron stars. Phys. Lett. 83B (1979) 158.
79. A.B. Migdal. The Method of Interacting Quasi-Particles in the Theory of the Nucleus. Scuola Internasionale di Fisica «E. Fermi»-XXXVI (1970) 171.
80. А.Б. Мигдал, С.Б. Хохлачев. Структура глюонной струны. Письма в ЖЭТФ, 41 (1985) 159.
81. А.Б. Мигдал, Н.О. Агасян, СБ. Хохлачев. Влияние квантовых флуктуации на форму инстантона, Письма в ЖЭТФ, 41 (1985) 405.
82. Н.О. Агасян, А.Б. Мигдал, СБ. Хохлачев. Квантовые флуктуации и инфракрасные расходимости в поле инстантона. В сб. «Вычислительные методы в квантовой теории поля», Москва, Научный совет по кибернетике АН СССР, 1986, 34.
83. А.Б. Мигдал, СБ. Хохлачев, Л.Н. Щур. Структура глюонной струны, ЖЭТФ, 91 (1986) 745.
84. A.B. Migdal. The structure of a gluon string, in «SIOFOK 1986, proceedings, nonperturbative methods in quantum field theory», 279.
85. А.Б. Мигдал. Редже траектории и форма адронов, Письма в ЖЭТФ, 46 (1987) 256.
86. A. B. Migdal. Pion degrees of freedom and EMC effect, Prog. Theor. Phys. Suppl. 91 (1987) 244.
87. A.B. Migdal. QCD and the structure of hadrons, Nucl. Phys. A478 (1988) 95.
88. A.B. Migdal, P.J.S. Watson. The possibility of a liquid crystal phase in nuclear matter. Phys. Lett. B252 (1990) 32.
89. A.B. Migdal, Phenomenology of QCD and hadron structure. Nucl. Phys. A518 (1990) 358.
90. A.B. Migdal. Nuclear physics and QCD. In «Marciana Marina 1990, Proceedings, Condensed matter theories», vol. 6, 309.
91. A.B. Migdal, E.E. Saperstein, M.A. Troitsky and D.N. Voskresensky. Pion degrees of freedom in nuclear matter. Phys. Rep. 192 (1990) 179.

### *Манаграфіі*

1. А.Б. Мигдал. Теория конечных ферми-систем и свойства атомных ядер. Москва: Наука, 1965.
2. A.B. Migdal. Theory of Finite Fermi Systems and Applications to Atomic Nuclei, New York: Interscience, 1967.
3. А.Б. Мигдал. Теория конечных ферми-систем и свойства атомных ядер. (Изд. 2-е, переработанное). Москва: Наука, 1983.
4. А.Б. Мигдал, В.П. Крайнев. Приближенные методы квантовой механики. Москва: Наука, 1966.
5. A.B. Migdal, V.P. Krainov. Approximation methods in quantum mechanics. New York: W. A. Benjamin. 1969.
6. А.Б. Мигдал. Метод квазичастиц в теории ядра. Москва: Наука, 1967.
7. A.B. Migdal. Nuclear theory: the quasiparticle method. New York: W.A. Benjamin. 1968.
8. А.Б. Мигдал. Качественные методы в квантовой теории. Москва: Наука, 1975.
9. A.B. Migdal. Qualitative methods in quantum theory. London: W.A. Benjamin. 1977.
10. A.B. Migdal. Qualitative methods in quantum theory. Front. Phys. 48 (1977) 1-437.
11. А.Б. Мигдал. Фермионы и бозоны в сильных полях. Москва: Наука, 1978.
12. А.Б. Мигдал, Д.Н.Воскресенский, Э.Е. Саперштейн, М.А.Троицкий. Пионные степени свободы в ядерном веществе. М.: Наука, 1991.

### *Навукова-папулярныя артыкулы*

1. Современный подход к теории ядра. Москва: Знание, 1965.
2. Квазичастицы в теории ядра. Природа, 2 (1969) 64.
3. Симметрично ли пространство? Наука и жизнь, 9 (1971).
4. Письмо к школьникам, которые хотят стать физиками. Квант, 3 (1975).
5. О психологии научного творчества. Наука и жизнь, 2 (1976)3.
6. Заметки о психологии научного творчества. В сб. «Будущее науки». Москва: Знание, 1977.
7. Поиски истины. Москва: Знание, 1978.
8. Огонь, мерцающий в сосуде. Наука и жизнь, 8 (1978).
9. Фазовые переходы в ядерном веществе. В сб. «Наука и человечество». Москва: Знание, 1978.
10. Вычисления без вычислений. Квант, 8 (1979).
11. От догадки до истины. Химия и жизнь, 12 (1979).
12. От идеи до научной истины. Курьер Юнеско, 1979.
13. Соображения в ходе дискуссии. В сб. «НТР и развитие художественного творчества». Ленинград: «Наука», 1980.
14. Судьба нейтронных звезд. Квант, 1 (1982).
15. Отличима ли истина от лжи? Наука и жизнь, 1 (1982).
16. Поиски истины. Москва: Молодая гвардия, 1983.
17. О красоте в науке. Наука и жизнь, 3 (1983).
18. На пути к истине (о научном методе познания), «Кибернетика живого: Биология и информация». Москва: Наука, 1984 (совместно сЕ.В. Нетесовой).
19. Как рождаются физические теории. Москва: Педагогика, 1984.
20. Как создавалась квантовая теория. Квант, 8 (1984).
21. Нильс Бор и квантовая физика. Успехи физических наук, т. 147, вып. 2, октябрь 1985.
22. Как устроена пустота? Квант, 3 (1986).
23. Современная наука на телеэкране. Природа, 2 (1987) (совместно с Е.В. Нетесовой).
24. Квантовая физика и Нильс Бор. Серия Физика. Москва: Знание, 3 (1987).
25. Наследство Чука. В книге «Воспоминания о И.Я. Померанчуке». Москва: Наука, 1988.
26. Квантовая физика для больших и маленьких. Библиотечка «Квант», вып. 75. Москва: Наука, 1989.
27. Физика и философия. Вопросы философии, 1 (1990).
28. Энциклопедический словарь юного физика (главный редактор и автор статей).
29. Статья о Сахарове. Литературная газета, 1991.

***Валеры Сліўкін***

# Астрынскія, Беліцкія, Васілішскія, Жалудоцкія, Конеўскія, Лідскія, Радунскія і Эйшышскія баяры ў 1528 г.

У 1528 г. тэрыторыя будучага Лідскага павету адміністрацыйна ўваходзіла ў склад Троцкага (Астрына, Васілішкі, Жалудок, Радунь, Эйшышкі), Віленскага (Ліда) і Беліцкага (Беліца) паветаў. 1 траўня 1528 г. быў праведзены першы перапіс войска ВКЛ. Перапіс вядомы пад назвай *"Ухвала на вялікім сойме Віленскім, у року 1528, месяца траўня 1 дня, учыненая з боку абароны земскае, колькі хто з Паноў -Рады,ураднікаў і ўсіх абывацеляў Вялікага Княства Літоўскага з маёнткаў сваіх да службы ваеннай коней ставіці маець"*.

"Конь да ваеннай службы" - гэта ўзброены вершнік на кані - павінен быў выстаўляцца ад 8 сялянскіх служб, у рэчаіснасці выстаўляўся і ад меншай колькасці. Калі ў баярына не было падданых сялян, ён нёс службу сам.

Астрынскія баяры (3 мужчыны і ўдава) выстаўлялі 12 коней, 62 - служылі самі;Беліцкія баяры (12 мужчын і ўдава) выстаўлялі 15 коней; Васілішскія баяры (71 мужчына і 17 удоў) выстаўлялі 181 каня, 12 баяраў служылі самі; Жалудоцкія баяры (14 мужчын і 1 удава) выстаўлялі 15 коней, 21 "хадзілі на варту да Троцкага замка"; Конеўскія баяры (6 мужчын і 2 удавы) выстаўлялі 8 коней, 9 - служылі самі; Лідскія баяры (41 баярын і 8 удоў) выстаўлялі 51 каня, 35 - служылі самі; Радунскія (17 мужчын і 4 удавы) выстаўлялі 25 коней, 96 баяраў і ўдава служылі самі; Эйшышскія баяры (59 мужчын і 20 удоў) павінны былі выстаўляць 101 каня, а 182 баярыны павінны былі служыць самі. 17 коней выстаўляліся з Лебяды, 8 коней ставілі князі Жыжамскія з Жыжмы, 2 кані з Оўдава (пазней Олдава). Разам Лідскі рэгіён выстаўляў 435 вершнікаў на кані і 418 пешых баяраў *(Табл.1)*.

Вялікую частку коней у ВКЛ выстаўлялі князі, Паны -Рада і іх удовы. Мелі яны сялян у розных паветах. Напрыклад, Шчасны Юр'евіч Ільініч, які валодаў у Лідскім рэгіёне Беліцай, Зблянамі і Дворышчам, а таксама яшчэ дзесяткам двароў і дварцоў у іншых паветах, выстаўляў у войска 32 кані; пан Шымка Мацкевіч, цівун віленскі, уладальнік Малога Мажэйкава і іншых маёнткаў "маець ставіці 7 коней"; князь Васіль Андрэевіч Палубенскі, дзяржаўца Жалудоцкі, Конеўскі і Дубіцкі выстаўляў ад сябе 43 кані. ¨н валодаў дваром Мажэйкава і землямі ў Цяцерынскай воласці. Велізарнымі маёнткамі, у тым ліку ў Беліцкім павеце, валодаў Юрый Мікалаевіч Радзівіл. Таму ўклад Лідскага рэгіёна ў войска ВКЛ у 435 вершнікаў - лічба заніжаная, і адносіцца да бяднейшай часткі землеўладальнікаў.

Звяртае на сябе ўвагу вельмі высокі адсотак удоў (8%), асабліва сярод Васілішскіх баяраў (17%). Мужчыны ў сярэднія вякі, калі не ваявалі, жылі звычайна даўжэй, чым жанчыны. Нашы мужчыны ваявалі. Высокі адсотак удоў сярод баярства - вынік чатырох няўдалых войнаў з Вялікім Княствам Маскоўскім у 1492-94 гг., 1500-03 гг., 1507-08 гг. і 1512 -22 гг.

У Перапісе 1528 г. улічана каля 2 тысяч зямян Бельскай зямлі і каля 6 тысяч баяраў ВКЛ. 695 з іх прыпісаныя да тэрыторыі будучага Лідскага павету. Астрынскія, Беліцкія, Васілішкаўскія, Жалудоцкія, Конеўскія, Лідскія, Радунскія і Эйшышскія мужчыны - баяры запісаныя галоўным чынам (92,5 %) у двухскладнай антрапанімічнай сістэме, у 47 выпадках у аднаскладнай: з імем - 38 раз, з імем па бацьку -1 раз, з прозвішчам - 3 разы, з мянушкай - 5 раз, адзін раз запіс зроблены ў трохскладнай сістэме - з імем, імем па бацьку і прозвішчам - "Васілей Іванавіч Губар" і адзін раз "казак князя Масальскага" *(Табл. 2)*.

У перапісе 1528 г. на 8 тысяч баяраў і зямян усяго толькі 214 трохскладных запісаў. У большасці сваёй

*Табліца 1.* **Баяры Астрынскія, Беліцкія, Васілішкаўскія, Жалудоцкія, Конеўскія, Лідскія, Радунскія і Эйшышскія.**

| **Землі** | **Баяры** | **У т. ліку мужч.** | **У т. ліку удовы** | **Коні да службы** | **Самі** |
|---|---|---|---|---|---|
| Астрынская | 66 | 65 | 1 | 12 | 62 |
| Беліцкая | 13 | 12 | 1 | 15 | - |
| Васілішская | 100 | 83 | 17 | 181 | 12 |
| Жалудоцкая | 36 | 35 | 1 | 15 | 21 |
| Конеўская | 17 | 15 | 2 | 8 | 9 |
| Лідская | 84 | 76 | 8 | 51 | 35 |
| Радунская | 118 | 113 | 5 | 25 | 97 |
| Эйшышская | 261 | 241 | 20 | 101 | 182 |
| **Разам** | **695** | **640** | **55** | **408** | **418** |

*Табліца 2.* **Спосаб запісу баяраў - мужчын.**

| **Землі** | імя | мянушка | імя па бац. | прозвішча | імя і імя па бац. | імя і мянушка | імя і прозвішча | піб |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Астрынская | 12 | | | 1 | 47 | 2 | 3 | |
| Беліцкая | 1 | | | 1 | 8 | 1 | | |
| Васілішская | 13 | 4 | 1 | | 51 | 9 | 5 | |
| Жалудоцкая | 2 | | | | 30 | 1 | 1 | 1 |
| Конеўская | 1 | | | | 12 | 1 | 1 | |
| Лідская | 4 | 1 | | 1 | 61 | 8 | 1 | |
| Радунская | 4 | | | | 103 | 5 | 1 | |
| Эйшышская | 1 | | | | 215 | 24 | 1 | |
| Разам: 639 | 38 | 5 | 1 | 3 | 527 | 51 | 13 | 1 |

*вічаў Жак (паводле метрыкі Жукоўскі) у вёсцы Цвермах"*, памёр 1 верасня 1914 года, маючы 83 гады, дзе ўзрост у метрыцы пададзены памылкова. № акту смерці 264.1.90. *"1914 года, сентября 1 дня в дер. Твермахъ скончался Іосіфъ Іосіфовіч Жакъ от старости. Не был причащён св. Тайн. Кр. Лідской волості, вдовецъ, имевший от роду 90 лет, сего прихода, оставил сына Карла, дочерей Юстыну, Юзефу, Эмилию, Стефанию. Тело его в законный срок кс. Ратынский похоронил на Лидском приходском кладбище (1914 года, верасня 1 дня у вёсцы Цвермы памёр Юзаф сын Юзафа Жак са старасці без святых сакрамантаў, селянін Лідскай гміны, удавец, меў 90 гадоў, тутэйшай парафіі, пакінуў сына Караля, дачок Юстыну, Юзэфу, Эмілію і Стэфанію. Цела яго ў час вызначаны правам кс. Ратынскі пахаваў на Лідскіх парафіяльных могілках.)"*

Названыя ў метрыцы дзеці да гэтага часу яшчэ жывыя.

2. Другі сын Юзафа Жака Вінцэнты нарадзіўся 13 красавіка 1850 года: №125.62... 13-16. *"1850 года, апреля 16 дня в Лидск. Рим. Катол. Приход. костёле окрещено дитя по имени Винценты К. І. Витковским с совершением святых обрядов, крестьянъ Іосіфа і Элжаветы с Войтовичевъ Жаковъ, зак. супр. сынъ, родившийся 1850 г. апреля 13 в Цвермахъ. Воспр. были: Томашъ Клышейко и Люция Вороновна" (1850 г., красавіка 16 дня, у Лідскім Р. Кат. Параф. касцёле ахрышчана немаўля імем Вінцэнты кс. І. Віткоўскім з захаваннем усіх абрадаў сялян Юзафа і Эльжбеты з Вайтовічаў Жакаў, шл. мужа іжонкі сын, народжаны 1830 г., красавіка 13 у Цвермах. Хрышчонымі бацькамі былі Тамаш Клышэйка і Люцыя Вараноўна* - прозвішча Воран або Варона, *рэд.*)" Вінцэнты Жак памёр 7 лютага 1921 года ў Цвермах і пакінуў жонку Ганну, якая на сёння ўжо памерла, 3 сыноў, якія на сёння жывыя: Стэфана ад 1 жонкі Антаніны, якая памерла 18 траўня 1875 г. (23 гады), Юзафа 46 гадоў, Яна 34 гадоў і дачок Анастассю і Мар'яну.

Сам Юзаф Жак памёр каля 1846 года і пахаваны на вясковых могілках у Цвермах (Панках). Акту смерці няма.

Пераказ асоб абапіраецца на метрычныя дакументы.

**Сям'я Валяля (Жака) у Цвермах**

Стэфан Валяль (+20.V.1787 г) – жонка Мар'яна (+2.VШ.1788 г.)

I

Дачка Мар'яна – муж Ежы Жак – 2 жонка Крыстына

I

Сын Ежага Жака Юзаф Жак (нар. 14.III.1805+1866 г.) – жонка Эльжбета з Бярцэвічаў

| | |
|---|---|
| Юзаф Жак (нар. 14.X.1832+1914 г.) | Вінцэнты Жак (нар. 13.IV.1850 г.+7.11.1921.) |
| I | I |
| Кароль, Юстына, Юзэфа, Эмілія, Стэфанія, | Стэфан, Юзаф, Ян (1888), Анастасся, Мар'яна |
| Баляслаў, 1893 | |

**Паданне сям'і Жакаў пра крыж**

Перад шлюбам дачкі Мар'яны, а гэта значыць яшчэ перад 1775 годам. Стэфан Валяль пасля буры, якая паваліла прыдарожны крыж з распяццем, з-за пашаны забраў фігурку Пана Езуса, загарнуў у палатно і палажыў у свіран на захаванне. Але раптам ён, Стэфан Валяль і яго жонка Мар'яна аслеплі, дачка, таксама Мар'яна, не аслепла. Адной ночы ў сне з'яўляецца яму Хрыстус Пан і кажа: "Чаму мяне заключыў! Аднясі мяне на ранейшае месца!" Пасля прабуджэння Стэфан Валяль прасіў суседзяў, каб зрабілі крыж, што суседзі тут жа выканалі. Пасля ўмацавання фігуркі Пана Езуса на новым крыжы, той крыж паставілі пры дарозе пад лесам, на даўнейшым месцы. Па заканчэнні той справы Стэфан Валяль і яго жонка Мар'яна раптам зноў пачалі бачыць. На памяць пра цудоўнае выздараўленне Валялі, пакуль жылі, штогод ладзілі пачастунак для ўсёй вёскі. Куплялі цяля, прывозілі або варылі піва і частавалі сваіх суседзяў. Ад тога часу крыж пачаў лічыцца цудадзейным, а людзі чынілі ўдовыя ахвяры, узносілі малітвы і цешыліся з атрыманых ласкаў. Складзеныя ахвяры ў грашах жыхары вёскі, пад наглядам сям'і Жакаў, адносілі альбо да касцёла, альбо раздавалі жабракам.

Ксяндзы – пробашчы Фарнай парафіі пра тое, што рабілася пад крыжам у Цвермах, наогул нічога не ведалі і не звярталі ўвагі. Верны люд аднак звяртаўся да крыжа і чыніў ахвяры ў выглядзе фартушкоў з палатна. Увесь крыж ад паўфігуры Пана Езуса аж да зямлі абвешалі даматканым палатном ў выглядзе фартушкоў з нашытым крыжам або аздабёных не раз вельмі трафнымі надпісамі, або вышыванымі аздобамі. Фартушкоў ніхто не забіраў, і гэта ўсё вісела і буцвела дзясяткі гадоў.

Ксёндз Юзаф Бародзіч, лідскі вікары, у 1898 годзе падчас візіту ў Цвермы сказаў усе фартушкі зняць з крыжа і ў яго прысутнасці спаліць, гаворачы, што гэта забабоны, а фартушкоў нельга вешаць, бо Пан Езус не быў рамеснікам, і фартушкі яму не патрэбныя. Крыж быў ачышчаны, так наказаў кс. Бародзіч і вельмі неабачліва, бо маглі быць сярод таго рыззя нейкія векавыя забыткі, годныя ўвагі, якія маглі нешта пра гісторыю тога крыжа распавесці, якой было ўжо паўтары стагоддзі. Шкода, якую нельга кампенсаваць, асабліва, калі прыпомніць, што ўсё тое было ў час няволі і рабілася пад ярмом маскалёў.

Забарона ксендза-вікарыя не падзейнічала, люд, які адведваў крыж у Цвермах фартушкі вешаў, так што ў 1932 годзе ўвесь крыж быў абвешаны на 20 сантыметраў таўшчыні. Я, ксёндз - пробашч і дэкан лідскі, ксёндз Гіпаліт Баярунец усе фартушкі асабіста пераглядаў, лепшыя, аздабнейшыя і годныя ўвагі пакінуў на памяць, і зараз на іх можна пaглядзець у капліцы. Здатныя да ўжытку але малавартыя, ахвяраваў для дзяцей сірот у сіроцкім прытулку "Сэрца Марыі" ў Лідзе. А збуцвелыя спаліў.

Да крыжа прыходзілі не толькі каталікі, але і праваслаўныя і завязвалі фартушкі, аздобленыя крыжам гэтага вызнання з ніжняй касой папярэчынай.

Мясцовыя людзі навакольных вёсак мала хадзілі да крыжа, але з дальных ваколіц вернікі адведвалі крыж



*Крыж і фігурка. Здымкі зроблены 6 чэрвеня 1935 года.*

досыць часта. Паколькі крыж знаходзіцца пры вялікай дарозе з Ліды на Ліпнішкі, пастаянна можна было бачыць людзей, якія маліліся пад крыжам у любы час дня. Такі стан рэчаў існаваў да 1932 года.

### Гісторыя пабудовы капліцы ў Цвермах

Вясной 1930 г. Ігнацы Багач, жыхар парафіі Ішчолна адведаў крыж у Цвермах, які ён убачыў пад час Сусветнай вайны, і ад тога часу з нейкай ўнутранай цягі пастаянна яму карцела, каб нейкую ахвяру ўчыніць для таго крыжа. ¨н за свой кошт пакрыў крыж ацынкованай бляхай, збоку абставіў дошкамі на падабенства каплічкі, а пад крыжам уладкаваў стол у выглядзе алтарыка. Ад тога часу людзі пачалі больш збірацца пад крыжам і нядзелямі замест таго, каб пайсці да касцёла на імшу, праводзілі час у малітвах пад крыжам. Пра гэта дайшла вестка да Ліды. Ксёндз-вікары Фарнага касцёла кс. Станіслаў Мажэйка і кс. Францішак Брудняс пры аглядзе хворых у вёсцы амаль што адначасова адведалі крыж і заўважылі, што люд атачае крыж у найшматалікім набажэнстве.

Хаця я быў у Лідзе пробашчам Фарнай парафіі ад 1919 г., але тога крыжа не бачыў, толькі што-нішто пра яго чуў, як пра крыж нейкага “Ванэля” (перакручанае прозвішча Стэфана Валяля), і што тыя, хто моліцца пад гэтым крыжам, божыя ласкі атрымоўваюць. Я вырашыў тады аглядзець крыж і на свае вочы пераканацца пра знаходжанне людзей пад крыжам. Паведаміў, што дня 13 лістапада 1932 года з’езджу на месца. Калі прыбыў каля паўдня да вёскі Цвермы і разам з жыхарамі вёскі пайшоў да крыжа, які знаходзіцца за 1/2 кіламетра. Да вялікага майго здзіўлення ўбачыў, што там сабралася людзей з бліжніх і далейшых ваколіц да тысячы. Павітаўся з людзьмі, хвалячы Пана Езуса: “Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус”, сказаў некалькі слоў да сабраных, адгаварыў з імі літанне да Сэрца Езуса, потым на заканчэнні адспявалі зварот пра мукі Божыя, “Які цярпеў за нас грэшных”, вярнуўся ў вёску Цвермы, тут распытаўся пра гісторыю таго крыжа і, забраўшы складзеных ахвяр у грашах 93 зл. 36 гр., вярнуўся ў Ліду. Гэта было 13 кастрычніка 1932 г.

Дня 20.X.1932 г. у віленскай газеце “Слова” № 263 было змешчана паведамленне пад загалоўкам:

### Уяўнае аб’яўленне ў вёсцы Цвермы пад Лідай. Другія “Яшуны” – Пагалоскі пра цуд і выздараўленні пры крыжы. Тысячныя натоўпы.

Ліда. – Ужо сем дзён ў аддаленай ад Ліды вёсцы Цвермы дзеюцца дзіўныя рэчы. Збіраюцца там усё большыя натоўпы. З вуснаў у вусны расходзіцца вестка, што каля прыдарожнага крыжа аб’явілася постаць Хрыстуса і быццам бы робіць розныя цуды. Пагалоска з хуткасцю маланкі абляцела ўсю гміну і без малога павет, і няма нічога дзіўнага, што праз некалькі дзён з блізкіх і далёкіх ваколіц пачалі прыбываць групы вернікаў. У нядзелю натоўпы з’язджаюцца нават з вельмі далёкіх ваколіц, пеша і фурманкамі. Дасягаюць некалькіх тысяч чалавек – напэўна, як гэта мела месца ў свой час у Яшунах.

Паводле неправераных дагэтуль звестак, прысутныя сцвярджаюць, што бачылі аб’яўленне Хрыстуса тут каля крыжа. Тамтэйшыя жыхары распавядаюць гісторыю крыжа: “Падчас апошняй бальшавіцкай вайны, аддзел бальшавіцкай кавалерыі,

які ехаў дарогай, затрымаўся каля крыжа. Адзін з бальшавікоў дастаў шаблю і сеκануў па выяве Хрыстуса. Пасля гэтага святатацтва аддзел ад'ехаў."

У мінулую нядзелю дня 16-га гэтага месяца колькасць сабраных ў Цвермах дасягнула кульмінацыйнага пункту. Прыбыў таксама ксёндз-пробашч, лідскі дэкан Баярунец, які адправіў перад крыжам публічную малітву. Некалькітысячны натоўп перадаваў унутры сябе і надалей весткі пра цуды. Быццам бы некалькім чалавекам невылечна хворым вярнулася здароўе. У апошні момант мы атрымалі вестку, што адбыўся быцца бы канкрэтны выпадак цуду: менавіта, спаралізаванае дзіця, ад якога адракліся лекары, як ад таго, хто ўжо не паддаецца лячэнню, выздаравела. Кс. Баярунец, які з той аказіі выступаў перад натоўпам, склаў аднаведны пратакол у прысутнасці сведкаў. З той нагоды мы звярнуліся да Віленскай Метрапольнай курыі і запыталіся, ці маюць яны хоць якую інфармацыю пра выпадкі ў вёсцы Цвермы. Даведаліся, што ані Метрапольныя курыя, ані Я.Э. Арцыбіскуп Ялбжыкоўскі да гэтага часу ніякіх канкрэтных данясенняў з той тэрыторыі не атрымоўвалі. Запытаны намі лідскі стараста ахвотна паінфармаваў, што натоўпы збіраюцца ў Цвермах праз доўгі час, і гэты выпадак мае характар амаль аналагічны з вядомым нам выпадкам у Яшунах. Людзі з'язджаюцца з вельмі далёкіх ваколіц, каб паглядзець на месца цуду. Сабраныя паводзяць сябе вельмі спакойна. Не было выпадку парушэння спакою, не занатавана таксама ніякіх інцыдэнтаў. Паліцыя, пры гэтым не чыніць ніякіх перашкод у збіранні шматлікіх групаў.

Нататка "Слова" без майго ведама і няўдала надрукаваная, парушыла спакой люду, касцельных і дзяржаўных уладаў. Пачалі інтэрпрэтаваць справу так быццам Арцыбіскуп Віленскага Метрапалітэту ксёндз Рамуальд Ялбжыкоўскі, як і карэспандэнт "Слова" наўмысна прыязджалі з Вільні. Мусіў справу паправіць і ў №264 ад дня 21.Х.1932 г. віленскае "Слова" змясціла мае ўдакладненні.

**Як гэта было ў вёсцы Цвермы пад Лідай**
**Легенда і паданні, як сродак інфармацыі пра ўяўнае аб'яўленне**

*У сувязі з весткамі, якія ўчора дайшлі да Вільні аб уяўным аб'яўленні пад вёскай Цвермы Лідскага павету, наш карэспандэнт выехаў на месца і спраўдзіў, што звесткі тыя не адпавядаюць рэчаіснасці, а ўзніклі на падставе тых легендаў і паданняў, якія чытач знойдзе ў ніжэй пададзеным паведамленні.*

*Адначасова нас прасіў ксёндз дэкан Баярунец адзначыць, што ён не падпісваў ніякага пратаколу датычнага быццам бы цудоўнага выздараўлення.*

Рэд.

На адлегласці дзесяці кіламетраў ад Ліды знаходзіцца вёска Цвермы: трынаццаць ці пятнаццаць гаспадарак. Звычайная тутэйшая вёска. Да яе можна дабрацца пасля паўтарагадзіннага падарожжа па жахлівай, разбітай, ліпка-чорнай дарозе. А праз кіламетр за вёскай расходзяцца дзве дарогі. На ростанях вырасла гіганцкая, адвечная сасна, астатняя ад густога лесу, які тут некалі шумеў. На сасну абапёрты крыж. Прывязаны ён тоўстым дротам, каб вецер яго не паваліў. А да крыжа прывязана дротам фігурка Хрыстуса, выразаная з дрэва. Колькі гадоў стаіць крыж на ростанях – не вядома. Колькі год вісіць распяты Хрыстус – не вядома. Напэўна здаўна.

* * *

У васямнаццатым стагоддзі на той пустой раўніне, пад самотнай сасной ужо стаяў крыж. Але не той што стаіць цяпер. Хрыстус затое быў той самы. Толькі іначай выглядаў

Напэўна абедзве яго драўляныя рукі былі прыбіты да дрэва. На сёння тырчаць толькі кульцябкі, адрэзаныя ці адламаныя да плеч. Сёння вісіць дротам прымацаваны Хрыстус без рук. Твару яго немагчыма ўжо разглядзець. Час пакалоў яго і зацёр. А ад шыі Хрыстуса на сцягно пралёг глыбокі шрам. Ці сапраўды савецкі салдат у 1920 годзе пакалечыў Хрыстуса вытненнем шаблі. Ад ног Хрыстуса ўвесь крыж аж да яго падножжа атулены, спавіты ў зрэбныя фартухі, у дзіўныя фартушкі. На кожным з іх вышыты альбо нашыты няўмелы каляровы крыжык. На многіх з іх нейкія надпісы, прадыктаваныя ўдзячнымі людскімі сэрцамі. Фартушкоў шмат, што крыж ад іх патаўсцеў: абняць яго цяжка. Фартушкі буцвеюць, ператвараюцца ў маналітную шкарлупу, якой абрастае крыж, але на версе з'яўляюцца ўсё свежыя і свежыя, і чыстыя. Трыццаць гадоў таму назад тагачасны лідскі пробашч арганізаваў іх поўнае спаленне: такой тоўстай скарынкай быў пакрыты крыж.

* * *

Да сасны нельга дакранацца. На яе нельга залазіць. Здаралася некалі, што каторы з вясковых хлопцаў спрабаваў ўзабрацца на яе. Заўсёды падаў, заўсёды калечыўся. Таму ніхто да яе цяпер не датыкаецца. Сасна святая. Яна тая, хто крыж узяў пад апеку.

* * *

Пра крыж кружаць па Цвермах такія паданні, як і па наваколлях. У 1787 годзе (год той можна спраўдзіць на метрыках Лідскага касцёла) памёр у Цвермах стары мужык па імені Стэфан Валяль. Няма ўжо мужыкоў з тым прозвішчам у ваколіцы. За некалькі гадоў да яго смерці бура зваліла крыж. Валяль падняў з зямлі фігурку Хрыстуса, прынёс дахаты і недзе ў свірне яго паклаў. Зрабіў гэта і аслеп. І старая жонка яго таксама аслепла. І не

ведалі з-за чаго. Але адной ночы Валяль прысніў сон. Хрыстус, пакладзены ў свіран, прамовіў да яго:

- Пастаў крыж нанава, прыбі мяне да яго, і вернеш зрок ты і жонка твая.

У той жа дзень Валяль паставіў святы крыж, і Хрыстус зняў з яго слепату. Ад тога часу што год, у дзень цуду Валяль да смерці сваёй спраўляў для вёскі памінальны пачастунак: рэзаў цяля, купляў піва, запрашаў усіх. І Цвермы па сённяшні дзень апавядаюць пра тое.

* * *

Так пачалася цудоўная слава крыжа на дарожнай ростані. Ад тога дня палатняныя фартушкі пачалі яго славіць. І людзі моляцца пад ім. Католік ці праваслаўны – усё адно: кожны шануе той крыж. З далёкіх краёў прыходзяць да яго. А пра тую багатую пані, якая перад самай вайной прыехала сюды парадным фаэтонам аж з Вільні і ў срэбных рублях паклала вялікую ахвяру – яшчэ і сёння кожны ў Цвермах распавядае.

* * *

У Лідзе жыве адзін стары чалавек. Атрымаў ён ад Цвермскага Хрыстуса вялікую ласку – з падзякі за яе агарадзіў гэты чалавек некалькі тыдняў таму назад крыж, накрыў струхлелыя яго плечы новым драўляным дашкам.

І таму набожныя людзі, бачачы свежы довад ласкі, які драўляны Хрыстус спаслаў, яшчэ большымі натоўпамі адведваюць той крыж, яшчэ з большай жарсцю ў малітвах ля падножжа яго кленчаць і што раз гусцей вешаюць на яго простыя палатняныя фартушкі.

Пададзенае вышэй наведамленне ўкладаў карэспандэнт “Слова”, які сам у Цвермах не быў, і таму памясціў уласныя погляды, некаторыя вельмі няўдачна і неадпаведна з маім апісаннем крыжа ў Цвермах. Праз пару тыдняў я паехаў у Вільню і наведаўся да Яго Эксцэленцыі ксендза Арцыбіскупа Метрапольнага Рамуальда Ялбжыкоўскага, як ардынанта, распавёў гісторыю крыжа і папрасіў дазволу на пабудову там сталай капліцы, каб можна было ад часу да часу выязджаць у Цвермы са святой імшой, і каб люд, які там моліцца не забываў абавязку слухання святой ахвяры Пана Езуса ў касцёлах. Тым разам Яго Эксцэленцыя, відавочна пад уражаннем нататкі ў “Слове” і выпадку ў Яшунах не дазваляў, аж пакуль мы не прадставілі, што там люд збіраецца нядзелямі заміж таго, каб ісці да касцёла, што адлегласць ад касцёла перавышае 12 км, што малітва адбываецца пад крыжам, што там няма нічога кепскага, а вельмі выразных цудаў там не пацверджана, і ніякай шкоды і ўніжэння для нашай каталіцкай веры там няма, яго Эксцэленцыя дабраславіў мяне і дазволіў збудаваць там капліцу, сталую і публічную.

Атрымаўшы дазвол ардынанта Віленскай архідыяцэзіі я сфармаваў часовы камітэт пабудовы капліцы ў Цвермах на месцы, дзе стаіць крыж пад сасной, з парафіян прылеглых вёсак Цвермаў, Сангайлаў, Пашак, Кадаўбаў, атрымаў дазвол з курыі па высечку будаўнічага лесу з могілак Цвермаў і Пашак і прасіў п. старасту Генрыка Багаткоўскага аб супрацоўніцтве пры пабудове капліцы.

Дазвол на высечку будаўнічага лесу на могілках атрымаў з Віленскай метаралітарнай курыі 11-I-1933 г. за № 10481.

*“Да Прэвялебнага дэкана ў Лідзе. У сувязі з лістом ад ... XII.1933 г. № 1719 курыя дазваляе высечку 65 дрэваў па могілках у Цвермах і 60 штук дрэў на могілках у Пашках, патрэбных на пабудову публічнай капліцы ў вёсцы Цвермах... належыць глядзець, каб магілы памерлых, крыжы і помнікі не былі пашкоджаны. Пасля высечкі і пасля скарыстання дрэва на мэту, вышэй згаданую, належыць паведаміць у Курыю Кс. Ю. Астрэйка в/а канцлера Курыі”.*

План пабудовы драўнянай капліцы 8,70х12м. выканаў інж. пан Вацлаў Галік, вельмі свойскі і адзыўчывы. План быў зацверджаны Віленскай Курыяй Метрапалітальнай дня 16 траўня 1933 г. за №12743 *“Ніжэй пададзены праект капліцы ў Цвермах Віленская Курыя Метрапалітальная акцэптуе. Кс. Ю Астрэйка, Натарыюс Метрапалітальнай курыі.”* План быў зацверджаны Ваяводскім урадам у Наваградку дня 22 траўня 1933 г. за № К.В.І-2/1/7.

У імя Пана Бога Ўсемагутнага ў Тройцы Святой Адзінага прыступілі да пабудовы капліцы.

Належыць зазначыць, што, мабыць, Пан Езус хацеў, каб той крыж і тое месца ў Цвермах было пасвенчана на хвалу Бога, бо нідзе мы не сустрэлі ні падману, ні найменшай перашкоды. Да каго ні звярталіся, ці то да арцыпастара Курыі і ксяндзоў, ці то да дзяржаўных уладаў і люду, заўсёды ішло, як мы хацелі, ні адной цяжкасці, ні аднаго супраціву, ані адмовы. Відна ў тым воля Божая.

Пасля нарады з камітэтам будаўніцтва я паехаў да яго Эксцэленцыі Арцыбіскупа і атрымаў дазвол на пабудову часовай каплічкі 2х3 м з аполкаў і асвячэнне яе дня 8.V.1933 г. за №12617 і адпраўлення там жа святой імшы: *“Да правялебнага ксендза-пробашча ў Лідзе. У сувязі з лістом № 651 з дня 5 б.м. у сілу кан.1162 дазваляем збудаваць публічную капліцу ў Цвермах. Адначасова ў адпаведнасці з кан. 1156 упаўнаважваем правялебнага ксендза-каноніка для пасвячэння часовай капліцы ў Цвермах і дазваляем у адпаведнасці з кан. 1191 п.2 servatis legis liturgis адпраўляць там набажэнства. L.S. - Р. Ялбжыкоўскі, арцыбіскуп Метрапалітальны. Кс. Ю. Астрэйка в.а. канцлера Курыі”.*

Народ у тых вёсках бедны, але ахвотна прыняў вестку пра будаўніцтва капліцы і ахвотна пачаў рыхтавацца да будаўніцтва. Дрэва было выразана, звезена і апілавана. Наступіла вясна 1933 года. У касу будаўніцтва пачалі паступаць паволі, але стабільна невялікія ўнёскі ў грашах. На дзень 20.V.1933 г. у касе знаходзілася 273 зл. 87 гр.

Карыстаючыся з часу і дазволу Ардынанта, я прызначыў дзень 21 траўня для пасвячэння часовай каплічкі і адпраўлення там першай імшы святой пад крыжам за здароўе Яго Эксцэленцыі ксендза арцыбіскупа Метрапалітальнага Рамуальда Ялбжыкоўскага, які на той час быў моцна і сур'ёзна хворы.

Дня 21 траўня 1933 г. у нядзелю, не гледзячы на нечаканае захворванне свайго ксендза-вікарыя, экспробашча ксендза Станіслава Мажэйкі, які меў весці працэсію, а ў апошнюю мінуту адмовіўся і не пайшоў, маючы сур'ёзную хваробу, сардэчную недастатковасць, узрост 60 гадоў і апухлыя ногі, пры дапамозе Божай ласкі і з імем Божым я павёў у 7 раніцы з Ліды ўрачыстую працэсію з касцельнымі рэгаліямі, якая складалася з некалькіх тысяч вернікаў усякага стану і ўзросту. Дзень быў цёплы і пагодны. Пан Бог дабраслаўляў. Пад крыжам у Цвермах сабраліся людзі з бліжніх і нават вельмі далёкіх ваколіц, каталікі і праваслаўныя, да 10 тысяч. Я зрабіў асвячэнне часовай каплічкі, адправіў першую святую імшу, а народ з удзячнасці да Бога склаў ахвяру ад сэрца на будаўніцтва капліцы ў суме 562 зл. 20 грошаў. Настрой быў дзякуй Богу, уздыму духу і сэрца надзвычайны, і гэта мне дадавала духу, што будаўніцтва капліцы будзе лёгкай справай. Будаўніцтва капліцы мела каштаваць каля тысячы злотых, а народ бедны, гаспадарчы крызіс пасляваенны, адзіныя сродкі на будаўніцтва - дабраахвотныя ахвяраванні верных.



***Так выглядала першая часовая капліčка 6 чэрвеня 1933 года, праз 16 дзён пасля высвячэння.***
*Фатаграфавала панна доктарка Марыя Вісмант.*

### *Будаўніцтва пастаяннай драўлянай капліцы ў Цвермах*

Вясной 1933 г. пачалося будаўніцтва пастаяннай капліцы. Фундамент у зямлю заглыбілі на 1S метра, над паверхняй зямлі фундамент з чэсанага каменю – мазаікай, вышынёй 60 сантыметраў.

Асвячэнне фундамента пад пастаянную капліцу адбылося дня 24 верасня 1933 г. пры некалькітысячным зборы вясковага люду. Вуглавы камень на рагу за алтаром (закрыстыей) з боку эпістолы пасвяціў я, кс. Гіпаліт Баярунец, там жа быў складзены дакумент, напісаны на пергаменце наступнага зместу:

*"In Nomine Patrej + et Filii + et Spiritus Sancti. Amen. Адбылося дня 24 верасня года Божага 1933, угодкаў Міласцівага Усеагульнага Вялікага юбілею з нагоды 19 стагоддзя ад здзейсненага адкуплення роду людскога, калі ў сталіцы Пятровай засядаў Пій XI, прэзідэнтам Рэчы Паспалітай Польскай быў д-р Ігнацы Масціцкі, а мітрапалітам Віленскім быў ксёндз – арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі. У прысутнасці дзяржаўных уладаў і шматтысячнага натоўпу вернікаў з ваколіцы, мясцовы пробашч і дэкан Лідскі ксёндз-канонік Гіпаліт Баярунец здзейсніў асвячэнне фундаментаў і вуглавога каменя капліцы пад назвай Крыжа Панскага, якая будуецца стараннямі ксендза-пробашча і жыхароў вёскі Цвермаў, Пашак і Сангайлаў і ахвярнасцю панства Захватовічаў з Бердаўкі і люду, які моліцца пад цудатворным крыжам. Дзеля вечнай памяці той урачыстай хвілі сённяшні акт напісаны і пры гэтым подпісы пад ім паставілі."* Ідуць подпісы.

Пасвячэнне фундамента – гэта была хвіля ўрачыстая і вельмі хваляўнічая, вернікі адчувалі гэта сэрцам, і мы мелі цвёрдую надзею, што капліца паўстане. У касу ў той дзень паступіла 110 зл. 29 грошаў.

Разам з тым выдаткі на пабудову капліцы, капанне студні, запасы вапны і чэсанага каменю былі досыць значныя, каса вычарпалася, будаўнічага матэрыялу не хапала, а была ўжо восень. Таму я мусіў будаўніцтва капліцы адкласці на наступны 1934 год.

Як жа Пан Бог ласкай сваёй уплывае на сэрцы людскія! Знайшліся ахвярадаўцы. Пан Леан Вісмант уклаў 100 зл. Пан Аляксандр Вярсоцкі з жонкай ахвяравалі 150 зл. Пан Андрэй Радзевіч прысвяціў 150 зл. З рознай дапамогай прыходзілі Мечыслаў і Ян Захватовічы - дзедзічы маёнтка Бердаўкі і ахвяравалі патрэбны яшчэ матэрыял на сцены і дах бясплатна са сваіх лясоў. Няхай Пан Бог узнагародзіць высакародных ахвярадаўцаў і дзедзічаў. На весну 1934 г. распачалі будаўніцтва сцен і даху, гэта было зроблена з вялікімі высілкамі і ростам запазычанасці да дзвюх тысяч злотых, работа ішла цэлае лета, бо трэба было дадаць будаўнічага матэрыялу, нарыхтаваць гонты, а частку гонты купіць і прывезці аж з-пад Веранова. Позняй восенню 1934 года капліца была пакрыта гонтай. Былі ўстаўлены дзверы і вокны. Унутранае аздабленне і асвячэнне мусілі адкласці да наступнага 1935 года.

На весну 1935 года былі закончаны яшчэ некаторыя вонкавыя работы, як афарбоўка даху карболкай,



***Капліца ў Цвермах перад завяршэннем будаўніцтва. На ганку ксёндз Гіпаліт Баярунец.***



***Інтэр'ер капліцы ў Цвермах***

забіцце швоў паміж бярвеннямі ў сценах пакуллем, замочаным у цыменце, уборка рыштавання і пляцу пры капліцы, а ўнутры афарбоўка сцен чыстым пакостам, укладка бетоннай падлогі, установка алтара, упарадкаванне закрыстыі і хораў.

Маючы сцены і дах над галавой я звярнуўся да Яго Эксцэленцыі ксендза-арцыбіскупа і атрымаў дазвол на асвячэнне капліцы наступнага зместу: *"Вільня, дня 9.V.1935 г. №448. Да правялебнага ксендза-дэкана ў Лідзе. У сувязі з лістом з дня 8 г.м. №1084 Курыя паведамляе, што Віленскі ардынант упаўнаважыў правялебнага ксендза-дэкана з правам субдэлегавання на асвячэнне капліцы ў Цвермах. Кс. Ю.Астрэйка, в.а. канцлера Курыі."*

Для ўрачыстага асвячэння капліцы ў Цвермах быў вызначаны дзень 10 чэрвеня 1935 г., гэта быў другі дзень Сёмухі (Зялёных святаў). На казанне я запрасіў ксендза-каноніка Леана Жаброўскага з Вільні, а на ўрачыстую цырымонію (цэлебрацыю) ксендза-каноніка Караля Любянца, інспектара Духоўнай семінарыі ў Вільні, які таксама павінен быў асвячаць капліцу. Запрасіў усіх суседніх ксяндзоў-пробашчаў, прадстаўнікоў дзяржаўных уладаў і найвыбітнейшых дзеячоў грамадскасці, а таксама ахвярадаўцаў.

Дні 8 і 9 чэрвеня былі дажджлівыя, але дзень 10 чэрвеня выдаўся пагодным і лагодна-цёплым. Відаць, Пан Езус хацеў, каб найбольшая колькасць людзей сабралася пад крыжам у Цвермах.

А 7-й гадзіне раніцы з Ліды вырушыла некалькітысячная пілігрымка да Цвермаў пад кіраўніцтвам ксендза Цэзара Трацяка, вікарыя касцёла Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі на Слабодцы ў Лідзе. Для дастаўкі ксяндзоў і вернікаў былі пушчаны некалькі аўтобусаў на лінію Ліда-Цвермы.

У Цвермах сабралася люду колькасць незлічоная, 15 тысяч. А 11-ай гадзіне раніцы ксёндз-канонік Кароль Любянец з права субдэлегацыі ў асістэнцыі ксендза-прэфекта Дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе ксендза Вітольда Нелюбовіча-Пукальскага, як дзякана, і ксендза Цэзара Трацяка, як субдзякана, урачыста асвяціў капліцу ў Цвермах пад назвай Святога Крыжа Панскага паводле рытуалу Рымска-каталіцкага касцёла, і наступная Ўрачыстая цырымонія была сумесна адпраўлена пры спевах фарнага хору пад кіраўніцтвам арганіста-маэстра пана Ксаверыя Ліхвяровіча. У некалькіх месцах падчас імшы святой падыгрываў на скрыпцы вядомы ў Лідзе музыка пан маёр Войска Польскага Аляксандр Рыпар.

Набажэнства было ўрачыстае. Бо так прыстала для славы Пана Езуса, які, мабыць, чакаў пад сасной стагоддзі, каб ва ўжо адроджанай Польшчы слава яго разносілася з-пад крыжа ў Цвермах, але ўжо ў капліцы.

Узнёсла і поўна намашчэннем Духу Божага аб веры і шанаванні Пана Заступніка адчытаў па Евангеллі слынны прапаведнік Вільні ксёндз-пралат Яго Святаблівасць, канонік капітулы Віленскай базылікі ксёндз Леан Жаброўскі. Прыбылыя ксяндзы-пробашчы з урачыстымі працэсіямі: з Жырмунаў ксёндз Ігнацы Браніцкі і з Тракеляў ксёндз Міхал Шалкевіч учынілі збор дабраахвотных ахвяраванняў і сабралі на пакрыцце коштаў будаўніцтва 328 зл. 50 гр.

Пляц перад капліцай з брамамі быў аздоблены ахвярнасцю пана дзедзіча Захватовіча і працаю пачцівых людзей з вёсак Цвермаў, Пашкаў, Сангайлаў і Кадаўбаў.

Усім ахвярадаўцам і ўдзельнікам гэтай урачыстай хвілі, прэвялебным ксяндзам і вернаму люду, як мясцовы пробашч, я ў тым акце складаю найсардэчнейшую падзяку: "Бог Вялікі заплаціць!"

Урачыстасць асвячэння ўшанаваў сваёй прысутнасцю прадстаўнік дзяржавы пан лідскі староста д-р. Я. Чушкевіч з жонкай і пан Мечыслаў Захватовіч з сям'ёй.

Пасля заканчэння набажэнства панства Захватовічы запрасілі прыбылых ксяндзоў ды гасцей са старапольскай гасціннасцю ў свой дом у Кадаўбах.

А 16-й гадзіне ксёндз-канонік Леан Жаброўскі ў асістэнцыі ксяндзоў адправіў у капліцы ўрачыстую вячэрню.

Падчас урачыстасці ў той дзень верны люд маліўся ў вялікай колькасці, надвор'е пасавала ідэальна. Пілігрымкі пайшлі да сваіх касцёлаў, і кожны пайшоў да сваёй сялібы, перапоўнены пачуццём удзячнасці да Творцы і Пана Езуса, прымацаванага да крыжа ў Цвермах.

Тады паўстала ў Цвермах у славу Бога пастаянная капліца, а ў ёй у вялікім алтары заняў свой зямны трон амшалы крыж з фігуркай Пана Езуса, якая пратрывала каля двух стагоддзяў пад сасной, што была апякункай крыжа.



***Аркуш акта высвячэння капліцы ў Цвермах з подпісамі***

Праект капліцы свойскі, рэгіянальны. Усе вельмі ўдзячныя пану Галіку, які той слаўны праект капліцы выканаў. Будаўніцтвам капліцы кіраваў п. Ян Пацук па прафесіі цесля. Належыць успомніць... Ліхміновіч дня ... капліцы які ... унутраны і знешні ... падаём: два кандэлябры бронзавыя на 3 свечкі ножны пры алтары. Урачыстае набажэнства адправіў я сам (кс. Г.Б.) у прысутнасці некалькіх тысяч люднасці і ахвярадаўцаў: п. Станіслава Захватовіча і сям'і п. Мечыслава Захватовіча. Надвор'е было выдатнае. Ахвяраванняў па пакрыццё запазычанняў капліцы сабралі ў той дзень 190 зл. 20 гр.

Дня 1 кастрычніка 1936 г. Саюз полек для дапамогі бедным касцёлам на Ўсходніх Крэсах ахвяраваў капліцы ў Цвермах новы арнат фіялетавы з узорамі, адну новую епітрахіль фіялетавую, новую альбу і новую комжу. Саюз знаходзіцца ў Познані.

Дня 31 сакавіка 1937 года пан Станіслаў Захватовіч ахвяраваў капліцы ў Цвермах шэсць вялікіх пасрабраных ліхтароў на вялікі алтар.

Дня 7 красавіка 1937 г. ксяндом Г. Баярунцам і п. Казімірам Маліноўскім з Вільні (вул. Св. Яна пры касцёле) быў куплены пасрабраны вялікі крыж і на вечна аддадзены як ахвяра п. М. Гаўкс коштам 80 зл.

**Прывілеі для капліцы ў Цвермах**

***Копія дакумента***

*"Віленская Метрапалітальная Курыя. Вільня 30 траўня 1938 г. Прывялебнаму ксендзу – каноніку Гіпаліту Баярунцу ў Лідзе ў сувязі з лістом ад дня 29 б.м. №1138 Курыя паведамляе, што Віленскі ардынант дазволіў на размяшчэнне стацый Крыжовай дарогі ў філіяльным касцёле ў Цвермах.*

*Віленскі ардынант дазволіў урачыстае выстаўленне найсвяцейшага сакраманту для ўдзялення дабраславенства падчас набажэнства ў Цвермах (Кс. Ю. Панялеўскі, в.а. канцлера Курыі. № акту Р-742/1938.*

*Узгоднена Ліда. 1938 года,*
*7 чэрвеня, №1209.*
*Кс. Г. Баярунец,*
*пробашч Фарнай*
*парафіі ў Лідзе.*




***Пячатка Фарнай парафіі ў Лідзе.***

In Nomine Patris et Filii et Spiritus Sancti. Amen.
In perpetuam rei memoriam.
Vigore facultatis mihi a Sacra Paenitentiaria Apostolica Officio de Indulgentiis die 5 octobris A. D. 1933 sub N v. c. 5384 commissae, nec non de licentia Ordinarii Loci Illustrissimi ac Reverendissimi Archiepiscopi Metropolitae Vilnensis Romualdi Jałbrzykowski de die 30 m. Maii A. D. 1938 ad preces parochi huius ecclesiae Lidensis data, ego sacerdos Hippolytus Bojaruniec S. Th. Magister, Canonicus Honorarius Capituli Metropolitani Vilnensis, decanus lidensis S. Viae Crucis Stationes cum adnexis Indulgentiis erexi in ecclesia filiali (Ćwiermy) sub titulo Stae Crucis decanatus Lidensis Archidioeceseos Vilnensis iuxta regulas a S. Indulgentiarum Congregatione die 10 mensis maii 1742 an. praescriptas.
In quorum fidem testimonium hoc manu meo exaravi et subscripsi.
Die 6 m. Junii A. D. 1938. N 1211.



decanus lidensis
Hippolytus Bojaruniec S.Th.M.

***Прывілей на размяшчэнне стацый Крыжовай дарогі ў капліцы ў Цвермах***

***Копія дакумента***

"In Nomine Patris et Filii et Spiritus Sancti. Amen.
In perpetuam rei memoriam.

Vigore facultatis mihi a Sacra Paenitentiaria Apostolica Officio de Indulgentiis die 5 octobris A.D. 1933 sub N.v.c. 5384 commissae, nec non de licentia Ordinarii Loci Illustrissimi ac Reverendissimi Archiepiscopi Metropolitae Vilnensis Romualdi Jalbrzykowski de die 30 m. Maii A.D. 1938 ad preces parochi huius ecclesiae Lidensis data, ego sacerdos Hippolytus Bojaruniec S. Th. Magister, Canonicus Honorarius Capituli Metropolitani

Vilnensis, decanus lidensis S. Viae Crucis Stationes cum adnexis Indulgentiis erexi in ecclesia filiari Cwiermy sub litulo Stac Crucis decanatus Lidensis die 6 iunii 1938 an D. Archidioceseos Vilnensis iuxta regulas a S. Indulgentiarum Congregatione die 10 mensis maii 1742 an. praescriptas.

In quorum fidem testimonium hoc manu meo exaravi et subscripsi die 6 m. Junii A.D. 1938. L.S. №1211

decanus lideusis<br>
Hippolyty Bojaruniec S.T.M.<br>
Can. Hon. parochus Farae lideusis.




Узгоднена.<br>
Ліда.<br>
7 чэрвеня 1938 г.<br>
№ 1212.<br>
Кс. Г. Баярунец,<br>
дэкан лідскі.

***Пячатка Лідскага дэканату з выявай руінаў замка Гедзіміна і подпісам "Замак Гедзіміна".***

Дня 6 чэрвеня 1938 года на другі дзень спаслання Духа Святога адбылася пілігрымка ў Цвермы з Ліды пры сухім надвор'і. Людзей сабралася да 10 тысяч. Яўрэйскіх латкоў не было ні аднаго. Пан лідскі староста Гусоўскі (Гансоўскі) забараніў прадаваць гарэлку і піва, затое быў спакой і ўрачысты настрой. Пасля ўрачыстай імшы была адспявана суплікацыя (малітва просьба), і потым было ўдзячнае ўрачыстае дабраслаўленне з дараносіцай прэнайсвятога сакраманту. Далей ксёндз-канонік Гіпаліт Баярунец урачыста заснаваў Крыжовую Дарогу паводле прадпісанай формы. Стацыі фундаваў ксёндз-пробашч Баярунец коштам 72 зл. 90 гр. Падчас набажэнства было сабрана дабраахвотных ахвяраванняў 174 зл. 78 гр.

**Бальшавізм**

У 1939 годзе дня 1 верасня пачалася нямецка-польская вайна. Польшча не вытрымала нямецкай перавагі. Дня 18 верасня 1939 года расійскія бальшавікі пасля заключэння дамовы з немцамі ўступілі ў наш край і навязалі нам сваё бальшавіцкае права, робячы ў нас бальшавіцкі "рай". Усё змянілася. Уласнасць была нацыялізавана, але толькі, як гаварылі, у буржуяў і польскіх паноў. Капліца ў Цвермах ацалела. Былі замахі на завалодванне святыняй. Але наш люд, выхаваны ў касцёле, на бязбожныя мэты яе не даў. У пачатку 1940 г. старшыня сельсавету ў Цвермах Ігнатовіч, праваслаўны мужык з вёскі Сліжы і бальшавік-камісар склікалі не-




MODLITWA

Oto ja, o dobry i najsłodszy Jezu, upadam na kolana przed Obliczem Twojem, a w największej żarliwości ducha błagam Cię i zaklinam, abyś najwyższe uczucia Wiary, Nadziei i Miłości, wraził w serce moje, tudzież prawdziwy żal za grzechy moje, i najszczerszą a silną chęć poprawy sercu mojemu na zawsze dać raczył. Obdarz tą łaską mnie, który z największem wzruszeniem i z najgłębszą boleścią duszy mojej Twoje Pięć Ran rozpamiętywam, i myślą moją w nich się zatapiam, o dobry Jezu, mając to przed oczyma, co już król prorok Dawid miał na ustach, gdy mówił o Tobie: **Przebodli ręce moje i nogi moje, policzyli wszystkie kości moje.** (Ps. XXI. 17,18).

Indulgentia decem annorum; plenaria recitantibus post Missam et orantibus ad mentem Summi Pontificis. Pius Pp. XI. 2 februarii 1934.

Imprimatur † Romualdus, Archiepiscopus - Metropolita. Vilno. d. 11.V.1939 a. N. P. 550. L. S.

***Картка з выявай Цвермскага крыжа і малітвай да яго, 1939 год.***



***Капліца ў Цвермах, 1939 г.***

калькі разоў навакольных сялян і дамагаліся, каб грамада ў Цвермах вынесла ўхвалу аддаць капліцу пад залу сходаў для гміны (сельсавета) і далі паперу, напісаную старшынём і бальшавіком як пратакол для подпісу. Ні адзін наш парафіянін пратаколу не падпісаў, абапіраючыся на тое, што капліца – не іх уласнасць, а збудаваў яе ксёндз-пробашч са складак вернікаў, якія прыходзілі на імшу да капліцы. Ухвала правалілася. Тады бальшавікі наклалі на капліцу вялікі падатак. Па 11 тысяч рублёў за кожны год. Вёска Цвермы павінна была заплаціць за 1940 год і столькі ж за 1941 год. Жыхары вёскі Цвермы адказалі, што гэта не іх уласнасць, а таму і плаціць не абавязаны. Цяжкая хмара навісла над капліцай ў Цвермах, засталася толькі надзея на Бога. Пан Бог апекі не пашкадаваў. У сакавіку жыхарам Цвермаў былі ўручаны позва заплаціць падатку за 1940 год 52 рублі 50 капеек і столькі ж за 1941 год. Атрымаўшы паведамленне пра той ужо малы падатак, пробашч загадаў у той жа час падатак аплаціць, што таксама было ўзята з сум ахвяраў. Заплачана заміж 22 тысяч рублёў толькі 105 рублёў. Ці ж гэта не ласка Божая? Ці ж гэта не воля Пана Езуса, чый крыж знаходзіцца ў алтары той капліцы? Бальшавікі, гнаныя немцамі, пакінулі мясцовасць 27 чэрвеня 1941 г., і капліца ацалела без ніякага пашкоджання. У 1940 і 1941 гг. у капліцу на набажэнства ездзіў час ад часу ксёндз Людвік Віткоўскі, часовы на час вайны пробашч ў Кір'янаўцах (Бердаўцы). З верасня 1941 г. ездзіў таксама з Кір'янаўцаў ксёндз-пробашч Пётр Міцкевіч.

**Пералік здзейсненых цудаў пад крыжам у Цвермах, якія аднак аўтарытэтам касцёла не пацверджаны**

1. Каля года 1773 (перад 1775-м годам) паводле народнага падання, апісанага ў гісторыі крыжа ў Цвермах, Стэфану Валялю і яго жонцы Мар'яне вярнуўся зрок.

2. Францішак - сын мужа і жонкі Яна і Юзэфы са Станкевічаў Жакаў, якія жылі ў Цвермах нарадзіўся 18 лютага 1929 года, № акту 168.

Было гэта дзіця слабое, енчыла дзень і ноч, і выйшла так, што засталіся толькі косці і скура. Бацькі насілі яго да розных лекараў, і нічога не дапамагала. У той час маці прыпомніла пра крыж і 8 верасня 1930 года павесіла фартушок на крыж у Цвермах як ахвяру. І дзіця паправілася.

3. Той жа Францішак Жак, дзіця 2,5 гадоў, на Вялікдзень 1931 г. захварэў на шкарлатыну і меў пухліну ў горле. Памясцілі яго ў шпіталь у Лідзе. Лекар хірург п. Казубоўскі сказаў, што гэты хлопец не будзе жыць. Пасля вяртання са шпіталя дадому і вывешвання фартушка на крыжы Франак у той жа час выздаравеў, прынамсі выглядае вельмі здаровым.

4. Ядвіга Гольмант з Цвермаў мела сардэчную недастатковасць і хварэла ўвесь 1930 год. Пасля таго, як памалілася перад крыжам паправілася, і цяпер распавядае, што цешыцца здароўем.

5. Кастусь Вінча, пастаянны жыхар Цвермаў, 50 гадоў, доўгі час адчуваў хваробу лёгкіх і быў на прасвеце (рэнтгене), і лекары пастанавілі, што мае сухоты (туберкулёз). Пачаў маліцца пад крыжам і працаваць бясплатна пры аздабленні крыжа і будаўніцтве капліцы і цяпер гаворыць, што ні болю ўжо не чуе і ні стомы і ахвотна далей працуе пры пабудове капліцы.

6. Дня 2 чэрвеня 1933 года з'явіўся ў Фарны касцёл у Лідзе і менавіта да мяне, ксендза-пробашча Баярунца, сведка, які гатовы ахвотна сведчыць пад прысягай, што ён, Вінцэнт Карповіч, народжаны ў 1901 г., жанаты, з вёскі Гярвенікі Жырмунскай парафіі будучы дзіцем выпаў з калыскі і моцна стукнуўся, ад тога часу меў пастаянны боль галавы ў дні і ночы і не меў на тое рады. Дня 27 траўня 1933 года пайшоў пад крыж у Цвермах і падчас малітвы адчуў, што яму з галавы нешта ссунулася, і што цяпер ужо ніякага болю ў галаве не чуе.

7. Дня 25 жніўня 1935 года прыйшоў да мяне ксендза-пробашча Гіпаліта Баярунца на плябань у Лідзе п. Пётр Гольмант, каваль па прафесіі, жанаты, які жыве ў Цвермах, і з плачам і ўзрушэннем расказаў, што сам атрымаў ад Пана Езуса з крыжа ў Цвермах цуда, бо быў заўсёды хваравіты, і яму вельмі не шанцавала ў жыцці, але пасля ён выканаў работы пры капліцы, то цяпер упаўне здаровы і ў жыцці мае ўдачу. Яго ж жонка Паўліна Гольмант мела пастаянны боль у галаве, і лекары гаварылі, што ў яе сухоты. Пастаянна мусіла ляжаць з нагоды хваробы і паволі нейкі час была ўжо ў вельмі кепскім стане здароўя, мусіла ляжаць, але ўстала і была на асвячэнні фундамента капліцы дня 24 верасня 1933 г. і малілася, адчула, што хвароба яе пакідае, і ад тога часу яна ёсць упаўне здаровая."

17 студзеня 1946 года ксёндз Гіпаліт Баярунец, пробашч Лідскай Фарнай парафіі ад 1919 года, Лідскі дэкан і ганаровы канонік памёр, а гісторыя Цвермскага крыжа пайшла далей.

### Разбурэнне капліцы

Адразу пасля вайны і да пачатку 60-х гадоў 20-га стагоддзя Савецкай уладзе было не да Цвермаў.

Яшчэ 21 сакавіка 1959 года ўпаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў па Гарадзенскай вобласці склаў "Гістарычны нарыс пра крыж у Цвермах", у якім нават мякка абгрунтоўвае патрэбнасць Цвермскай капліцы тым, што людзям у непагадзь далёка адсюль ісці да касцёла.

А ўжо ў 1960 годзе капліцу знеслі. Кіраваў гэтым актам вандалізму, а капліца была цікавым помнікам архітэктуры народнага дойлідства, дырэктар Дварышчанскага саўгаса Іваноў. Яму дапамагалі саўгаснікі Слюсараў, Жамойда і іншыя.

Разбуралі трактарам, зачапіўшы тросам за верх капліцы. Вернікам аднак дазволілі вынесці крыж з фігуркай, які яны перадалі ў Тракельскі касцёл, дзе яго адзелі ў медныя шаты, і дзе ён прастаяў да вясны 2007 г.



***Апрануты ў медзь Цвермскі крыж у Тракельскім касцёле. Травень 2007 г.***

А старую хвою чакаў наступны лёс. Пасля разбурэння капліцы геадэзісты вырашылі паставіць у гэтым месцы трыангуляцыйны знак. Сасна замінала ім гэта зрабіць, і таму было вырашана яе спілаваць. Як толькі пачалі пілаваць высветлілася, што піла ўзята замалая, а з дрэва пацякла смала колерам падобная на кроў. Гэта моцна напалохала геадэзістаў, і яны пакінулі дрэва ў спакоі. Аднак час зрабіў сваю справу, і дрэва пару гадоў назад паваліліся. Гэта было сапраўды магутнае дрэва таўшчынёй у тры з паловай ахопы.

47 гадоў святая імша не адпраўлялася ў намоленай мясціне каля Цвермаў

### Адраджэнне святыні

Пастаноўка крыжа Валянцінам Капачэлем у Цвермах была толькі першым крокам, бо сама святыня - Цвермскі крыж - знаходзілася ў Тракелях.



***Цудадзейны крыж за шклом у новай капліцы ў Цвермах. Здымак С. Судніка. 2011 г.***

Знакам на наступны крок быў, як і ў выпадку з Валялем, сон, у якім з таго ж святога крыжа Хрыстус натхніў Валянціна Эдуардавіча пабудаваць новую мураваную капліцу і вярнуць у яе Цвермскі крыж. Будаўніцтва капліцы цягнулася амаль тыдзень. Усім, хто будаваў новую капліцу, дапамагаў у духоўным плане ксёндз Павел Галінскі, пробашч парафіі імя Наведвання НПМ у Тракелях, а таксама ксёндз Уладзімір Гуляй, пробашч парафіі Ліда-Фара. Неацэнную дапамогу аказала таксама сястра Юзэфа з парафіі імя Божай Міласэрнасці ў Лідзе. Ксяндзы і манахіні з навакольных парафій падтрымлівалі яго духоўна, а многія людзі добрай волі з навакольных мясцінаў аказалі фінансавую дапамогу, як і ўдзельнічалі ў будаўніцтве. Знамянальна, што ўрачыстае асвячэнне мураванай прыдарожнай капліцы ў Цвермах адбылося, як і калісьці, на другі дзень Сёмухі або 28 траўня. Каплічка атрымала назву - Узвышэння Святога Кры-



***Біскуп Аляксандр Кашкевіч каля цудатворнага крыжа ў Цвермах, 2007 г.***



*Асвячэнне новай капліцы ў Цвермах. 28.05.2007 г.*



**Металічны крыж, устаноўлены сям'ёй Капачэль у Цвермах у 2006 г., перастаўлены пасля пабудовы капліцы ўправа. Здымак С. Судніка. 2011 г.**




**Указальнік да каплічкі. Здымак С. Судніка. 2011 г.**

жа. Там быў змешчаны і стары векавечны крыж, вернуты з Тракеляў, з праслаўленай ласкамі фігуркай Хрыста, які, напэўна, яшчэ на працягу вякоў будзе напамінаць вернікам, якая неабсяжная і ўсемагутная Божая ласка!

З таго часу цячэ бясконцая плынь людзей у гэтае святое месца. Асабліва шмат народу прыходзіць і прыязджае сюды на святочныя фэсты, якія сталі тради-



*Капліца ў Цвермах. Здымак С. Судніка. 2011 г.*





*Старая сасна з ахвярнымі стужкамі.*
*Здымак С. Судніка. 2011 г.*

цыйна праводзіцца на Сёмуху. У 2007, 2008 і наступных гадах Цвермы наведваў біскуп Аляксандр Кашкевіч з Гародні. Гавораць, у гадзіны набажэнства дажджавыя хмары над Цвермамі рассейваюцца, і нават машкара перастае даймаць прысутных. Людзі распавядаюць ужо свае, новыя паданні пра цудадзейныя ацаленні. А паколькі крыж за шклом, то на старой сасне, якая так і ляжыць за каплічкай, кожны год з'яўляюцца тысячы ахвярных стужак, мабыць, стужкі замянілі фартушкі, бо на сасну іх спадручней завязваць.

Усё працягваецца.

*З матэрыялаў, сабраных* ***Ядвігай Станіславаўнай і Валянцінам Эдуардавічам Капачэлямі,*** *артыкул скампанаваў* ***Станіслаў Суднік****.*

**Літаратура:**

1. Wiadomosci o sw. Krzyzy i Kaplicy w Cwiermach, zebrane i napisane prez Ks. Hipolita Bojarunca, Kononika Honorowego, Dziekana Lidzkiego i proboszcza parafii Farnej w Lidzie... Рукапіс. Ксеракопія. Захоўваецца на Лідчыне ў некалькіх асобніках. Адзін з іх - у рэдакцыі.

2. Rzekome objawienie we wsi Cwiermy pod Lida. Drugie "Jaszuny". - Pogloski o cudach i uzdrowieniach przy krzyze. - Tysiaczne tlumy. "Slowo", № 263, 20.10.1932. Вільня.

3. Jak to bylo we wsi Cwiermy pod Lida. Legendy i podanie zrodlem wiadomosci o rzekomem objawieniu. "Slowo", № 264, 21.10.1932. Вільня.

4. ¨анна Немчыноўская. ¨сць такое святое месца. "Слова жыцця", № 13, 24.06.2007 г., Гародня.

5. Уладзімір Круцікаў, Міхась Бурачэўскі. Цвермы: вяртанне святыні. "Лідскі летапісец", № 2 (38), красавік-чэрвень 2007 г.

6. Малітва ля цудоўнага крыжа. "Слова жыцця", № 10, 18.05.2008 г., Гародня.

7. Людмила Петрулевич. Чудеса, в которые верили люди. "Лідская газета", № 117 (11933), 19.10.2010 г.

# «Жыццё чалавека — гэта вялікая таямніца...»

Памятаю, як падчас першай сустрэчы з **Хрысцінай Лялько** мяне вельмі ўразіў яе глыбокі, задумлівы позірк. Здавалася, яе глыбокія цёмныя вочы сваімі чыстымі прамянямі пранікаюць у душу і клічуць да адкрытасці, шчырасці... Гэткае ж ураджанне пакідаюць паэзія і проза маёй таленавітай зямлячкі, бо з творамі — як з людзьмі: адны чытаеш і прымаеш блізка да душы, іншыя нічым не кранаюць, не ўзварушваюць...

Агульнаю рысаю ўсёй творчасці Хрысціны Лялько з'яўляецца *праўдзівасць*. Рыса гэтая, на маю думку, заключаецца нават не ў тым, наколькі глыбока і шырока пісьменнік раскрыў «праўду жыцця» — праўда гэта невычэрпная, і нават вядомыя ісціны кожны з нас «адкрывае» на працягу ўсяго свайго жыцця ў нейкіх новых драбніцах і праявах. Рыса гэтая заключаецца ва ўменні пісьменніка гаварыць з чытачом душою і сэрцам, гаварыць без непатрэбнай прыўкрасы, без імкнення здзівіць або паманернічаць, інакш кажучы, ва ўменні шчыра спавядацца з адчутага і спазнанага. Рыгор Шкраба ў рэцэнзіі на першую кнігу Хрысціны Лялько «Дарога пад гару» адзначыў, што пісьменніца вельмі патрабавальна ставіцца да свайго мастацкага слова, дзякуючы імкненню да дакладнасці ў яе ніводная дэталь не ўжытая проста так, без патрэбы: *«Што асабліва радуе ў апавяданнях Х. Лялько, дык гэта свежыя дэталі, падгледжаныя ў жыцці. Пісьменніца імкнецца, каб яны не толькі расказвалі, але і малявалі, каб праз іх чалавечая душа раскрывалася як мага паўней. Клапоціцца, каб чытач адчуваў эфект прысутнасці — няхай гэта падзея, чалавечае перажыванне ці пейзаж. <...> Пісьменніца імкнецца захоўваць пачуццё меры».*

У чым крыніцы гэтай праўдзівасці? Найперш у адвазе расказваць пра *асабістае, інтымнае. «Трэба адрэзаць па-жывому кавалак сэрца і кінуць у агонь, каб зацвіў верш»,* — піша Данута Бічэль у прадмове да кнігі вершаў Хрысціны Лялько «На далонях любові». Амаль кожны пісьменнік бярэ матэрыял для творчасці з уласнага жыцця, але не кожны адважыцца на такую безабароннасць перад чытачом, як аповед жыцця сваёй душы. У той жа час менавіта гэта і выклікае ў чытача давер да прозы і паэзіі Хрысціны Лялько. Трэба падкрэсліць, што героі яе прозы маюць абсалютна розны ўзрост (гэта і маленькая Юлька з апавядання «Юлька і сонца», і малады Андрэй Багунец з аповесці «Лес», і старая Гэлька з апавядання «Лёгкі хлеб»), іх характары паказваюцца ў розных жыццёвых сітуацыях (і праца, і каханне, і смерць), але кожны твор Хрысціны Лялько ўспрымаецца як *аўтэнтычны*, і зусім цяжка паверыць, што першыя творы пісаліся Хрысцінай Лялько ў зусім яшчэ маладым узросце — настолькі яны выяўляюць важкі жыццёвы досвед пісьменніцы і яе ўменне бачыць душу іншага чалавека.

Такім чынам, праўдзівасць і аўтэнтычнасць — гэта найважнейшыя прынцыпы, на якіх пабудавана ўся творчасць Хрысціны Лялько. Цяпер больш канкрэтна разгледзім, як гэтыя прынцыпы праяўляюцца ў яе прозе і паэзіі.



***Касавіца на родным хутары каля в. Хадзюкі на Лідчыне. 1998 г.***



***Мама Марыя на лясной дарозе дадому. 1997 г.***



***Каля роднай хаты, у маміных півонях. Чэрвень, 2000 г. Фота мамы.***

* * *

Хрысціна Лялько — аўтар дзвюх кніг прозы: «Дарога пад гару» (1985) і «Світанак над бярозамі» (1989). Аднак папулярнасць да пісьменніцы прыйшла яшчэ задоўга да выхаду яе першай кнігі. Маладая



***У музеі Элізы Ажэшкі з Аляксеем Карпюком, Юркам Голубам, Янкам Брылём, Казімірам Камейшам і Данутай Бічэль. Гародня. 1985 г.***

пісьменніца зачаравала сваіх калегаў па пяры і крытыкаў менавіта тымі рысамі творчасці, пра якія мы пісалі вышэй, а таксама сакавітаю народнаю моваю, па словах Яна Скрыгана — «праўдзіва-блізкаю, простаю». У гісторыі сучаснай айчыннай літаратуры Хрысціну Лялько называюць пераемніцай традыцый самога Яна Скрыгана, Янкі Брыля, Івана Пташнікава, Анатоля Кудраўца, Віктара Казько — лепшых прадстаўнікоў беларускай прозы. Але творчасць Хрысціны Лялько не з'яўляецца толькі сінтэзам літаратурных традыцый яе папярэднікаў, гэта самастойная, самабытная з'ява, якая мае свае адметнасці і непаўторныя рысы.

Аналіз празаічнай творчасці пісьменніцы хацелася б распачаць з хранатопу яе апавяданняў і аповесці «Лес», таму што ў адрозненне ад лірыкі Хрысціны Лялько ў прозе гэты складнік праяўляецца больш канкрэтна і мае ідэйна важную функцыю. З мастацкай прасторай вызначыцца працей: гэта беларуская вёска з яе жывым і багатым прыродным асяроддзем (прычым прырода ў творчасці Хрысціны Лялько з'яўляецца праблемавызначальным элементам мастацкай прасторы), з крыху меншай запоўненасцю, насычанасцю, паказана прастора беларускай сталіцы (таму што, напрыклад, у аповесці «Лес» пры разгортванні падзей у Менску асаблівы акцэнт робіцца на ўнутраным дзеянні — перажываннях галоўнага героя Андрэя Багунца). Што ж датычыць мастацкага часу, то псіхалагічны стан герояў прозы Хрысціны Лялько вельмі часта звязаны з мінулым, таму ключавую ролю набывае катэгорыя *памяці*: памяць пра нешта важнае з'яўляецца нават тым, што вызначае ход дзеянняў у творы. Так, Андрэю Багунцу не дае спакою раптам абуджаная памяць пра дзеда Паўлюка, які стаў сніцца яму ўначы; яго таксама чамусьці раздражніў ліст ад былога настаўніка Тамашэвіча, які нагадаў пра высечаны лес на родным хутары Андрэя. Пра што б ён ні думаў, *«думкі ўпарта вярталіся да Тамашэвіча, да ягонага ліста, да гэтых нечаканых старых здымкаў дзедавага лесу. Хацелася з некім гаварыць, спрачацца, але побач нікога не было».* Непакоіць Андрэя і тое, што ён забыўся радкі са свайго ўласнага верша пра той дзедаў лес: *«Забыў, хоць плач. <...> Зноў і зноў ён пачынаў ліхаманкава шаптаць-паўтараць свой даўні дзіцячы верш, але даходзіў да апошняга радка і аніяк, хоць забі, не мог прыпомніць таго адзінага слова, якім ён канчаўся: „Ты будзь са мною, я...“ На гэтым „я“ ўсё абрывалася. Хто — я? Што — я?»* Вакол гэтага пытання «раскручваецца» праблематыка аповесці «Лес». Хто я на гэтай зямлі (гаспадар ці раб)? Што я магу зрабіць, каб нешта змяніць?

Памяць, як свайго роду абарона ад прадчуванага зла, як тое адзінае добрае, што было ў жыцці, насяляе свет нават старога сабакі з апавядання «Мурза». Праз увесь твор праходзіць гэтая нітачка памяці пра маці Мурзы, якой ужо даўно няма, — «высокую, худую, брудна-шэрай масці». Успамін старога сабакі пра ласку маці ў далёкім маленстве дадае кантрасту ў апісанні жорсткасці гаспадара: толькі ад маці ён бачыў на гэтым свеце штосьці добрае і прыгожае, што ніколі больш не паўтарылася за ўвесь час службы ў гаспадара. Памяць пра яе прыходзіць да Мурзы і падчас канання: кроплі крыві на снезе здаліся яму «тымі куточкамі-кропелькамі матчыных вачэй». Такім чынам, у гэтым апавяданні мінулы час, успамін пра яго становіцца своеасаблівым духоўным фонам, на якім разгортваецца ўсё дзеянне твора.

Ключавую ролю катэгорыя памяці адыгрывае і ў апавяданні «Канваліі». З яе дапамогаю пабудавана нават кампазіцыя твора, якая нагадвае мантаж з урыўкаў-успамінаў. Ужо першы сказ апавядання вядзе чытача ў светлыя закуткі памяці: «Помню тую вясну. Першую гарадскую вясну ў сваім жыцці». У творы неаднаразова будзе паўтарацца прыметнік «першы», які таксама звязаны з памяццю пра штосьці важнае, асноўнае, сутнаснае, глыбіннае: «як збавення чакае горад першага вясновага дожджыку»; «здаецца, я ўпершыню была так моцна захоплена, зачаравана мастацтвам. То была мая першая сустрэча з сапраўдным майстрам. Так, так, першая». На гэтыя ўспаміны гераіню апавядання наводзіць мастацкая выстава, а дакладней, адлюстраваныя на карцінах партрэты сялян, аглядаючы якія яна «як усё роўна ступала па распаленых камянях мінулага». З гэтага моманту ўвесь далейшы ход аўтарскага аповеду звернуты менавіта ў мінулае. Мэту такога павароту дапамагае зразумець своеасаблівае азарэнне гераіні: «І было такое дзіўнае адчуванне, што ты калісьці ўжо жыў у гэтым свеце, бачыў і любіў гэтых людзей, але здарылася нейкая непапраўная бяда з тваёю душою, **з тваёю памяццю** (вылучана мною. — *Г. С.*), і ты надоўга забыў гэта ўсё, не думаў, не ўспамінаў яго, жыў з дня ў дзень дробным і мітуслівым жыццём, думаючы, што так і трэба, што гэта і ёсць тое тваё прызначэнне, дзеля якога ты і народжаны на белы свет». Гэтая непапраўная бяда з нашай памяццю — асноўны боль гераіні апавядання, што прымушае яе зрабіць некалькі эскізаў да партрэта «свае» кабеты — пажылой жанчыны-сялянкі, якая ўвасобіла ў сабе ўсё самае лепшае, што можа быць у чалавеку, што мы перанялі ад нашых маці, але так баімся паказваць людзям. Таму відавочна, што ў гэтым апавяданні катэгорыя памяці адыгрывае ўжо не толькі кампазіцыйную ролю, але і ідэйную: час мінулы і час цяперашні ўступаюць у моцную лучнасць, ад захавання якой залежыць стан нашай душы і нашай чалавечнасці.

Яшчэ адной цікавай з пункту гледжання мастацкага часу рэччу з'яўляюцца празаічныя «Маленькія таямніцы» Хрысціны Лялько, апублікаваныя ў часопісе «Наша вера» (№ 1, 2006). Гэта невялікія замалёўкі з мінулага. Мастацкі час гэтых замалёвак, з аднаго боку, вельмі канкрэтны, а з другога — умоўны, абстрактны, таму што тыя «таямніцы жыцця», якія захоўваюць у сабе апісаныя ўспаміны, самі па сабе з'яўляюцца пазачасавымі. «Жыццё чалавечае — вялікая таямніца, складзеная з мноства маленькіх...» — піша Хрысціна Лялько ў невялічкім уступе да гэтых замалёвак. Далей жа пісьменніца невыпадкова падкрэслівае, у чым заключаецца каштоўнасць гэтых успамінаў: «Згадка пра іх — гэта не толькі жаданне зноў перажыць і асэнсаваць тое, што назаўсёды адклалася ў памяці і ўзрушыла сэрца; гэта імкненне хоць трохі наблізіцца да таямніцы жыцця, адначы падараванага Богам». Пра «пазачасавасць», універсальнасць з'яваў, якія сталі сутнасцю апісаных успамінаў, сведчаць нават назвы асобных замалёвак: «Радасць», «Шчасце», «Любоў», «Пра вечнасць». Такім чынам пісьменніца абірае за ядро свайго аповеду пэўную жыццёвую з'яву, загадку, таямніцу і нібы закладае гэтае ядро ў абалонку свайго ўласнага перажытага досведу — досведу спасціжэння «маленькіх таямніц» жыцця.

Як бачым, у моцнай узаемасувязі мінулага і сучаснасці заключаецца своеасаблівасць мастацкага свету Хрысціны Лялько. Цяпер больш падрабязна засяродзімся на праблематыцы яе твораў, якая разгледжана менавіта ў такім святле. Прычыны «непапраўнай бяды» з чалавечай душою і памяццю пісьменніца шукае ў канкрэтным гістарычным матэрыяле — многія яе апавяданні аб'ядноўвае тэма жыцця беларускай вёскі падчас і пасля калектывізацыі. Адным з адмоўных бакоў гэтай з'явы, як падкрэслівае пісьменніца, было тое, што чалавек паступова пераставаў быць гаспадаром на сваёй зямлі, а ў якасці «гаспадароў» прысылаліся тыя, хто не ведаў гэтай зямлі і быў да яе абыякавым. Вуснамі героя аповесці «Лес» Хрысціна Лялько ставіць важнае анталагічнае і сацыяльнае пытанне: «Усё на нейкага дзядзьку спадзяёмся, указаў зверху чакаем. Чужыя мы і гэтай зямлі, і ўсяму гэтаму... Я знаю, адчуваю ўсё, а паняць, чаму так — не магу. Чаму так сталася, што нават жывучы тут, на зямлі, працуючы на ёй, людзі абыякавыя да яе зрабіліся?» Над гэтай жа праблемай задумваецца герой апавядання «Светлая рунь» стары Міхал, які страціў жонку і застаўся адзін, бо сыны, «як толькі сталі на ногі, дык і ў белы свет» падаліся: «І зямля гэтая, хай самая найлепшая, не трымае яна чалавека так, як раней». Не ў якасці галоўнай, але таксама важнай выступае гэтая праблема ў апавяданні «Белыя брады», дзе «гаспадары» ў самы разгар касавіцы штодня п'юць, з чым ніяк не можа прымірыцца герой апавядання Сашка.

З праблемаю гаспадарлівасці людзей на гэтай зямлі непарыўна звязаны паказаныя пісьменніцаю ўзаемаадносіны чалавека з прыродаю. І важнаю ў гэтым сэнсе мастацкаю дэталлю, а дакладней, дэталлю-сімвалам, з'яўляецца вобраз елкі ў аповесці «Лес»: яна сімвалізуе сабою ўсё спрадвечнае, устойлівае, сапраўднае, яна з'яўляецца і паўнапраўным героем твора: Паўлюк Багунец марыць, што елка будзе калыхаць дзяцей; елка гамоніць з Паўлюковаю хатаю і з Анютаю. Гэтая елка адыгрывае ролю пэўнага духоўнага арыенціру ў мастацкім адлюстраванні дзеянняў персанажаў, толькі не ўсе яны здольныя чуць яе «трывожны і глухі» шум, а елка тым часам так жыва рэагуе на ўсе змены, якія адбываюцца ў навакольным асяроддзі: яна то напружана шуміць, то маўчыць, то чуе, як трымціць яе нутро, аж «пайшоў высока, у самую верхавіну, нецярплівa-радасны гуд...»

Вобразам елкі аповесць пачынаецца і заканчваецца. З яго дапамогаю пісьменніца стварае кантраснае супрацьпастаўленне розных тыпаў адносінаў чалавека да свайго ж навакольнага асяроддзя: «Колькі яна перажыла за свой век, колькі ўсяго бачыла і помніла, — гаворыць апавядальніца пра елку. — Яшчэ з тае свае ярка-зялёнай маладосці помніла. Яшчэ дотык цёплай Паўлюковай далоні. Шчаслівы то быў час, і быў у яліны адзіны сапраўдны Гаспадар.

А зусім нядаўна адчула яна халодны нежывы дотык металу. Як дотык смерці. І здрыганулася ўся, зашумела, шырока і цяжка махаючы амшэлым

вечназялёным голлем...» Антытэза «цёплага дотыку далоні» і «халоднага нежывога дотыку металу», а таксама нямое, бездапаможнае пярэчанне «вечназялёнай» яліны перад гэтым дотыкам смерці надае аповесці глыбокі драматызм.

Падобную ролю адыгрывае і вобраз бэзу — «бацькавай памяці» ў апавяданні «Шыкуны». Яго герой Зміцер спілаваў бэз з-за таго, што той засланяў ад вуліцы новапабудаваны гараж — старому ж так не цярплівілася пахваліцца перад вяскоўцамі сваім гаражом, не бяда, што машыны няма. «Прыпомніў, як сядзеў тут, на гэтай лаўцы, калісьці даўно з Зінкаю, і яна, маладая, сарамлівая, шукала ў бэзавай гронцы «шчасце» — кветку на пяць пялёсткаў. „Калі знайду, то буду шчаслівая за табою...“ Не мог цяпер успомніць, ці знайшла». Вось і зноў перад намі сімвал духоўнага бяспамяцтва.

Як для аповесці «Лес», так і для іншых празаічных твораў Хрысціны Лялько характэрна не толькі апісаная праблематыка. Яна ўвогуле ахоплівае вельмі шырокі спектр пытанняў, звязаных і з канкрэтна-гістарычным адлюстраваннем жыцця чалавека, і з універсальнымі катэгорыямі яго існавання: гэта адносіны паміж бацькамі і дзецьмі, любоў і зайздрасць, чалавечая адзінота, смерць і вечнасць і інш.

Супрацьстаянне дабра і зла ў творчасці пісьменніцы набывае вельмі адметную спецыфіку. Яно не мае нічога агульнага з авантурнасцю, адкрытай барацьбой аднаго з другім, яно — у ціхім цярпенні чалавека. Любоў у жыцці герояў Хрысціны Лялько заўсёды выяўляецца як знешне алагічная з’ява, як штосьці незразумелае і непатрэбнае ў гэтым свеце. Напрыклад, старая Ульяна з апавядання «Пах мурагу» бярэ нядаўна атрыманыя грошы за карову і ідзе зноў да Мазюка, каб вярнуць сваю Саколку — нягледзячы на тое, што не змагла ў тое лета насенаваць на яе і ведае, што жывёлу не будзе чым карміць. Робіць жа гэта Ульяна па той прычыне, што разам з продажам Саколкі адчула, нібы нешта разарвался ў яе жыцці, нешта парушыла тую еднасць, якая была ў аснове яе існавання: «Адчула, як становіцца рахрыстана-пустой і халоднай душа, бы гэта вялікая загарада».

Міхал з апавядання «Светлая рунь» пасля смерці жонкі Стэфкі паддаўся-такі на ўгаворы сына паехаць жыць да яго «за блізкі свет», ужо нават сваю хату прадаў і ў дарогу сабраўся, але, ідучы на развітанне да Стэфкі на магілу, нібы наўмысна не спяшаўся… Стары прапусціў цягнік, бо логіка яго дзеянняў была падпарадкавана ўнутранаму болю ад таго, што, па-першае, ён страціў усё, чым жыў дагэтуль, а па-другое, яно аказалася не патрэбным нікому, нават яго сынам: «Баліць у Міхала душа, і часта ён думае, што і сам вінаваты ў нечым. Не змог утрымаць сваіх хлопцаў каля сябе, каля зямлі. Не змог…»

Пісьменніца не распавядае пра тое, што чакала старога, адзінокага і ўжо бяздомнага Міхала ў вёсцы пасля гэтага спазнення на цягнік, не распавядае і пра тое, як спраўлялася Ульяна са сваёй Саколкаю ўсю зіму без сена, таму што гэта ўжо не мае асноўнага значэння ў мастацкай задуме. Чытач можа толькі здагадвацца пра далейшыя лёсы герояў твораў Хрысціны Лялько, але яму паказана галоўнае: герой пайшоў супраць гнятлівага цячэння падзей, хоць знешне яго сітуацыя стала яшчэ больш складаная.

Як бачым, разарванасць паміж вечным, сваім, сапраўдным, і тым, куды вядзе чалавека сучаснае жыццё, — адзін з асноўных канфліктаў у творчасці пісьменніцы. Яе гераіня з апавядання «Канваліі», збіраючыся пасля побыту ў матчынай хаце ад’язджаць у горад, разважае: «Тады я яшчэ не здагадвалася, што так будзе кожны раз. Што душа мая, сама таго не жадаючы, як бы распалавінілася, раздвоілася, і мне суджана гэтак ірвацца заўсёды. І што менавіта гэта будзе найболей і найгорай мяне мучыць усё жыццё».

Такім чынам, празаічная творчасць Хрысціны Лялько вельмі адметная па сваіх мастацкіх асаблівасцях. Пісьменніцу хвалююць як канкрэтна-гістарычныя, так і вечныя праблемы існавання чалавека ў свеце. У кожным выпадку пры вырашэнні гэтых праблем аўтарка звяртаецца да першаасноваў таго, што дазваляе чалавеку жыць у еднасці з прыродаю і з іншымі людзьмі, да духоўнай і гістарычнай памяці, якая прапісана ў сэрцы кожнага, але загрувашчаная драбязой патрэбных і непатрэбных клопатаў: зайздрасць, пыха і нядобразычлівасць трымаюць гэты друз, а любоў змятае яго, агаляючы ўсю недарэчнасць, якая ў мітусні нашых спраў і пачуццяў уваходзіць у нашае жыццё.

* * *

Паэтычная творчасць Хрысціны Лялько вельмі моцна звязана з празаічнай сваёй настраёвасцю, пафасам і нават праблематыкай, хоць лірыка сама па сабе патрабуе большай інтымнасці, пачуццёвасці, ствараецца ад пэўнага душэўнага імпульсу, у той час як эпас заўсёды з’яўляецца плёнам заглыбленасці ў многія сферы чалавечага існавання, у прычыннавыніковыя сувязі быцця.

*Трывожны сон ці прыпамін —*
*мае бярозы каля хаты.*
*У белай квецені язмін,*
*яшчэ ў жыцці ніводнай страты.*

Нельга не заўважыць, як гэтыя радкі з верша «Трывожны сон» (1978) перагукваюцца з нечаканымі снамі і трывогаю Андрэя Багунца («Лес»), са здымкамі ягонага лесу, якія сталі яго чамусьці так непакоіць. «Мае бярозы…» — піша Хрысціна Лялько, уводзячы гэтыя бярозы ў верш як кагосьці роднага і адначасова прызнаючыся ў сваёй любові да іх і адказнасці за іх. Таму невыпадкова адзін з блізкіх да гэтага па часе напісання вершаў мае назву «Боль» (1979):

*Трухлеюць пні на могілках лясных, —*
*шчымлівы напамінак аб бярозах.*

І тут, як і ў прозе Хрысціны Лялько, стан прыроды выступае ў якасці знешняга сімптому «струхлеласці» чалавецтва. Боль лірычнай гераіні абумоўлены не столькі стратаю любімых дрэўцаў, колькі стратаю еднасці з самой прыродаю, якая «светла верыць: нехта не дарue», і глядзіць з надзеяй на чалавека.



**З Юркам Туронкам і Язэпам Янушкевічам у Трыпуцях на Беласточчыне. Красавік, 2004 г. Фота М. Новікава.**



**Сяброўская кава з Леанідам Галубовічам на леціўчы ў Марыі Вайцяшонак. 2008 г. Фота М. Вайцяшонак.**

*У белай квецені язмін,*
*і хтосьці зноў кагось чакае.*

Так заканчваецца верш «Трывожны сон», і гэтыя радкі таксама гучаць як выказаная прыродаю надзея на чалавека: язмін зноў цвіце — нібы запрашае да любавання, любові, клопату, цвет гэты — нібы яшчэ адзін шанец чалавеку, толькі ці скарыстае ён яго?

Памяць выяўляецца як наймацнейшая сіла і ў паэзіі Хрысціны Лялько, толькі з крыху іншай спецыфікай, чым у прозе. У аповесці і апавяданнях пісьменніцы памяць — тое, што чалавек усё больш страчвае, але што так неабходнае для яго выратавання, ацалення душы. У вершах жа Хрысціны Лялько лірычная гераіня валодае гэтай моцнаю памяццю і адначасова пакутуе ад яе, часам трапляе ў стан разгубленасці:

*Цяпер успамінаю і сумую:*
*нас раздзяляюць вёрсты, дні і межы,*
*і не паўторыш нават хвілю тую,*
*што так душу пакутліва мярэжыць.*
(«Успамін»)

«Мярэжыць» душу гераіні і ўспамін, які навейвае здымак, зроблены на старым Віленскім шляху («Здымак»), і чаканая, выпадкова-невыпадковая сустрэча («Сустрэча»), і многія іншыя дзеі ўласнага лёсу («***Так, гады за плячыма. І час — незваротны»; «Водар язміну»).

Яшчэ адной катэгорыяй, якая часта ляжыць у аснове вершаў Хрысціны Лялько і вызначае спецыфіку іх паэтыкі, з'яўляецца сон або мара, ілюзія. Можна сказаць, у пэўнай ступені гэта праява эскапізму лірычнай гераіні, што мае багатую традыцыю не толькі ў беларускай літаратуры, але і ў сусветнай.

*Мне сніўся сон — а ява рагатала*
*і здзек хавала над наівам тым.*
*І баязліўка мара уцякала,*
*а я блукала горадам пустым.*
(«Наіў»)

Выкарыстанне аўтаркай такога прыёму вымагае тая мастацкая сітуацыя, у якой часта апынаецца лірычная гераіня, — сітуацыя нязбытнасці, няспраўджанасці. Яна напаўняе шматлікія дэталі вершаў Хрысціны Лялько, стварае настальгічны настрой, выяўляе ціхі боль гераіні, часам атаясамліваецца з жыццёвым тупіком і вядзе гераіню да пошукаў выйсця, урэшце, зноў і зноў актывізуе яе памяць. Адсюль у вершах паэткі столькі метафар, якія служаць супрацьпастаўленню мроі і явы: *«Маленькія кавярні пахнуць кавай // і сумам па няспраўджанай сустрэчы»* («Успамін»); *«Адчуць сябе на міг зусім шчаслівай // сябе на міг шчасліва падмануць»* («Прысвячэнне»). Адсюль таксама паходзіць метафара маўчання або нявыказанасці, ці, дакладней, немагчымасці выказацца (*«на розных мовах гаворым — яднае маўчанне»; «у думках пра цябе, ў маім маўчанні, у дзіўных снах, што адлятуць уранні»*). Насамрэч жа гэтае маўчанне толькі ўзмацняе эмацыйны эфект ад успрымання верша, яно яшчэ больш красамоўнае, чым самыя выразныя словы пра чалавечы боль:

*Буду кахаць цябе моўчкі,*
*свет не пачуе ні слова.*
*Сумею схаваць адмыслова*
*пачуццяў сваіх вугалёчкі.*
*Іх не раздзьмухае вецер*
*у вогнішча полымнай страсці.*
*Стаю на саменькім краёчку,*
*малюся, каб толькі не ўпасці.*
(«***Буду кахаць цябе моўчкі»)

Гэтак жа, як сон, мара, ілюзія стаяць на адным полюсе той нязбытнасці, пра якую мы пісалі ў дачыненні да лірычнай гераіні, так малітва стаіць на другім полюсе. Малітва — гэта, можна сказаць, супрацьлегласць эскапізму, вяртанне да рэальнасці і адначасова ратунак ад болю («Дазволь», «***Спляліся у адно: любоў і смерць», «Надзея»).

Застаецца дадаць, што і проза, і паэзія Хрысціны Лялько маюць глыбока хрысціянскую скіраванасць. Калі ўся проза пісьменніцы — гэта аповед пра вяртанне чалавека да спадчыны сваіх бацькоў, да прыроды і тым



***З Янам Паўлам II. Летняя рэзідэнцыя ў Кастэль Гандольфа. Італія. 1995 г. Фота Артуро Мары.***

самым да сваёй уласнай душы, то паэзія Хрысціны Лялько — гэта гісторыя пра крочанне чалавека па шляхах любові і вяртанне «блуднага сына» да Айца. Знакавым у гэтым сэнсе творам з'яўляецца верш «Час вяртання», прысвечаны хрысціянскаму адраджэнню ў беларускім народзе:

*¨н вярнуўся. Гэтулькі гадоў*
*жыў ён і служыў камусь чужому.*
*І шукаў загубленых слядоў,*
*што калісьці адвялі ад Дому…*

Гэтыя вершаваныя словы пра «блуднага сына» можна вынесці ў эпіграф не толькі да паэзіі, але і да ўсёй прозы Хрысціны Лялько, настолькі яны перадаюць тую ідэю і мэту, рэалізацыі якой служыць сама пісьменніца.

* * *

Міхась Скобла неяк вельмі трапна адзначыў: «Вядомае жыццёвае правіла: кожны чалавек павінен збудаваць дом, нарадзіць сына і пасадзіць дрэва. Да гэтага правіла, сыходзячы з нашай беларускай сітуацыі, можна дапісаць дадатак: і выдаць кнігу. Але можна дадаць і да дадатку: выдаць яшчэ і чужую кнігу».



***З Ірынай Жарнасек па дарозе ў Эйн-Керэм. Святая Зямля. 2008 г.***




***Каля табліцы з малітваю «Ойча наш» на беларускай мове. Ерусалім. 2011 г.***

Добрым прыкладам да гэтага выказвання з'яўляецца творчая дзейнасць Хрысціны Лялько. Калі працягваць раней закранутую тэму вяртання, то пісьменніца праз пераклад з іншых моваў вяртае, прыносіць беларускаму чытачу і духоўныя набыткі нашага народа, і скарбы сусветнай філасофска-тэалагічнай думкі. Сваю перакладчыцкую дзейнасць яна распачала з даволі складанага твора — нарыса «Мінск» Уладзіслава Сыракомлі. На працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў Хрысціна Лялько займалася перакладам кніг дабраслаўлёнага Яна Паўла II: «Пераступіць парог надзеі», «Дар і Таямніца», «Устаньце, хадзем!», «Памяць і самасвядомасць»... Дзякуючы ёй беларускі чытач таксама можа пазнаёміцца з духоўнай паэзіяй іншых народаў, найперш польскага — творамі кс. Вацлава Бурылы (кніга «Павінен быць хтосьці»), кс. Яна Твардоўскага, кс. Ежы Шыміка, Яна Палыгі SAC, Антоні Габрыэля SDB і інш.

Пра перакладчыцкую працу пісьменніцы Данута Бічэль вельмі паэтычна сказала: «Гэта другая палова Хрысцінінага чыстага сэрца…» Вельмі добра, калі чалавек умее чуць тонкія рухі чужога сэрца і рабіць іх другой паловай свайго. У пісьменніцкай справе такі ўзаемаўплыў уласнай творчасці і перакладчыцкай дадае шмат жыцця і прыгажосці адной і другой.

Трэба спадзявацца, што шматгранная творчасць Хрысціны Лялько не пакіне абыякавым і сэрцы чытачоў, захапіўшы іх у палон сваёй шчырасці і праўдзівасці.

*Ганна Серэхан.*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Каламыя**

Але тая катастрофа рыйшла ўжо потым, калі мы былі ў Каламыі.

Падарожжа ў Каламыю было вельмі прыемным. Ехалі ў таварных вагонах. Аднойчы цягнік раптоўна затармазіў, людзі беглі, крычалі. Аказалася, што нейкі маладзенькі падпаручнік падчас язды па-п'янаму ўхапіўся за парапет дзвярэй і пачаў гушкацца на руках. Канешне адразу зляцеў. Трапіў на насып, нічога з ім не сталася, толькі порткі лопнулі. Атрымаў пару дзён арышту.

Львоў. Шкляны дах над перонам, светлае піва на вакзале.

Каламыя. Мы жылі ў чыгуначнага машыніста Зарэмбы. Займалі маленькі, цёмны пакойчык з выйсцем на вуліцу. Тая, зрэшты, была не брыдкая, поўная дрэў.

Галіцыя такая інакшая. Адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць стары Зарэмба, гаспадар дому і бацька машыніста, з вусамі *a la* Франц Іосіф. Уваходзіць з сумкай, поўнай канапак з кілбасой і тварогам, а таксама печывам. Доўгая цмяная размова з бацькамі. Гляджу прагна на тыя прысмакі: тут таксама голадна. Але маці грозна на мяне зыркае, не адважваюся рукі падняць, хоць Зарэмба настойліва мяне частуе. Нарэшце адходзіць. Увесь у паклонах: "Цалую ручкі пані капітанавай!" Маці ані не ўсміхнулася. Бярэ канапкі і аддае дзетвары Зарэмбаў, якая бегала па двары. Маё сэрца разрываецца, не паспрабаваў ні кавалачка. Гэта была проста спроба хабару. Бацька таксама сплавіў бы старога, але спосабам больш лагодным. Маці аднак аднеслася да справы прынцыпова. З гэтага часу стасункі з гаспадарамі былі напятыя, хоць у вочы паказвалася "да ножак паданне".

Восеннію атрымаў да кампаніі сястру, Марыю. Гэта ўжо цалкам запоўніла наш пакойчык.

Адносіны паміж бацькамі станавіліся ўсё горшымі. Зарплаты бацькі не хапала. ¨н сталаваўся ў казіно, адкуль і нам прыносіў харчы. Усё ў крэдыт. Пасля прыходу на свет дачкі бацька дома амаль не паказваўся. Любіў выпіць. Маці прыпамінала яму яго бацьку, казала: непапраўнага алкаголіка. Бацька меў слабую галаву і слабы характар. Піў часцей для кампаніі і кожную такую кампанію пазней – часта дома - адхворваў. Памятаю не адно яго начное вяртанне ў стане поўнага ап'янення. Тады я ляжаў, як трусяня, на сваім палявым ложку і стараўся ўдаваць, што сплю. Паступова нарастаў ува мне комплекс нянавісці, страху і агіды да ўсякіх непатрэбнасцяў.

Тут якраз у маці пачаўся перыяд небывала хуткага старэння, яна рабілася ўсё больш расчараванай. Характар яе неяк дзіўна мяняўся. У цяжкія часы – у Капцэвічах, мінулым летам у Менску, у час уцёкаў – была ў добрым настроі, вясёлая, выдатна спраўлялася з небяспекамі. Тут жа пачала сама адгароджвацца ад жыцця мужа. Справа ішла пра амбіцыі. Была "маскалькай". Тут у Галіцыі пачала наўмысна гэта падкрэсліваць Бацька мусіў, відаць, то тут, то там не досыць тактоўна прыпыняць яе выказванні на тую тэму, у выніку маці перастала бываць у палкавых кампаніях. Зрэшты, была кепска апранута. Бацька не меў грошай. Яна не мела ўласных строяў. Падазравала, што прыніжае бацьку. Але яе рэакцыя была такая, што бацьку толькі яшчэ ў яго слабасці ўзмацняла.

Зрэшты, і ён меў шмат клопатаў. Афіцэрскі корпус быў у той час (як і праз колькі наступных гадоў, а, нават, аж да вайны) вельмі падзелены, раздзіраўся ўнутранымі трэннямі, не непасрэдна палітычнымі, а персанальнымі, што яшчэ горш.

Справа была ў паходжанні афіцэраў. На той час змагаліся за выгаднае становішча тры вялікія афіцэрскія групы і некалькі меншых: легіянеры, афіцэры з аўстрыйскай арміі, або "галілеі", а таксама з расійскай арміі, ці т. зв. "католікі", трохі "галерчыкаў". Наймацнейшымі былі, простая рэч, легіянеры. Яны лезлі ўсюды. Цягнулі за сабой сваіх. Мелі тую перавагу, што былі арганізаванымі і што мелі свайго правадыра. І "галілеі", і "католікі" прайгравалі ў рукапашнай з былой дробнай сошкай легіённай. Зласловілі тады паміж сваімі, ганарыліся перавагай свайго вайсковага дасведчання, не без рацыі лічылі сябе саміх за вайсковых прафесіяналаў, у той час, калі легіянеры былі перш за ўсё аматарамі, без адукацыі, без доўгай практыкі.

Бацька ў польскім войску адбыў дзве цяжкія кампаніі: пераход з дывізіяй Жалігоўскага з-пад Адэсы праз Румынію ў край, а таксама Кіеўскі паход. Падчас астатняга пераЖыў страшнае адступленне з-пад Кіева. Бацька са сваёй ротай стаяў на другім беразе Дняпра. Спачатку адход быў прызначаны на 6 гадзін раніцы, але потым з-за поспехаў бальшавікоў на поўдні яго спешна пачалі ў дзве гадзіны. Гэтая змена тэрміну да бацькі не дайшла. У выніку ішоў праз Кіеў цераз дзве гадзіны пасля рэшткаў войскаў. Цераз увесь горад ішлі з карабінамі

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Mlodosc."** Czytelnik, Warszawa, 1962.

нацэленымі ў вокны, выглядаючы, ці не рыхтуе хто ручной гранаты. За горадам пачаліся панічныя ўцёкі. У нейкай вёсцы патрапілі на засаду: 22 забітыя. У нейкім месцы прыблудзілася да іх паўбатарэі цяжкай артылерыі.: яшчэ сям-там абозы. Уцякалі паўднёвым Палессем праз Оўруч, Сарны, Ковель. Калі дагналі нарэшце сваіх, бацька прывёў з сабою цэлую частку з уласнай артылерыяй, конніцай, інтэндантцвам. Ва ўзнагароду быў вылаяны за тое дзвюхгадзіннае спазненне. Здольнасць да аблівання халоднай вадой энтузіястаў належыць да нашых агульнанацыянальных рысаў, панадладавых і панадкласавых.

Цяпер ён цягнуў на сабе першародны грэх “каталіцызму”. Больш прыязныя легіянеры, калі даведваліся, што ён з расейскай арміі, гаварылі: глядзіце, панства, “католік”, а такі паважны чалавек. Асабліва кепска бацька пачаў пачувацца ў палку, калі яго камандзірам стаў маёр ці палкоўнік Монд, вядомы пазней генерал. Не ведаю, што між імі здарылася, ведаю толькі, што бацька дзень у дзень скардзіўся, што Монд хоча яго прыкончыць.

Восенню першы раз у жыцці я пачаў вучыцца ў чужога. Быў гэта рэпетытар. Вучань, бадай што, васьмага класа гімназіі, высокі, руды, пегаваты яўрэй. Быў вельмі спакойны, стрыманы, някепскі педагог. Думаю, што някепскі, бо добра пра яго ўспамінаю. ¨н вельмі паўплываў на ўсё маё наступнае жыццё. Менавіта ён пачаў вучыць мяне па-польску. І я, нават, не памятаю, як ён называўся. Я хадзіў да яго на заняткі. Гэта была таксама палёгка – выйсці з пакоя, поўнага крыкаў немаўляці, злосці бацькі і кепскага настрою маці. Пасля заняткаў таксама стараўся быць па-за домам. Памятаю Прут, малую, вёрткую рачулку. Вельмі мелкая – нават мне можа па калена. Камяні. Далёка на гарызонце блакітныя пагорачкі. Горад падаваўся мне вельмі прыгожым. Не мог зразумець кпіны старэйшых, калі гаварылі пра Каламыю. Можа таму, што я прыехаў з лахваў і давыдгарадкоў.

Дзве справы займалі ў мяне тут шмат часу: бойкі і забароненыя гульні. Бойкі нашы мелі вялікую перадумову тэрытарыяльную: школа на школу, вуліца на вуліцу. Усё часцей дзяліліся на прынцыпу нацыянальнасцяў. Яўрэі і не яўрэі. Здаецца, што біліся таксама з украінцамі. Ва ўсякім разе з яўрэямі біцца было выгадней: лёгка іх распазнавалі, яны былі пад рукой, ахвотна станавіліся да бойкі, але таксама досыць латва кідаліся на ўцёкі.

**Вільня**

Тым часам адносіны паміж бацькам і Мондам рабіліся ўсё горшымі. Нарэшце бацька знайшоў прычыну і арганізаваў ад’езд з Каламыі. Дапамагла яму ў тым цікавая гістарычная акалічнасць, а менавіта Сярэдняя Літва.

Ведаем, як і для чаго тое ўтварэнне ўзнікла. У той час шукалі афіцэраў, якія паходзілі з Літвы, прынамсі каб стварыць бачнасць асобнасці той жа Сярэдняй Літвы. Бацька, які нарадзіўся ў Панявежы, быў кандыдат, пра якога толькі марылі. Трапіў у 85 полк Віленскіх стральцоў. Была створана, уласна, дывізія з такой назвай. Пазней бацька быў у 77 Ковенскім палку. Быў таксама, здаецца Менскі полк.

Бацька выехаў спачатку адзін, пакінуўшы нас, як звычайна, без граша. Але так было і лепей – прынамсі прыгод не было.

Потым прыехаў па нас. Быў, напэўна, сакавік 1922 года. Ехалі акружной дарогай праз Варшаву. Першы раз я ў ёй быў, не запомніў нічога, акрамя доўгай язды з рамізнікам з аднаго вакзала на другі.

Вільня адразу мяне ўразіла. Пасяліліся на Звярынцы – і то ў самым яго канцы на рагу Фабрычнай і Дзельнай. Тут, уласна, заканчваўся горад. Цераз вокны – мы жылі ў драўляным доме - былі відны пагоркі Каралінкі, лес, млын над ставам. Тут ужо не было нават бруку.

Я бегаў на тых ваколіцах цалкам шчаслівы. Не памятаю, ці меў сяброў. Можа і былі, але не вялікія. Не думаў нават пра “тыя” справы. Каралінка, тыя пагоркі, лясы, Вілія цалкам мяне напоўнілі.

З-пад млына выбіваўся малы ручаёк і цераз камяні спяшаўся да блізкай Віліі. Я лазіў па тых вылунах. Нехта мне паказаў, што пад імі ёсць рыбы. Усадзіў аж па локаць рукі ў халаднаватую ваду. Раз, другі, трэці, скрыпеў пад пальцамі толькі пясок. А потым трапілася слізкае, вёрткае стварэнне. Пры каліве дасведчанасці можна было яго выцягнуць. Гэта былі ўюны, вялікія як меркаваў, бо на цэлую далонь – рыбкі. Прыдатныя нават для смажання. А наогул было там прыгожа. Вілія мела залатое, пясчанае дно, рашуча ў некалькіх месцах паварочвала, прадзіраючыся цераз пагоркі каля найвышэйшага з іх, так зв. Лысай гары, якая ўзвышалася над ракой крутым, гліністым абрывам. Калі паворочвала пад дом, на другім баку віднелася на гарызонце голая гара Шышкіна з класічным профілем, які не саступаў на маю думку Фудзіяме. У горад хадзілі па вуліцах з дзівосна правільнымі назвамі. На Старой былі счарнелыя драўляныя домікі тыпу “дача”, падобныя да тых з 11 Сергіеўскай. У дзікім вінаградзе, у кусціках сярод клумбаў. Сосны былі ўсюды, нават на нашым падворку на Фабрычнай, 41. Усё вакол было свойскае – не так, як у Каламыі. Было прыгожае і свойскае.

Зноў трохі вучыўся. Бацька знайшоў новага рэпетытара. Нейкага Яна Петрака. Гэта быў дваццацігадовы хлопец, толькі што дэмабілізаваны. Вельмі мілы, прыстойны, як мне здавалася, надзелены рознымі здальнасцямі. Рыхтаваў мяне да другога класа гімназіі. Бяда, што сам падняўся не на шмат вышэй, бо быў у пятым.

Восенню паехалі здаваць экзамен у Новую Вілейку. Тут я быў уражаны яшчэ больш.

Было гэта дзівоснае мястэчка, доўгай вузкай маністай расцягнутае на добрыя некалькі кіламетраў паміж малой рэчкай Віленкай і шэрагам досыць крутых пагоркаў, у якіх дажджы і снягі павырывалі яры, выступы, абрывы, надаючы ўсяму ў цэлым выразны падгорскі характар.

З другога боку рачулкі пейзаж быў яшчэ лепшы. Былі там пагоркі, якія ўжо цалкам выдзеліліся з раўніны. У дадатак паросляя прыгожым ялова-альховым лесам.

Гімназія імя Святога Казіміра размяшчалася на самым версе тых забудаваных пагоркаў. Гэта быў невялікі двухпавярховы будынак з жоўтай цэглы. Вельмі мне спадабаўся. Быў нейкі нязвыклы, захаплядьны, поўны няясных абяцанняў новага жыцця, новых знаёмстваў, незвычайна цікавых здарэнняў. Сам не ведаю, з чаго браліся тыя прадчуванні. З самога экзамена не памятаю нічога. Памятаю толькі пах старанна вычышчанага на новы школьны год будынка. Дамінавала ў ім масціка для падлогі, трохі шкіпідару, трохі бензіну. Па сёння той пах асацыюецца ў мяне з чаканнем нечага новага ў жыцці.

**Альбарт**

Экзамен здаў без цяжкасці. Петрак падрыхтаваў мяне вельмі старанна, “на выраст”. Праз нейкі час пасля гэтага бацька канчаткова перабраўся ў  Новую Вілейку, дзе быў сканцэнтраваны яго новы полк, згадваны ўжо 85 полк Віленскіх стральцоў.

Пасяліліся пры казармах, гэта значыць насупраць узгорка, дзе стаяла гімназія, па другі бок рэчкі недалёка ад тых яловых пагоркаў. Там праходзіла дарога, абсаджаная высокімі таполямі. Праз пэўны час над вяршынямі таполяў паказваўся касцёл са стральчастай вежай, які стаяў яшчэ вышэй, чым гімназія. Гэта была прыгожая дарога. Спачатку ішлося лёгка, бо з гары. Даходзіла да рэчкі, перасякала адну вуліцу – і цяпер ішла пад гору, паміж драўлянымі домікамі, аж да гімназіі.

Было мне ў ёй вельмі добра. Увесь другі клас прайшоў з разгону, дзякуючы падрыхтоўцы Петрака. У гадавым пасведчанні меў адны пяцёркі – з адным выключэннем: за спевы мне паставілі чацвёрку. Настаўнікі мяне любілі. Сярод таварышаў знайшоў першага прыяцеля. Адбылося гэта спосабам незвычайна простым, амаль механічным: разам хадзілі ў школу.

Жылі мы пры казармах у доўгім, прысадзістым бараку з цэглы. Бацька атрымаў аж чатыры пакоі, але паколькі мэблі не меў, жылі толькі ў двух першых. У адным з далейшых пасяліўся Петрак. Зрэшты, мною ён ужо не займаўся.

Адразу насупраць уваходу ў барак была сцежка, якая вяла ўніз, да вясковай дарогі. Каля дарогі знаходзіўся невялікі дзяржаўны фальварак, які арандаваў нейкі Садоўскі. Быў там стары драўляны дом, некалькі гаспадарчых будынкаў, вялікі і прыгожы сад. Там жыў мой таварыш падарожжаў у школу, сын арандатара. ¨н называўся Альбарт.

Альбарт быў ніжэйшы за мяне, моцны, вельмі дужы і досыць маўклівы. З сумесных вандровак і блізкага суседства мусіла нарадзіцца сяброўства. Восень была прыгожая. За яго домам поле рэзка спадала да малога ручайка. Мы бегалі там, капалі канаўкі, ладзілі на іх смешныя млынкі з палачкі і прыладжаных да яе накрыж дзвюх трэсак. Гэта было вялікае шчасце, калі такі млынок, захоплены хуткай плынню ручая, звычайна пачынаў круціцца. Потым вакол каналаў будаваўся горад. Наогул там можна было гуляць тыднямі.

На лузе скасілі траву. Мы там лазілі, асцярожна ставячы ногі, на пакосе. Раптам гудзенне. Купінка мху, чорна-жоўтыя, пушыстыя, як мядзведзікі, чмялі. Некалькі гадоў цягнулася гэтае захапляльнае знаёмства. Спрабавалі заснаваць спецыяльную чмяліную пасеку, збіралі хаатычна злепленыя шарыкападобныя соты, хавалі ў пачак. Чмялі паслушна прызвычайваліся да новых памяшканняў. Мы праз саломінку выпівалі іх мёд, салодкі, але не такі густы, як пчаліны. Чмялі і гэта зносілі. Былі дабрадушнымі і безабароннымі. Бралі іх у рукі. Яны не кусаліся, калі іх толькі не прыціскалі. Мы мелі да іх вельмі цёплыя пачуцці, ніколі над імі не здзекаваліся.

За ручаём пачыналіся яловыя і альховыя пагоркі. На тых пагорках раслі пякучыя і дзіўна абрыдлівыя грыбы, якія пахлі падаллю – найстрашнейшыя, ядавітыя, якіх называлі срамотнікамі або бессаромнымі. Аднаго не магу зразумець, як яны маглі трапляць у людскія рукі, і нават у гаршкі! Бо смярдзелі так рэзка, што проста цяжка да іх было падысці.

Яловыя ўзгоркі былі цёмныя, панурыя і ўрачыстыя. На іх было поўна вавёрак. Для гульняў падходзілі надзвычайна. Як, зрэшты, і  ўсё навокал. Дастаткова было мінімальнага павароту нейкага ўнутранага шарыка, і пагоркі станавіліся раўнапраўным адпаведнікам Скалістых гор, ручаёк – Місісіпі, Альбарт - каманчам ці апачам. Уласна, мы знаходзіліся “на індзейскім этапе”.

Але было нешта большае ў тых стэрэатыпных зацікаўленнях. Прыгадваю сабе сёння тыя часы і розныя іншыя, больш познія моманты і даходжу да высновы, што я ўжо ў той час быў моцна ўлюбёны ў прыроду. Выражалася гэта ў розных упадабаннях і захапленнях, сярод якіх “індзейства” было вельмі павярхоўным, неістотным і кароткачасовым. Па тых пагорках мы з Альбартам швэндаліся  цалкам бязмэтава, па-просту, каб імі насыціца. Адзін з іх называўся Напалеонаўская гара. Быццам бы Напалеон на ёй снедаў пасля выступлення з Вільні. Але суседнія пагоркі былі больш крутыя, маляўніча пазарослыя. Мы іх паназывалі таксама. Потым зрабілі цэлую карту гэтай ваколіцы. Была на ёй Небяспечная гара (там якраз раслі тыя бессаромнікі...), гара Вавёрак, гара Альбарта, гары Ежага не было. Адчуваў, што гучала б гэта занадта звычайна. Не тое што Альбарт. У той жа час нашае замілаванне прыродай вельмі спецыфічна сканкрэтызавалася. Швэндаючыся па лугах над ручаём, па яловых загайніках, а ўжо, асабліва, па лясных палянках, поўных кветак, мы знаходзілі шмат насякомых, матылёў, жукоў, конікаў. Зрэшты, вучылі іх на ўроках прыроды. І Альбарт, і я пачалі іх збіраць хаатычна і абы як.

Але ў палку уланаў, які стаяў побач, знайшоўся сапраўдны аматар энтамолаг, нейкі ротмістр Завадскі. Бацька мяне яму прадставіў. Завадскі аглядзеў мае “зборы”, даў пару ўказанняў, параіў выбраць нейкую спецыялізацыю, даў пару кніжак. Я амаль не заўважыў як стаў не слабым спецыялістам.

Па-просту гэтая забава пачала мяне захапляць. Ротмістр збіраў у асноўным сем’і *Cerambycidae* (керамбіцыдаў) і *Carambidae* (карамбідаў) з цвёрдапокрыўных. Натуральна, і я заняўся перш за ўсё гэтым. Усебакова захаплялі мяне рагатыя. Былі гэта жукі з доўгімі вусамі, якія жылі найчасцей у іглістых лясах, на

смалістых пнях, на лясных кветках, на свежых пабегах ёлак, ляшчын, воўчай ягады.

Цяжка паверыць недасвечанаму, колькі ўзрушэнняў можа прынесці табе зусім жоўтае з чатырма чорнымі плямамі стварэнне, якое называецца *Pachuta quadramaculata*. Або шэры, у цямнейшыя крапінкі тапаліны караед, або *Saperda Carcharias*, або цёмны, моцны, мускулісты *Lamia textor*.

Я хутка ўлавіў, што Новая Вілейка з гэтага пункту гледжання з’яўляецца месцам надзвычай цікавым. Падказкі Завадскага навучылі мяне таму, што тут прысутнічаюць віды, якія сустракаюцца ў Польшчы толькі ў Татрах. ¨н даў мне атлас насякомых, кніжачку, якая была бібліяграфічнай рэдкасцю. Цяжка паверыць, але я перапісаў з яе ўсё, што датычыла месца жыцця кожнага па чарзе віду. Вывучыў таксама, як выглядаюць тыя насякомыя, і сёння пасля сарака гадоў патраплю яшчэ з большага акрэсліць, калі не від, то прынамсі род.

У той час, даслоўна, сніў насякомых. Снілася мне, што лаўлю рэдкіх асобін. Сны тыя, зрэшты, пераследавалі мяне доўгія гады. Не толькі сны. Калі на перавале Санкт-Гатард у 1946 годзе знайшоў некалькі новых не вядомых у Новай Вілейцы відаў *Leptura*, завёз іх клапатліва ў Берн і быў на крок ад вяртання той хваробы. Тое самае наведала мяне яшчэ раз праз сем гадоў, над Ніцкім возерам, калі на цвеце кустоў *Spirei* знайшоў невядомы від *Saperdy* і нешта, што падобна было можа на *Strangalia melanura.* Узяў іх з сабой і маю дагэтуль, відавочна, што ў дрэнным стане, і ніякай вартасці яны не маюць.

Калі я сёння разважаю над тым сваім захапленнем і параўноўваю яго з усімі іншымі, якія прыносілі мне прыемнае ў наступныя дзесяцігоддзі, прызнаю, што не знаходжу ніякай істотнай розніцы, калі справа заходзіць пра глыбіню перажыванняў. Знешні імпульс, здаецца мне, іграе ў гэтым ролю другарадную. Вырашае ўмоўная, ўнутраная гатоўнасць да захаплення. Прыгожы пейзаж, прыгожы спартовы вынік, прыгожы паказ калекцыі, удачны адпачынак за брыджам, праход цераз рыфы, перакульванне лодкі, гонка на аўтамабілі, нецярплівая падсечка рыбы на вудачку.

Я нават недалёкі ад вырашэння яшчэ перажыць тое, што прыносяць справы мастацтва. Вагаюся. Не ведаю, ці не ёсць мне бліжэйшая катэгорыя кахання, або палітычнай барацьбы.

У Новай Вілейцы знаў толькі насякомых. Відочна, не адны яны запаўнялі маё жыццё.

**Гімназія**

У школе пасля першага, надта гладкага году неяк пагоршала. У трэцім класе меў шмат чацвёрак. Мы пераехалі ўніз пад самую станцыю. З’явіліся новыя настаўнікі. Кола сяброў пашырылася.

Але пакуль да тога дойдзе, апішам адзін гістарычны выпадак. Аднаго дня, можа яшчэ ў 1922 годзе, бацька прыбег дадому ўзрушаны. Пілсудскі прыехаў, будзе вялікі парад, палявая імша, агляд, урачысты марш. Бацька не ўпэўнены, як пакажа сябе яго батальён, зрэшты, баіцца, каб хто не зрабіў яму свінства.

Памятаю вялікі пляц перад домам, у якім мы жылі. Пазней там зрабілі футбольнае поле. Восень, дзень пахмурны, імглісты. На пляцы доўгія шэрагі войска. Далёка, далёка на другім канцы пляцу – адзінокая, малая фігурка ў блакітнаватым плашчы. Гэта той страшны Пілсудскі. Страшны не толькі таму, што можа адным словам перавярнуць усё дагары нагамі, але і таму, што ўсе блізкія непрыяцелі, якія шкодзяць бацьку, менавіта ў яго знайходзяць апошнюю рацыю і падтрымку, незалежна ад тога, ці тую рацыю наогул маюць.

Глядзеў на фігурку ў блакітным плашчы ўласна з такім нямым, не ўсвядомленым каментарам. Не адчуваў да яе ніякай сімпатыі. Страху таксама – не, была за далёка, падавалася такой малой.

Школьнае здарэнне: вялікі вечар, ужо не ведаю з якой нагоды. Сыгралі нейкую сцэнку. Я дэкламаваў доўгі верш пра патрона гімназіі, святога Казіміра. Як ён не хацеў ісці гуляць з братамі ў вайну:

*... ні меч мне, ні зброя, ані бітва,*
*Хрысце, мільша мне ціхая малітва.*
*Мілей укленчыць ля Твайго трона,*
*Хай жа паможа мне ласка Марыі,*
*Каб не праліць мне крыві нічыей,*
*Сэрца чыстым трымаць да скону.*

Я ніколькі не хваляваўся. Пляскалі. Не памятаю, ці моцна. У агуле, зрэшты, я заканчваў выступленне і быў не ў стане ацаніць інтэнсіўнасць воплескаў. Можа, таму, што гаварыў. Потым дачка мясцовага аптэкара панна Астраменцкая, мабыць, з класа сёмага, прыгожая, вельмі – як мы тады меркавалі разам з панам Петракам – бравурна адспявала: “На поле бітвы чорнай ночы ўлёгся змрок”.

Мела шалёны поспех у старэйшых класаў. Было ў іх поўна вусачоў, падобных на Петрака, якім вайна перапыніла навуку. Настаўнікі, мабыць, іх трохі пабойваліся і стараліся, чым хутчэй, выпхнуць са школы.

Наш клас быў ужо цалкам нармальны, дванаццаці-чатырнаццацігадовыя, я быў адным з наймалодшых.

У трэцім класе акрэсліўся больш выразна расклад сілаў. Мы былі аддзелены ад дзяўчынак. У нашым (III-а) знайшоўся рашучы лідар, нейкі Ежы Дваранчык, які жыў каля станцыі ў двухпавярховым чыгуначным доме. Пасябраваў я з ім інакш, чым з Альбартам, з якім само жыццё мяне злучыла. Бедны Альбарт застаўся ў другім класе. Навука давалася яму вельмі цяжка. Канешне сяброўства з ім я не разарваў, але сам расклад урокаў ужо нас моцна раздзяліў.

Дваранчык быў вельмі начытаны і ўпарта вучыўся. Добра гуляў ў шахматы. Нават пачынаў танцаваць, чым страшна мне імпанаваў. Бо я двух рэчаў ніяк не мог навучыцца: танцаваць і плаваць. У другім, трэцім, чацвёртым – і, мабыць, аж да восьмага класа – адно, што ўмеў танцаваць, была полька. І то, зрэшты, з дзвюмя ўмовамі: толькі ўправа і толькі з хлопцамі. З-за гэтага на школьных забавах станавіўся сейбітам жаху. Раскручаныя, захопленыя імпэтам, мы круціліся, як ашалелыя. Нічога не бачылі, скрут гававы. Вакол нас рабілася пустка. Пазней адчувалі сябе дуркавата і пераможна, што, зрэшты, адно на адно выходзіць.

Зусім іншае Дваранчык. Танцаваў нават вальс. На забавы прыходзіў з белай хустачкай. Быў унікум: не толькі выдатнік, але і “кавалер”. Вельмі мне імпанаваў

“Кавалераў” было шмат – хоць бы тыя вусачы. Але і акрамя іх у старэйшых класах пераважалі такія, сам выгляд якіх узбуджаў ува мне страшную зайздрасць. Такі, напрыклад, Юргялевіч, высокі, франтаваты дылда. Хадзіў у шкураных штыблетах, як нейкі пілот. Я адчуваў сябе перад ім адсталым і безабаронным.

**Другое каханне**

У гэты час перажыў другую, мабыць (пасля нябожчыцы Ніны Осіпавай), закаханасць. Тым разам гэта была вучаніца толькі на клас старэйшая за мяне. Называлася Рамана Богуш. Невысокая, паўнаватая, дальбог, зараз не патрафлю ацаніць, ці прыгожая. Падавалася мне тады цудоўнай. Асабліва чаравалі мяне яе вусны, поўныя, чырвоныя, з нейкім паўсмехам.

Я не размаўляў з ёй ніколі. Яна нават не ведала, як я называюся. Канешне не мела паняцця пра буру пачуццяў, якія ўва мне выклікала. Усё, да чаго быў здольны – гэта чырванець, калі бачыў яе. І не вядома, ці швэндацца, цікаваць, пакуль пакажацца, ці ўцякаць, калі яе ўбачу.

Разпачлівасць сітуацыі ўзмацняў яшчэ факт, што яна належала – ужо не памятаю з якой аказіі – да мясцовых, нававілейскіх “вяршкоў”. Яна бывала ў колах асоб для мяне недасяжных. Той жа, напрыклад, Юргялевіч меў да яе доступ што дзень. І быў нічым не абмежаваны.

У той безнадзейнай сітуацыі я з усіх сілаў шукаў нейкага спосабу, каб дараўняцца да Юргялевіча. Безумоўна, гэта быў адзін са штуршкоў, якія мяне папхнулі – пасля маці і яе мараў пра душу Талстога – да напісання вершаў.

Вершы былі вельмі кепскія. Кавалкі з іх памятаю і да сёння. І без крыўлення душы сцвярджаю, што яны не прадвяшчалі і крошкі таленту. У дадатак жарсць кахання, якая тузала мяне, была іх адзінай тэмай. Мне падавалася, што ў такім выпадку непазбежным ёсць ужыванне фразеалогіі, як найбольш драматычнай (сёння сказалі б: “крайняй”). Але і сталася: тое, што ў іх было найбліжэйшае да меладрамы, аказалася найхутчэй прарочым.

Рэчка Віленка была хуткая, звілістая і мелкая. Тамсям былі ямы і віры, але наогул яна здавалася лагоднай. Толькі каля вакзала набіралася павагі – была там перагарожана дамбай і ўтварала сапраўдны стаў, над якім стаяў дом маіх аднакласнікаў Ілюковічаў. Нават на некалькі кіламетраў вышэй адчуваўся ўплыў той дамбы, рэчка была больш глыбокая і павольная.

У першае нававілейскае лета напаткала мяне там другая па чарзе прыкрая прыгода. Купаліся. Я плаваць не ўмеў. Сам не ведаю, як аказаўся на глыбіні, невялікай, але “дастатковай” – вяршок галавы выступаў з вады, губы і нос – ужо не. Было гэта некалькі метраў ад берага. Іншыя ўжо вылезлі і апраналіся, у вадзе я застаўся адзін.

Што за жудаснае адчуванне! Калі мне пачало бракаваць паветра, калі павольная плынь пачала плаўна зносіць мяне ўсё далей, спрабаваў крычаць. Усе прыяцелі былі так блізка, глядзелі на мяне, жартавалі. Думалі, што гэта жарт. Канешне выглядала гэта смешна. Я падскокваў на дзесяць сантыметраў, выцягваў губы, глытаў трохі паветра, але крыкнуць ужо часу не было, бо зноў пагружаўся па самы чуб.

На беразе быў наш ардынарац. ¨н ужо нацягваў кашулю. Я глядзеў на яго з нямой просьбай. ¨н спахапіўся першым. Калі я выскокваў з вады, ён нацягваў кашулю на галаву. Калі я ішоў пад воду, спрабаваў яе зняць.

Што за мука – тануць на вачах усіх і не магчы нават крыкнуць аб паратунку.

Нарэшце хлопец дайшоў да слушнай высновы: задоўга працягваюцца гэтыя мае падскокі, каб быць жартам. Адкінуў кашулю. Праз хвіліну я ляжаў збялелы на беразе. Была гэтая прыгода менш сур’ёзная, чым на Піне, але значна больш мяне мучыла. Прыйшла зіма; як ужо гаварыў - закахаўся, упаў у меладраматычнае шаленства. Багушоўна – як гэта належала кожнаму з вышэйшага свету – што вечар хадзіла на каток. Там жа, каля Ілюковічаў. Сярод яе кавалераў выдзяляўся смуглы, элегантны Юргялевіч. Я здалёк прыглядваўся да яго элегантнага выгляду, грацыі і добрых манераў. Ездзіць на каньках я не ўмеў. Стаяў каля плоту, каб не плаціць за ўваход, і марыў: лёд прыломіцца, Юргялевіч уцячэ, я ў той жа час кінуся і выратую прыгожую Рому. Быў у гэтай фабуле значны грунтоўны недахоп, перш за ўсё я не ўмеў плаваць. Але грунтоўнасць ў марах не абавязковая.

І адбылося ж сапраўды так, як марыў. З раніцы быў вялікі іней. Я ішоў тапалёвай алеяй, гледзячы, як звыкла, на смутныя сілуэты касцёла ў пушыстай, белай аблямоўцы тапаліных вяршынь. Было холадна.

У школе застаў вэрхал. Учора вечарам на катку здарылася катастрофа. Лёд праламаўся якраз пад парай Багушоўна-Юргялевіч. ¨н быў шустры, здалеў выскачыць. Багушоўну шукалі цэлую ноч. Нарэшце яе выцягнулі.

Заглянуў у пакой, дзе яна ляжала. Мела сінія губы. Падалася меншай, таўсцейшай, была некім цалкам іншым.

Я не пайшоў на пахаванне. Сядзеў дома. Напісаў толькі верш. Быў ён таксама меладраматычны, як папярэднія. Стрэс, які я перажыў, ані на ёту не адбіўся на тым, што я пісаў. Ані кроплі маёй роспачы не ўдалося перадаць вершам.

**У Смалічах**

Другія нававілейскія канікулы – гэта было маё першае самастойнае падарожжа. Не ведаю як, але трапіла да нас запрашэнне ад сваякоў са Смалічоў. Паколькі я вучыўся някепска і трохі дапамагаў па доме, даглядаючы па некалькі гадзін што дзень сястру, маці дайшла да высновы, што заслужыў на ўзнагароду. З вялікай радасцю я выбраўся ў далёкі свет.

Перш, чым трапіць у Смалічы, я высадзіўся ў Нясвіжы. Смутныя абрыўкі ўспамінаў падказваюць, што гэта быў ціхі, мілы, досыць чысты гарадок. Затрымаўся ў адной з цётак, якая была ў Нясвіжы настаўніцай.

Канешне, яна адразу паказала мне радзівілаўскі замак. Памятаю муры, браму, дзядзінец, акружаны некалькіпавярховым палацам, ад чаго дзядзінец рабіў уражанне маленькага. Наймацней падзейнічалі па мяне ставы, якія рабілі з замка выспу. Ставы былі не толькі вялікія, але і поўныя дзікіх качак, якія ніколькі не баяліся людзей, таму што паляванне на іх было забаронена.

У Смалічы ехалі коньмі. Двор аказаўся маленькі, пабелены, утульны. Вакол быў вялікі сад, які часткова ўсыхаў ад старасці. Было запозна на вішні і чарэшні, зарана – на яблыкі і грушкі. Толькі пад высокімі сапянжанкамі можна было знайсці невялікія, усе патрэсканыя, плады. Былі, зрэшты, вельмі смачнымі.

У Смалічах жыла нейкая мая далёкая кузінка, у тым самым больш-менш веку. Гэта значыць, ці старэйшая за мяне, ці больш сур'ёзная. Я трымаўся розных жартаў, а яна была больш схільная да паважных размоў. Не памятаю нават, ці была прыгожай. Была майго росту. Я меркаваў, што яна мяне не любіць. Адным са сведчанняў таго было ўпартае павяртанне яе да аднаго таго ж самага: што мы паміж сабой не ёсць кананічна крэўнымі. Я тлумачыў гэта сабе, што саромеецца мяне, што ёй прыкра мець такога кузіна. З пэўным (дзесяцігадовым) спазненнем даведаўся, што абазначае кананічная крэўнасць. Што ж рабіць, ніколі ўжо яе не спатыкаў.

Значна мацней падзейнічала на мяне іншае спатканне. За садам былі падмоклыя лугі з вербамі пры равах. На адной з іх злавіў цудоўны экзэмпляр *Aromia moschata*, ці па-польску *пахучкі піжмовай*, залаціста – зялёнага жука з доўгімі вусамі, які канешне пах піжмаю. Цікава, другі такі экзэмпляр трапіўся мне толькі ў ліпені 1956 года, падчас VII пленуму, у садзе насупраць Бельвядэру.

Паехаў са Смалічоў вельмі задаволены і гаспадарамі, і самім сабой. Але праз некаторы час яны прыслалі ліст да маці, у якім мае пачуцці не былі пацверджаны ўзаемна. Сказана было, што я, аказваецца, кепска выхаваны. Як довад падавалася, у т.л., што падчас абеду я сам папрасіў дабаўкі заміж таго, каб пачакаць, пакуль мне яе, магчыма, прапануюць. Быў азадачаны тым лістом, але маці стала цалкам на мой бок, кісла адказваючы сваякам. Справа была не толькі ва ўражаных амбіцыях. Маці была вялікай непрыяцелькай стылю стасункаў, які грунтаваўся на цырыманіяльнасці, вечных прабачэннях, дзякаваннях, "падаю ў ножкі", "цалую ручкі" і г.д.

У выніку тая спроба разрадкі не выгарала. Не хочучы таго, я вярнуў стан халоднай вайны ў сваяцкім клане.

У чацвёртым класе я яшчэ працягваў вывучаць бібліятэку майго прыяцеля Альбарта. У нейкіх страшна закураных шафах стаялі цэлыя шэрагі зялёных і бронзавых кніг. Гэта была "Усеагульная гісторыя" Цэзара Канту. Я браў том за томам і ў такой паслядоўнасці, у якой мне яны траплялі пад руку, што не заўсёды супадала з іх парадкавай нумарацыяй. Пасля гісторыі італьянскіх княстваў эпохі Адраджэння без найменшага перапынку падаў у гісторыю Навававілонскай дзяржавы, ад Зіпанг-го пераскокваў у XIX егіпецкую дынастыю, зачапіўся за дзяржаву ацтэкаў, быў у Скандынавіі эры Вялікіх саг. Найлягчэй бы мне было аднавіць чарговасць вывучэння паводле тэматыкі паэмаў, якія па чарзе пладзіў. Як ужо ўспамінаў сяды-тады, пасля "Арабаў у Іспаніі" напісаў паэму "Атон і Часлава", апяваючы тую чэшска-нямецкую пару каханкаў за часы бітвы пад Белай Гарой. Часлава – мабыць, дзякуючы чарговаму каханню. Бацька купіў мне ў той час малакаліберную спартовую стрэльбу. На яе прыкладзе я выразаў імя "Часлава". Канешне, і яна пра гэта нічога не ведала. Цяпер, у гэтую хвілю прыпомніў сабе яе прозвішча: Аўгустын. Была, канешне, старэйшая за мяне, і бачыў я яе ўсяго два ці тры разы.

Цэзар Канту на ўсё жыццё пакінуў мне слабасць да гісторыі, асабліва да таго ў гістарычных падзеях, што можна было б назваць фабулай. Такія, як войны, драматычныя здарэнні, перавароты, узлёты і падзенні вялікіх. Юстыніян і Белізар, каралі Вестготаў, гісторыя нашэсця Атылы, бітва на каталонскіх палях і заняпад Рымскай імперыі – усё гэта я ўспрымаў з не меншай ахвотай, чым моладзевыя гістарычныя аповесці. Дзівіўся патроху, што ніколі нідзе не спатыкаў прозвішча Цэзара Канту. Хіба аўтар трыццаці тамоў гісторыі чалавецтва быў навуковым графаманам?

З іншых кніжак у Альберта знайшоў "Гана з Ісланды". Як жа ёй захапіўся.

Таксама Трылогія стала цяпер маім захапленнем. У той час было дастаткова, каб хто прачытаў адну сцэну з "Патопу", і я мог не толькі сказаць, з якога гэта раздзелу, але і працягнуць адрывак далей.

Маці досыць часта купляла літаратурныя выданні белых расійскіх эмігрантаў. Чытаў палітычныя памфлеты Арцыбашава, які ад апявання похаці і ніцшэанскага героя перайшоў на заядлыя антыбальшавіцкія фельетоны. Чытаў таксама альманахі чыста літаратурныя, якія выдаваліся ў Празе, Рызе, Парыжы. Былі там вершы Буніна, які мне падабаліся і Марыны Цвятаевай, якія мне не падабаліся. З вялікай лапшывасцю чытаў юнацкія ўспаміны Неміровіча-Данчанкі, напэўна з-за досыць нявінных эратычных акцэнтаў.

Быў ва ўзросце, у якім тая частка спраў ужо цікавіла, калі на яе натыкаўся. Аж да нейкага шаснаццатага году былі гэтыя зацікаўленні хутчэй другараднымі. Ад петрыкаўскіх часоў меў некалькі перыдаў, у якія гэтыя справы займалі маю ўвагу. Кожны раз гэта супадала з нейкай ініцыятывай знутры і прападала само па сабе, не трапляючы на т.зв. "падатны грунт" у падлеткавай свядомасці хлопца.

Адметным было аддзяленне гэтай часткі перажыванняў ад часткі сентыментальнай. Усе мае закаханні адрознівала абсалютная, да немагчымасці, платанічнасць. Гэта, зрэшты, працягвалася ўвесь падлеткавы ўзрост, і яшчэ праз дзесяць год шкодзіла ва ўсіх студэнцкіх заляцаннях.

Каляжанкі тлумачылі гэта тыпова: альбо быў нявтлівы, альбо занадта ўздыхаў. Занадта, гэта значыць дэманстратыўна. Гэта павінна было бянтэжыць дзяўчыну, бо прыцягвала ўвагу атачэння. Шанаванне з боку аб'екта нецікавага, які не ўмее танчыць, брыдкага, а яшчэ і малодшага, не прыносіць гонару паненцы.

Што крок рабіў "крок фальшывы" або "faux pas", часта не здаючы сабе з таго справы. Падчас адной агуль-

нашкольнай забавы, у перапынку паміж танцамі, мы гулялі у нейкую гульню, якая заключалася ў выбары ўсляпую. Ішоў пад руку з адной з каляжанак (таксама мне падабалася, але не вельмі, глядзела на мяне зверху) і гаварыў ёй: "Я буду лук, а каляжанка будзе стралой". Уся школа смяялася з мяне добрых некалькі месяцаў. Не паверыце, але і цяпер праз доўгі час не разумею, з чаго яны смяяліся.

**Вышамірскі**

Аднак у чацвёртым класе маё класнае становішча ўмацавалася. Мы атрымалі новага настаўніка польскай мовы і літаратуры. Быў гэта малады, досыць прыстойны пан у пенсне. Яшчэ не пачаў піць, яшчэ не здабыў сабе вядомасці, як адзін з найлепшых польскіх фельетаністаў, тэатральных крытыкаў, перакладчыкаў. Называўся Ежы Вышамірскі.

Амаль што на першым уроку нехта крыкнуў, што і мы маем паэта. Я, папхнуты суседзямі, устаў. Ведаў ужо што Вышамірскі – паэт "сапраўдны", таму зніякавеў больш, чым належала. Вышамірскі папрасіў мяне, каб паказаў яму што-небудзь з "даробку". У гэты час я пісаў трынаццацігукавай страфой драматычны твор пад назвай "Смерць Гектара". Прынёс сшытак. На адным з наступных урокаў Вышамірскі аддаў мне "драму", вельмі сардэчна сказаў пару слоў і нават пацалаваў у лоб. Я быў зацверджаны ў ролі класнага паэта. ¨сць такая пасада ў кожным сур'ёзным класе побач з пасадай дурня, кавалера, лепшага спарцмена, выдатніка.

Я маю найцяплейшыя ўспаміны пра Вышамірскага з гэтага чацвёртага класа. Можа яго зычлівае ўспрыняцце маёй пісаніны паўплывала на тое, што ўсё, што ён гаварыў пра літаратуру, я ўспрымаў ахвотна, лёгка, з даверам і цікавасцю. Але не толькі гэта адыграла ролю. Што значыць кепскі настаўнік літаратуры, меў аказію неўзабаве даведацца.

Быў гэта 1924 год. Праз 27 гадоў знаёмства даволі далёкага, але заўсёды прыязнага лёс сутыкнуў нас у вельмі непрыемнай сітуацыі. У Лодзкім аддзяленні Саюза літаратараў пачаліся п'яныя здарэнні, Лодзкія пісьменніцкія ўлады не маглі з тым нічога зрабіць. І вось па іх просьбе галоўнае кіраўніцтва паспрабавала пагаварыць з асноўнымі "героямі". Вышамірскі належаў да іх таксама. У сваёй ролі генеральнага сакратара я мусіў браць удзел у той "выхаваўчай" акцыі – і ў галоўнай ролі. Страшна дурнавата сябе адчуваў. Не таму, што быў "выхаваўцам" наогул, а таму што для Вышамірскага канкрэтна. Гэта мне было не вельмі да спадобы, бо нічога не памятаю акрамя сваёй ніякаватасці. Вышамірскі на той час меў ужо хваробу, якая прыкончыла яго праз некалькі гадоў. П'янства для яго было ўжо толькі ўцёкамі.

Што яшчэ з Новай Вілейкі? Бойкі зімой, "снежкі". У трэцім класе біліся з чацвёртым. Апорай іх быў страшны дылда Камянецкі. Памятаю свой страх перад ім і нявавісць, памятаю сваё ўяўленне пра таго хлопца, як пра носьбіта ўсякага зла: сілы, хітрасці, бязлітаснасці. У чацвёртым класе Камянецкі застаўся на другі год. Пазнаёміўся з ім бліжай. Аказаўся выключна прыстойным, спакойным, справядлівым. Належаў да тых асілкаў, якія сваю перавагу над іншымі выкарыстоўвалі не для прыгнёту с лабейшых, а для іх абароны перад меншымі асілкамі. Яго перавага была звыш неаспрэчнай, каб мусіў яе сцвярджаць у сутычках з былым смаркачом.

Сястра. Першыя два гады меў з ёю шмат клопатаў. Павінен быў вазіць яе, з каляскай цягацца па ваколіцах. Гэта было найменш прыемнае з усяго, чым стала для мяне Новая Вілейка. У апошні год і яна настолькі падрасла, што бегала сама.

Але з бацькам пастаянна было кепска ў тым войску. У 22-м ці наступным годзе быў ён камандзіраваны на курсы камандзіраў батальёна ў Рымбартове. З гэтай нагоды ў наступныя гады мы мелі дома стосы штомесячніка "Балёна" ("Bellona"), у якіх я вышукваў гісторыі асобных кампаній і бітваў. Галоўным чынам Сусветнай вайны. Некаторыя чытаў па столькі разоў, што да сёння сёе-тое засталося ў памяці: гісторыя ўзяцця Леадыюма ў 1914 годзе ці Італьянская кампанія Напалеона. Але і "Балёна" не шмат зрабіла. У Каламыі "з'ядаў" бацьку Монд. Тут жа прычапіўся таксама легіянер, камандзір корпуса ў Гародні, генерал Карашэвіч-Такарэўскі. У чым там была справа, не ведаю. Дастаткова таго, што бацька не бачыў перад сабой перспектыў, і сам вырашыў апярэдзіць праціўніка: калі яму прапанавалі перайсці з лінейнай службы на адміністратыўную, скарыстаўся з нагоды, і ў 1925 годзе быў пераведзены ў Ліду на пасаду каменданта тамашняй Павятовай камендатуры папаўненняў (начальніка Павятовага ваенкамата) ці PKU. Летам таго ж года, пасля заканчэння мной "з адзнакай" чацвёртага класа, мы ўсе пераехалі ў Ліду.

**Ліда**

Першае ўражанне было фатальнае. Пасля прыгожага, узгорыстага і лясістага пейзажу Новай Вілейкі Ліда выглядала жахліва. Плоская раўніна, бруднае малое паселішча,уціснутае паміж трыма вялікімі балотамі, зарослымі вольхамі, поўнымі гарластых варон. Бедныя яўрэйскія крамкі. Смурод пасля тысяч конных вазоў, якія загароджвалі увесь, злітуйся Божа, цэнтр горада ў гандлёвыя дні. Заміж прыгожай Віленкі – малая, здрадлівая Лідзейка, уся ў чароце, недаступная, бо вілася ў балотах, гразкая і пякельна халодная.

Другое і трэцяе ўражанне не былі лепшымі. У цэнтры горада два касцёлы і два кінатэатры. Насупраць меншага, які называўся "Эдысон" – цукерня з назвай "Амерыка". Тут да галоўнай вуліцы Сувальскай пад прамым вуглом далучалася другая – Трэцяга Траўня. Вяла яна міма што раз меншых домікаў да паўвёскі, якая называлася Слабодка. Адтуль стары тракт, засаджаны старымі бярозамі яшчэ, бадай, пры Кацярыне, ішоў праз Скідзель на Гародню.

Сувальская таксама заканчвалася вёскамі, якія выконвалі абавязкі прадмесцяў. На поўнач ляжала Закасанка. Тудой ездзілі цераз Бастуны, Воранава, Беняконі і яшчэ некалькі, смакавіта названых станцый, на Вільню. Паўднёвы канец меў сваё прадмесце без назвы, раскіданае па некалькіх вулачках. Тут ішла дарога на Наваградак і Баранавічы. Незабаве я меў пазнаёміцца

з ёй вельмі блізка.

Бацька наняў для нас памяшканне па другім паверсе аднаго з драўляных домікаў пры вуліцы Сувальскай, бліжэй да Закасанкі. Што гэта быў за горад – няхай засведчыць наш падворак. Пачынаўся ён каля галоўнай вуліцы Насупраць быў дом Вітажэнцаў, драўляны, аднапавярховы. За ім адразу было балота, рэчка Лідзейка і ўжо нічога болей, палі. Наш падворак заканчваўся вялікай кучай вольхаў, якімі зарасло другое балота. За ім была пустая гарадская паша, якую называлі Выган. І ўжо канец горада. Вельмі далёка – можа за паўтара кіламетры – некалькі асобных гаспадарак. Каля на Маладзечна, каля на Вільню, якія перасякаліся, далей яшчэ казармы, так званага Сім-Сім, або 77 палка пяхоты Ковенскіх стральцоў, якія хадзілі з мядзведзем - гербам Коўні - на пагонах.

Такім чынам – тры вёскі, злучаныя паміж сабой нітачкамі дзвюх паўгарадскіх вуліц. У сярэдзіне было яшчэ некалькі вуліц меншых, вельмі брудных і бедных, дзе жылі ў асноўным яўрэі. Была яшчэ чацвёртая вёска, найцікавейшая, якая называлася Маргі. Зачапілася яна за вуліцу Трэцяга Траўня, але заставалася звычайнай вёскай з "жураўлямі" пры студнях, з крытымі саломай хатамі", хлявамі, "свіронкамі" ці жытніцамі, са сваёй чарадой жывёлы, якую ганялі на блізкі Выган. Адзінай саступкай на карысць горада было электрычная святло і прыезджыя гімназісты, якія стаялі "на пастоі".

Не, гэта ўсё было брыдкае, сумнае, нецікавае. Першы раз у жыцці перажыў хваробу, якая мне потым столькі надакучвала, г.зн. настальгію. Цікавай была яе перадумова. Мы прыехалі летам. Школы не было, я меў шмат часу для сябе.

Канешне пачаў са сваіх казюрак. Але блізка ад горада лесу не знайшоў. Калі ж пасля цяжкай вандроўкі да яго дабраўся, аказалася, што гэта брыдкі сасновы лес, што ў ім нічога няма акрамя банальнага *Leptura rubra.* Як я шкадаваў стромаў Гары Альбарта, цёмных яловых лясоў, алешын гары Небяспечнай, усяго прыгожага сусвету Новай Вілейкі. Снілася яна мне з ночы ў ноч.

Пэўным суцяшэннем стаў футбол. ¨н у той час пачаў як раз інтэнсіўна развівацца. Аднаго дня паслалі мяне на агляд да лекара. Той прызнаў пэўнае недаразвіццё сэрца і прапісаў спорт. Бацька купіў мячык. Дадам, што за кароткі адрэзак часу план лячэння я перавыканаў, пэўна, на сто працэнтаў. Праз год новы медычны агляд паказаў, што я маю ўжо сэрца расшыранае звыш меры.

Мяч аказаўся найлепшым спосабам уваходу ў мясцовае асяроддзе. Пасля прыезду я ведаў толькі двух сыноў нейкага знаёмага бацькі, Талейкі. З імі і пачалі ганяць свежанькі, жоўты, як кайзерка (булачка) мячык, насупраць іх дому, на вялікім кавалку поля каля праваслаўных могілак. Ужо пасля некалькіх удараў сабралася вакол кампанія. Толькі браць і выбіраць.

Астатняе рэгулявалася спосабам незвычайна дакладным. Два найлепшыя гульцы станавіліся адзін насупраць другога і па знаку пачыналі збліжацца, ставячы ступню пры ступні. Той, хто пакрываў сваёй падэшвай абутак супраціўніка меў права першынства ў выбары. За ім выбіраў другі. Так па адным вычэрпвалі ўсю групу гульцоў. Быў у тым апрача клопату пра справядлівы падзел сілаў таксама спецыфічны маральны стымул: кожны стараўся згуляць так, каб у будучым яго выбіралі ў першую чаргу.

Я, як гаспадар мячыка, карыстаўся прывілеем выбіраць іншых, ствараць каманду. Сам я гуляў найчасцей у атацы – гэтая спецыялізацыя цанілася найвышэй з пагляду на магчымасця біцця па варотах. Тэхніка гульні не была высокай, затое тактыка была нічога сабе. Форвард стараўся, каб "абвесці" каго-небудзь, абаронца – каб выбіць мяч, як мага, далей. Словам, гулялі з большага так сама, як сённяшнія каманды з футбольных лігаў.

Канец канікулаў ганялі мяч з незвыклай заўзятасцю. Ішоў з дому ў бок Закасанкі. Калі за паўкіламетра ад поля далятала да мяне першае рэха ад удараў мяча, нешта мяне падштурхоўвала да бегу, не мог дачакацца хвілі, калі станем насупраць, калі кінемся да мяча.

Дзякуючы гэтаму, як гаворыцца, я ў гімназію імя гетмана Караля Хадкевіча прыйшоў "са знаёмствам". У самім маім класе (V-b) меў некалькі футбольных партнёраў, напрыклад Мантэя, якога звалі паўнемцам, бо ён сваё прозвішча тлумачыў: *чалавек – гарбата*, і здавалася, што вельмі гэтым ганарыўся. Старэйшы з Талейкаў, Віталь, быў на клас малодшы. Праз год яны выехалі з Ліды. Толькі нядаўна знайшоў яго прозвішча ў варшаўскай тэлефоннай кнізе.

**Імя Хадкевіча**

Пяты клас быў у гімназічнай філіі. Яна размяшчалася пры адной з кароткіх і вузкіх вулачак, якія адходзілі ад Сувальскай і ўжо праз некалькі дамоў утыкаліся ў бліжняе балота. Быў гэта цесны двухпавярховы дом з цэглы. Класы былі невялікія, парты стаялі адна пры адной. Праходы паміж імі былі вузкія, кафедра напірала на першую з лавак, словам нязручнасцяў было вышэй галавы. Вучыліся тут мужчынскія класы ад першага па пяты. Тры старэйшыя – агульныя – і жаночыя класы размяшчаліся ў т.зв. галоўным корпусе, на вуліцы Трэцяга Траўня.

Кожны пачатак новага школьнага году рэч захапляльная, новая. Тым больш цяпер, калі ўся школа новая.

Настаўнікі. Ад пятага класа да атэстата нашым выхаваўцам быў матэматык Калісевіч. Малы, дробны, хваравіты. У акулярах у цёмнай аправе. З трохвугольным тварам – някепска ведаў свой прадмет, асаблівых свінстваў не рабіў, надмернай любові ўзбудзіць таксама не ўмеў. Не прыпомню сабе ні аднаго здарэння, у якім бы ён выступіў канкрэтна як выхаваўца. Быў шэры, не запісаўся ў маёй памяці нічым спецыяльным.

Зусім іншы, напрыклад, лацініст Какатовіч. Галілей, г.зн. нашмат больш рухавы за нашых шаноўных красавякаў. Гарачы аматар мовы Гарацыя, умеў падрастаючым балбесам прышчапіць, калі не любоў да лаціны, то, прынамсі, трохі павагі. Акрамя таго, здаецца, быў трохі марфіністам, моцна – філатэлістам. Недзе ў сёмым класе я пажартаваў над ім. Я таксама збіраў маркі. На 1 красавіка выбраў са сваёй калекцыі ўсё, што толькі ўяўляла сабой сапраўдную паштовую марку. Розныя "скарбовыя аплаты", маркі "На польскую мацеж школьную", якія прадаваліся на 3 Траўня і былі

наклееныя на вітрыны, і да таго падобнае смецце. Сабралася іх добрыя кучка. Паклаў у канверт, дадаў некалькі слоў друкаванымі літарамі: *“Munera placent homines-que deosque”* і паслаў Какатовічу. ¨н быў нечувана абрадаваны і хваліўся перад класам, што мае такіх высакародных вучняў. Па-першае, ведаюць лаціну. Па-другое, маюць пачуццё гумару, па-трэцяе – пачуццё такту. Гаварыў, што невядомы вінаваўца здарэння, каб яго Какота не пакрыўдзіць, мэтава змяніў цытату. У арыгінале “стаяла”: *capiunt* г.зн. – *з’ядноўваю*, вульг. *падкупляю*. Невядомы вінаваўца ужыў версію нашмат больш лагодную: *placent*, г.зн. – *падабаецца*.

Невядомы вінаваўца паняцця не меў пра тыя тонкасці. Па-просту цытата трапіла мне ў рукі недзе выпадкова ўжо ў сваёй тактоўнай форме. Кокат вельмі каля мяне хадзіў, напэўна, нешта здагадваўся. Я не паддаўся. Таму што не быў абсалютна ўпэўнены ў яго пачуцці гумару.

У малодшых класах лаціну вучыў нейкі Барэцкі. Быў ён здаецца экслегіянерам. Невысокага аўтарытэту ў дырэкцыі школы, бо піў, гаварыў глупствы, іграў ролю *душы чалавека*. Добра характарызуе яго плюсы і мінусы гісторыйка, якая здарылася ў мяне з ім у Вільні, ужо падчас майго навучання на філалагічным факультэце.

Я быў на другім годзе, г. зн. ужо пасля апісальнай граматыкі. Аднаго дня спатыкаю Барэцкага. Той расхваляваны, не ў сабе. “Што здарылася?” – пытаю. “Ба, мушу здаваць экзамен, астатні тэрмін, шарыкі з мяне высыпаліся.” “З-за чаго?” “З-за апісальнай граматыкі.” “Гэта ж так лёгка,”- гавару. - Што зноў тая халерная фанетыка? Але ж, пан прафесар, нічога лягчэйшага!” Барэцкі махнуў рукой: “Тыя пярэднія, сярэднія, заднія, зваротнашчылінавыя цалкам пагубіліся.” Я раблю яму карэкцыйнае *stante pede*. “Выбуховыя: *k, g, t, d, p, b...”* Барэцкі акрылены: “Дзякуй, дзякуй, як бы тут іх запомніць?...” Паўтараю: *“K, g, t, d, p, b...”* “Ужо ведаю, - крычыць Барэцкі, - *у каго тут дупа баліць...”*

Пасля гэтага пачырванеў, што, зрэшты, нічога не даказвае.

Быў натураліст Руткоўскі. У кожным класе ёсць вучань-недарэка. У кожнай школе ёсць настаўнік-недарэка. У першыя мае гады ў Лідзе тыя функцыі без канкурэнтна выконваў Руткоўскі. Стараваты, тоўсты, у пенсне. З нечым такім, што было ні то бародкай, ні то вусамі. Быў ветлівы, безабаронны, напэўна варты літасці, што ж, калі падлеткі зусім страцілі тое пачуццё і не хутка яго знаходзілі. Яго ўрокі былі бесперапынным конкурсам авантур і жартаў. Звычайным нумарам быў адказ *par personne interposee*. Што ўрок некалькі сарвігалоў уцякала з урока, калі Руткоўскі выклікаў некага з іх, выступаў спецыяльна прызначаны дзяжурны і адказваў тое, што было зададзена.

Я павінен быў адчуваць да яго сімпатыю: і па прыродзе, і па геаграфіі меў у яго круглыя пяцёркі. Але максімум, што мог з сябе для яго выціснуць – гэта было толькі трошкі літасці. Падсвядома адчуваў: нікольні яго тая прырода не цікавіць, намнога менш, чым лаціна Какатовіча. Цікавілі яго толькі тыя некалькі злотых: дабыць да вясны ці лепш да восені. Не хапала яму яшчэ некалькі гадоў да пенсіі. Бядак, не дачакаўся, памёр, бадай што, ці не ў наступным годзе.

Выдатныя дыпламатычныя здольнасці я паказаў я на першым уроку спеваў. Ад пачатку, ад другога класа ў Святога Казіміра кепска мне той прадмет даваўся: па ўсім меў пяцёркі, па спевах толькі чацвёрку. У Лідзе спевам вучыла нас панна Калакшо. Чатыры элементы, якія яна ў сабе яднала: бяздарны спеў, прозвішча, небяспечна блізкае да *калошы*, нарэшце яе паненства (была незамужняя) і выгляд (была нізкая, белабрысая, мела нялюдска вылупленыя вочы і тры або чатыры падбародкі) аддавалі яе на бязлітасны пераслед з боку вучняў. Наапавядалі мне пра яе кучу цудаў; калі прыйшла на першы ўрок, сам яе выгляд выклікаў у мяне крытынскую ахвоту парысавацца перад класам. Калі мяне выклікала, адказаў:

- Я гэтага не ведаю, прашу паставіць мне двойку.

Па класе прабег шумок прызнання. Такога стылю хуліганства тут яшчэ не зналі. Калакшо засычэла. Без пытанняў, знявага была звыш відавочнай. Двойкі мне, аднак, не паставіла, толькі выгнала за дзверы.

“Мары” мае споўніліся праз паўгода. Двойку ўсё ж паставіла і два найбліжэйшыя гады пры аказіі дэманстравала ў адносінах да мяне найгоршыя пачуцці. Канец той халоднай вайне паклаў сёмы клас.

Гімнастыку ў нас вёў нейкі Кіпан. Быў гэта дзіўны, безумоўна гістарычны экзэмпляр. Высокі, худы, негаваркі, шэры, здаецца без сярэдняй адукацыі. Раз на год расцвітаў як магнолія: на Трэцяга Траўня. Ішоў тады ў фантастычнай рагатыўцы без казырка, але з сакаліным пяром, у вельмі прыгожай, не ведаю, як гэта называлася – ці не чамары, словам у такой нейкай куртцы, зверху шэра-зялёнай, але надбітай малінавым, накінутай на плячо, якая трымалася на шыі з дапамогай спецыяльнай сістэмы шнуроў і гузікаў. За ім маршыравала яшчэ некалькі, а можа і больш за дзесяць егамосцяў, прыбраных падобна, хоць і больш сціпла. Было гэта лідскае прадстаўніцтва Сокала, правадыром якога і быў Кіпан. Яго сакаліныя прывязанасці вялі да яго скептычных адносінаў да футболу – адтуль і да мяне ён асаблівай любоўю не пылаў, зрэшты, з поўнай узаемнасцю.

Настаўніка малявання папросту не памятаю. У малодшых класах вучыла гэтаму тая самая панна Калакшо. Мяне тое абмінула. Але побач са спевамі была гэта мая другая ахілесава пята: ніякіх здольнасцяў, ніякіх зацікаўленняў.

Але гэта ўсё другараднае. Першапланавых “настаўнікаў” мы мелі ў тыя гады двух.

Паланіст Неснар, галілей, як і Какатовіч, належаў да зусім іншай сацыяльнай катэгорыі, чым шаноўны, хоць і хітры гарацыянін-філатэліст. Неснар – гэта быў мясцовы арбітр элегантнасці. Унутраныя перадумовы меў пасрэдныя, невысокі, лысаваты. З бякла-блакітнымі вачыма. Затое заўсёды пад гальштукам-мушкай, моцна прыпудраны, з пахам незаменнага трыццаць гадоў таму назад шыпру. Неснар вылучаўся на балях школьных і гарадскіх. Бо ён адзін з нямногіх цывільных намагаўся быць на адной назе (танцавальнай) з боствамі Ліды, афіцэрамі-пілотамі 5 палка. Спусташэнні, якія чыніліся імі ў жаночых класах, былі ўлюбёнай тэмай школьнага фальклору. Прынамсі, у падлеткаў тыпу класа пятага і шостага. Здаецца, што даходзіла там канешне да непрыстойнасцяў, хоць скандалу, на жаль, мы

не дачакаліся.

Круцячыся вакол жанчын, Неснар у класе намагаўся рабіць тое самае. Гаворачы пра Каханоўскага ці Нарушэвіча прыплюшчваў вочы, надзімаў губы, мяняў голас пад вуркатанне голуба. Ужо яго міміка, ужо тая мадуляцыя голаса даводзілі мяне да гусінай скуры. Што ж ужо казаць, калі справа даходзіла да сутнасці справы. Неснар меў нязносную методыку выкладання літаратуры. Вельмі проста: доўга, доўга перажоўваў усё, да чаго датыкаўся. Літаратурны твор "разбіраў" на складовыя часткі, загадваў размяркоўваць асобна "малюнкі прыроды", асобна "постаці", дамагаўся "выражэння напругі", калупаўся ва ўнутранасцях гісторыі, падманваючы сябе, а яшчэ горш – і нас, што дастаткова твор забіць і спрэпараваць, і таямніца яго жыцця будзе раскрыта.

Гэтае калупанне ў вантробах і знешнасці мела традыцыйную сутнасць: у яго часы ні разу не праскоквалі за рамантыкаў, пра Норвіда не чулі наогул, пра Асныка, Маладую Польшчу, ого, шкода гаварыць. На мяне Неснар зрабіў уплыў безумоўны: так збрыдзеў з усёй літаратурай з рамантыкамі на чале, што патрэбны былі годы, каб я зноў мог даткнуцца да "Пана Тадэвуша". Зрэшты на сённяшні дзень маё шанаванне Вялікага Суайчынніка дакладна трохі ніжэйшае ад агульнанацыянальнага ўзроўню.

Адносіны Неснара да мяне былі сярэднія. Ніколі да канфлікту не даходзіла. Толькі за паўгода да атэстата, у мэтах напэўна "выхаваўчых" (каб у мяне галава не закружылася), атрымаў і па матэматыцы, і па польскай двойкі. Выснова была неадкладная: успрыняў гэта як яскравую несправядлівасць і ў "дарослае" жыццё ўвайшоў з горкім, ужо са школы вынесеным пераканаснем, што каб пацярпець паразу, не абавязкова трэба ў нечым правініцца, часам выстарчыць па-просту злой волі мацнейшага.

Другі "першапланавы" настаўнік – гэта быў гісторык Казлоўскі. Быў гэта малады чалавек. Досыць высокі, моцны, прыстойны, з цёмным румянцам. Таксама галілей, але цалкам інакшы ад там-тых, з пачуццём уласнай сілы, з бясспрэчным характарам, зрэшты, бясспрэчна разумнейшы і ад іх, і ад усіх астатніх. Іграў з цягам часу ўсё большую ролю ў гімназіі, і нават у горадзе. Пасля травенскага перавароту стаў адным з праваднікоў мясцовай санацыі...

І ён звяртаў увагу на нашых старэйшых таварышак. У супрацьлеглацсь аднак да Несара былі гэта справы сур'ёзныя. Доўгі час "хадзіў" з сястрой папулярнага "Балона", Рынкевіча - сына мясцовага адваката. Потым нешта там у іх папсавалася, і мы вельмі хутка ўбачылі "Казла" з паннай Касоўскай, высокай бландзінкай, якая ўжо атрымала атэстат. Неўзабаве яны пажаніліся. Быў гэта вялікі "грамадскі аванс" для абодвух яе братоў, Марціна і Вільгельма, якія належалі да найвышэйшых таварысцкіх сфер ў старэйшых класах гімназіі.

"Казёл" трымаў нас на кароткім павадку, але, не гледзячы на гэта, яго любілі. Чаму? Трохі справядлівасці, трохі ўпэўненасці ў сабе хопіць напэўна настаўніку, каб здабыць сабе аўтарытэт у вучняў. Не дазваляў сабе садзіцца на галаву, але свінства вучням не рабіў. Меў толькі адну слабасць: у старэйшых класах загадваў чытаць двухтомавую гісторыю – як жа называўся той нацыянальны гісторыясоф? ці не Канечны? – "Польскія логас і этас"("Польскі духоўны першапачатак і нацыянальны дух"). Была гэта сапраўдная ўмора. Ніколі больш, чым старонак дзесяць не мог адалець, тыя логасы і этасы шчэрыліся дзікімі пашчамі, як муха цэ-цэ. Загадваў нам таксама зубрыць Кутрэба. Гэта ўжо ўдавалася зрабіць.

У пятым класе "аддзяленнем" кіраваў настаўнік празваны "Кныр". Я не ведаў, што гэта значыць, і пры нейкім настаўніку назваў яго так. Той ніяк не хацеў паверыць у маю невінаватасць. Не памятаю, чым гэта скончылася, пэўна я уцвердзіў выкладчыка ў перакананні, што я - добры "фрукт". Але, калі нават тое перакананне было слушным, то ва ўсякім разе заўчасным.

**Пяты клас**

Пяты клас прынёс чатыры вялікія падзеі. Адна датычыла толькі мяне, другая – нашай сям'і, трэцяя школы, чацвёртая – усяго краю.

Гэтай чацвёртай быў травенскі пераварот. Вясна 26 года наогул абяцалася вельмі гарачай. Памятаю, ішоў адзін раз уздоўж Сувальскай. Пры камяніцах былі адчынены брамы ў малыя, ціхія падворкі. Са здзіўленнем угледзеў у іх невялікія падраздзелы салдатаў. У касках, з плоскімі штыкамі на рулях карабінаў.

Было гэта Першае Траўня. Аказалася, што ўлады баяцца прыходу калоны работнікаў са шкляной гуты "Нёман", якая, зрэшты ,знаходзілася на адлегласці нейкіх 30 кіламетраў. Рабочыя, аднак, не прыйшлі.

Пераварот страсянуў увесь горад. Стаялі тут два палкі: згадваны ўжо 77 полк ковенскіх стральцоў і 5 лётны полк. Камандзір першага, палкоўнік Альтар, здаецца, схільны быў падтрымаць легальны ўрад. На шчасце для сябе ён не паспеў вызначыцца. Лётчыкі таксама вагаліся. Затое ў нашым класе дайшло да вострай барацьбы. Цікава быў падзел сілаў: сыны мясцовага старасты, Здановічы, сын ваенкама (каменданта PKU), ніжэй падпісаны, сын адваката Рынкевіч, сын уладальніка маёнтка Маргевіч і яшчэ пару з "лепшых сфер" стаялі на баку Вайцяхоўскага. Сыны чыгуначнікаў, нап. Баклан (мянушка "Булачка", дасканалы крайні), Клебан ці Юрага, некаторыя з мужыцкіх дзяцей (Круповічы) і, наогул, прадстаўнікі народу – ставілі на Пілсудскага. Даходзіла да боек. І адны, і другія, зрэшты, з-за няясных суадносін сілаў, лічылі за лепшае выжываць у паштурхванні адзінага нашага яўрэйчыка Герша Любчанскага.

Перамога Пілсудскага не паўплывала, простая рэч, на змену маіх адносін да яго, наадварот – цяпер толькі нарадзілася ўва мне свядомая да яго варожасць.

Недзе ў сакавіку адбылася важная рэч і для школы, і для мяне: пачалі тут выдаваць паэтычны часопіс "Школьнае рэха".

Не памятаю, хто яго заснаваў. Ва ўсякім разе вялікую ролю ад самага пачатку пачаў у ім іграць адзін з найзнакамітых маіх школьных сяброў Юзаф Масьлінскі.

Часопіс памнажалі на складанным прыстасаванні, якое называлася "шапірографам". Тэксты пісалі ад рукі, адтуль поле дзейнасці для каліграфаў, хоць бы




*Ліда, чэрвень 1926. Рэдакцыя "Школьнага рэха". Стаіць першы злева "Дэха", Дэшынскі, футбаліст і звадыяш. У сярэдзіне - грозны "Керназ". Другі справа ад яго - аўтар.*

для Клебана. Масьлінскі дэбютаваў у трох ролях адначасова: як паэт, крытык і мастак. Бадай што з другога нумара пачынаючы, я змяшчаў там спрытна рыфмаваныя вершыкі-карацелькі сатырычнага кірунку. Часопіс зрэшты меў і наогул сатырычны кірунак і па-за некалькімі артыкуламі "ўступнымі", прысвечанымі гісторыі Ліды і ваколіц, займаўся неістотным высмейваннем так званых школьных балячак.

Я не завагаўся, напрыклад, ці заатакаваць сваю найвышэйшую сімпатыю, г. зн. футбол. Апісаўшы няшчасце маладога гульца, сказанага на качанне ў гразі, неад'емнай ад лідскіх футбольных, палёў, заканчваў:

*Бядак здзірае з нагі буц ,*
*Бо зняць звычайна ўжо не здолець*
*Кожны, хто хацеў бы падмагнуць,*
*Крыкне: "Хай жыве футболец!"*

Вершыкі тыя – як у Новай Вілейцы ласкавасць Вышамірскага - гарантавалі мне пасаду "класнага" паэта. Не было гэта вельмі кепска, давала пэўнае права і звычаёвыя прывілеі. Сапраўды, каб утрымаць паэтычную рэпутацыю, мусіў час ад часу рабіць нешта не зусім нармальнае, але за гэта і адказваў па льготным тарыфе.  Словам, мела месца нешта з роду "запісак вар'ята". Гэтая інстытуцыя, як вядома, іграе велізарную ролю ў гісторыі палітыкі і культуры найноўшых часоў.

Не памятаю ўжо, чаму часопіс перастаў выходзіць. Напэўна, нехта выехаў з Ліды. Памятаю толькі сваё ўзвышэнне – не адно з-за ўласнага прозвішча ў "газеце", але і з-за самой таямніцы памнажэння часопіса. Я вельмі хутка ўкруціўся ў рэдакцыю, як прадстаўнік "свайго" пятага класа. "Шапірограф" – быў проста скрутак матэрыі з пластом нечага, падобнага на студзень з аднаго боку. Я  пісаў архібрыдка, таму мне давяралі толькі круціць ручку памнажальнага апарата. Потым аркуш складалі, згіналі яго, і паўставала газета. Потым я бег з ёй у клас. Хто ведае, ці само калупанне ў выдавецтве не было больш прыемным за аўтарства?

Потым усё сарвалася. Газета не перажыла канікулаў.

Наступная па чарзе падзея датычыла сям'і. Мы мелі сумныя Каляды 1925 года. Маці пайшла ў бальніцу. У першыя дні студзеня мы атрымалі другую сястру.

Недзе той жа вясной 1926 года мы перасяліліся з драўлянага доміка ў вялікае памяшканне ў адным з нямногіх гістарычных будынкаў Ліды. Быў гэта гмах даўняга кляштара, які датаваўся, можа, аж XVII стагоддзем. Цяпер яго аддалі пад ваенкамат. Мы пасяліліся ў аднапавярховым будынку на вул. Сувальскай, недалёка ад парафіяльнага касцёла, блізка ад кінатэатра "Эдысон", два крокі ад "Амерыкі", словам – у сэрцы "цэнтра" Ліды.

Тая самая вясна прынесла яшчэ адзін стрэс, ужо чыста асабісты.

Я вельмі выцягнуўся за гэты год. Першы раз ужо не толькі размовы і чытанне пачалі мяне падсоўваць да думак пра "тыя рэчы", але і ўласнае цела. Толькі пазней я пераканаўся, што і сябры мае былі вельмі - па сутнасці – прыстойныя, і чытанне надзвычай нявіннае. Калі цяпер пачалі да мяне прыставаць тыя думкі, вобразы, захапленні – то гэта ўсё бралася з нечага таго, што разыгрывалася па-за свядомасцю ў маім уласным нутры. Нягледзячы па петрыкаўскія, менскія і каламыйскія "пачаткі" я надоўга захаваў проста неверагод-

ную наіўнасць, словы і вобразы з тых часоў не злучаліся ўва мне ў нейкую цэльнасць, і ўжо ва ўсякім разе не праяснялі тога, што цяпер пачало рабіцца са мною.

"Рабілася" гэта ў двух, герметычна аддзеленых ад сябе вымярэннях ці плоскасцях.

Неспакой цялесны. Прачынаўся, не скажу, каб настрашаны тым, што бачыў, але вельмі заклапочаны (хіба не было польскага адпаведніка?). Тая нязручнасць пхала мяне да розных рызыкоўных глупстваў. Дзіву варта, але да "натуральнай" у падлеткаў разрадкі не дайшоў ні цяпер, ні ў пазнейшыя гады.

У той час зноў закахаўся. Вартым увагі быў аднак паварот у чарговасці этапаў. Як звыкла, знаёмствы з таваркамі пачынаюцца з сясцёр сяброў. Не выдзяляў сярод іх ні адной. На Вялікдзень 1926 года пайшоў на разарэкцыю. Была прыгожая вясновая ноч. Па дарозе спаткаў адну з тых таварак. Неяк само так склалася, што мы самі завярнуліся заміж набажэнства ў цёмныя вакольныя алеі. Былі гэта могілкі, вельмі ўтульныя, поўныя бэзу і старых дрэў. Паступова паблякла за намі святло, прыціхлі спевы. Ішлі ў нейкай нечалавечай узнёсласці, не здаючы сабе спраў з нічога, як звяры, імкнучыся толькі да цемнаты і цішыні. Быў у гэтым і страх перад непазбежнасцю таго, што станецца, і ўсвядамленне той непазбежнасці, і розныя іншыя віды боязні і неабходнасці, нічога з тых ідылічных пачуццяў, якія павінны былі б, сыходзячы з літаратуры, мяне ажыўляць. Нічога асабліва ў мяне не было з выбару. Нічога з узнёсласці, што гэта менавіта тая, а не іншая разам са мною дае нырца ў тую веснавую пропасць.

Нарэшце спыніліся. Схапіў яе нязграбна ўпол. Першы нязручны пацалунак. Некалькі хвілін усё больш захапляльнага ўпівання тымі ж пацалункамі. Паступова пачала мяне агортваць дзікая радасць. Адрываўся ад яе губ, глядзеў, сам сабе не верачы. Зоркі былі завысока, толькі трохі бляклага святла. Не верылася: цалую сапраўдную дзяўчыну. Сам сябе пераконваў, што гэта праўда: кідаўся на тыя губы зноў і зноў.

Што гэта можа і павінна перацячы ў нешта такое далейшае і глыбейшае - ніщто такое не наведала маёй свядомасці. Калі нарэшце рушылі назад – не засталося нічога акрамя ўдзячнасці і захаплення.

Уласна з гэтага пачалося тое чарговае каханне. Ці сапраўды інакшае ад папярэдніх? Хіба толькі тым, што нарадзілася не з захаплення, часта выпадковага, а з удзячнасці за першую чароўную і нявінную мілосную містэрыю.

Як доўга яно цягнулася? Страшна прызнацца, не памятаю. Што горш, не памятаю ні адной наступнай сцэны, параўнальнай з той на могілках. Падзел паміж поклічамі цела і патрэбамі душы застаўся і ў тым першым "спажытым" каханні. Праз увесь час яго працягу ані разу думка аб мажлівасці знайсці ў ім выйце для ўзрастаючых ува мне незразумелых сілаў не наведала мяне. Думаеце, што перабольшваю? Вашая справа. Ніякіх доказаў з пячаткамі не маю.

Памятаю толькі, што нейкім цудам справа дайшла да маці. Пэўна, нешта здагадалася з нагоды нейкага "прыёму" для таварак і таварышаў. Адчуваў сябе вельмі "падарослеўшым" праз тую гісторыю і нават не апраўдваўся. Я лічыў правільным горача бараніць сваю абранніцу, абяцаў сваё каханне для яе на ўсё жыццё. Дапускаў пры тым характэрную нязграбнасць: паведаміў што гэта, уласна, я ўдзячны ёй за ахіленне перад брудамі (моцна, але агульна сфармулявана) жыцця. Як гэта, гаварыла, гэта не маё выхаванне, а тая... нейкая тая... ? Я не мог зразумець тых прэтэнзій. Спрабаваў павярнуць да яе ўласнай гісторыі, тлумачыў: столькі табе крыўдаў зрабіла твая свякруха, як жа ты можаш...

Маці не сумела ўсё перавесці ў жарт, махнула рукой. Гэта ці не першая непапраўная напружанасць у нашых стасунках.

**Яшчэ раз Менск**

Перайшоў у наступны клас без клопатаў: узровень школы не быў вышэйшы, чым у Новай Вілейцы. Восенню надарылася вялікая прыгода: выезд у Менск.

Якраз, у той час прыйшла вестка, што адно за другім памерлі абое Путраманты. Таксама бабка Руткоўская цяжка хварэла. Адносна лёгка мы атрымалі неабходныя візы – і гэта, зразумела, на чацвярых, маці і дзвюх сясцёр, малодшая з якіх не мела яшчэ году.

З глыбокім узрушэннем я трапіў яшчэ раз на 2-ю Сергіеўскую. Стары домік аказаўся неверагодна западлым у зямлю. Падворак скурчыўся ўдвая. Сад зрабіўся садзікам. Цётка – ніжэйшая за мяне, вельмі пастарэла. Бабка – таксама маленькая, высушаная, старэнькая.

У "новым" доме, таксама цяпер невысокім, жылі дзеці Макуевых. Леанід вучыўся "на інжынера". Ніна была на медыцыне. Вельмі старанна хавалі сваё паходжанне. Зрэшты, стары Макуеў таксама быў тут, працаваў настаўнікам.

Тры сястры спаткаліся разам, гаварылі пра тое і гэта, вельмі плакалі: я ўцякаў ад іх у горад.

Быў гэта перыяд НЭП-у. Закранула мяне адно: багацце дароў божых у крамах. Ці гэта ў параўнанні з Менскам 1920 году. Ці можа з Лідай – тыя выставы засталіся мне ў памяці па сёння. Асаблівае ўражанне зрабіла на мяне багацця слодычаў і садавіны з гароднінай. Асабліва кавуны, цалкам у Лідзе не вядомыя.

Швэндаўся па горадзе. Захар'еўская аказалася не такая ўжо і доўгая. За ёй быў знакаміты "губернатарскі" сад. Позняя восень, сухое лісце на сцежках, некалькі палёў, на якіх падлеткі ганялі мяч. Прыпыніўся каля адных з варот. Так страшна мне хацелася згуляць. Марыў, што мне запрапануюць... Не запрапанавалі. Раз толькі ласкава згадзіліся, каб падаў мяч, загнаны ў кусты каля мяне.

Ад'язджаў без жалю. Маці доўга плакала, развітваючыся з сёстрамі і бабкай. Я быў радасна ўзрушаны: новы клас, новыя таварышы, у сябе... Цягнік вырушыў з Негарэлага. Праваднік быў яшчэ тамтэйшы. Я стаў у калідоры і пачаў спяваць жаўнерскія песенькі "Млынар, пусці, сто д'яблаў", "Уланы, уланы" і яшчэ нешта ў тым духу, праваднік цярпеў, цярпеў, не вытрымаў і звярнуўся да маці, каб я вёў сябе, як належыць. Не абмінулі яго пачуццяў падтэксты тых спеваў. Маці гукнула не рызыкаваць, загадала мне быць спакойным. Пачакаў, пакуль на самай граніцы ў вагон не заскочылі кантралёры, і зноў вярнуўся да свайго, але пайшоў на саступкі і перайшоў на свіст.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, выйшала кніга Адама Мальдзіса “Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі. Восень пасярод вясны”
480 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшла “Ваенная энцыклапедыя Беларусі”,
1132 ст. Наклад 2100 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Голайда”, выйшала кніга В.В. Навасельскага “Великая война 1409 - 1411 годов. Грюнвальдская битва”.
290 ст. Наклад 315 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Логвінаў”, выйшала кніга Уладзіміра Арлова “Ля дзікага поля”.
302 ст. Наклад 1500 асобнікаў.**




**У Інстытуце беларусістыкі (Вільня) і Беларускім гістарычным таварыстве, (Беласток) выйшла кніга Вітальда Бярнацкага “Паўстанне Хмяльніцкага: ваенныя дзеянні ў Літве ў 1648 - 1649 гг.”.
184 ст.**




**У Інстытуце беларусістыкі (Вільня) і Беларускім гістарычным таварыстве (Беласток) выйшла кніга Томаша Главінскага “Забыты гарнізон. Аддзелы Корпуса аховы памежжа ў Івянцы ў 1924 - 1939 гадах”. 142 ст.**



**Капліца ў Цвермах. Лідскі раён. 2011 г.**
*Здымак С. Судніка.*